

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

16 ЛЮТАГА 2001г. № 7/4091 КОШТ 118 РУБ.







# Некропаль

Сярод старых мінскіх могілак Вайсковыя, што на вуліцы Даўгабродскай, самыя "маладыя". Ім усяго 160 гадоў. Многія лічаць, што назву "Вайсковыя" яны атрымалі пасля 1944 года, калі тут з'явіліся магілы савецкіх воінаў, што загінулі ў баях альбо памерлі ад ран у шпіталях. Насамрэч гэтая назва была адпачатку. Калі Мінск трапіў пад скіпетр расійскага імператара, тады горад наш быў цалкам каталіцка-уніяцкі, не было праваслаўных храмаў, не было праваслаўных могілак. Так што калі расейскі чыноўнік альбо вайсковец адыходзіў у іншы свет, яго не было дзе пахаваць. Вось для гэтага люду адвялі на тагачаснай ускраіне горада спецыяльнае месца. А паколькі большасць пахаваных былі вайскоўцы, дык і назву могілкі атрымалі адпаведную — "Вайсковыя".

У 1898 годзе тут пабудавалі храм у гонар святога Аляксандра Неўскага. У савецкі час могілкі мелі, праўда, нядоўга, статус афіцыйнага пантэона. Тут хавалі вядомых дзеячаў навукі і культуры, партыйных і ўрадавых функцыянераў, ветэранаў рэвалюцыі. Вядомыя могілкі ў асноўным дзякуючы таму, што тут магілы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Кажуць, што калі будзе ўсё ж вырашана перазахаваць Максіма Багдановіча, дык месца яму будзе побач з двума геніямі...

Калісьці гэта была ўскраіна. Цяпер — самы цэнтр сталіцы. Як ні дзіўна, але могілкі гэтыя — адны з самых людных месцаў наваколля. Людзі ходзяць у царкву. У дні, калі ідзе служба, у храм не ўбіцца. А ісці да храма — па алеі, дзе пахаваны славутыя людзі Беларусі...

**П. В.**

*Фота М. ПРУПАСА*









# КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні было 14 лютага — дзень святога Валянціна. У гэты дзень адны працавалі, другія мітынгавалі, трэція цалаваліся... А нехта сядзеў дома і думаў пра сваё, не звяртаючы ніякай увагі на тое, што адбываецца не толькі ў свеце, але і за ўласным акном. Такіх мала, але яны ёсць. І ўсё ж 14 лютага было...***

## ДАКУМЕНТ ТЫДНЯ

У дзень адкрыцця Беларускай кніжнай выстаўкі-кірмашу старшыня Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па друку Міхаіл Падгайны і старшыня Дзяржкамітэта інфармацыйнай палітыкі, тэлебачання і радыёвяшчання Украіны Іван Драч падпісалі дакумент, у якім зацвярджаюцца меры па практычнай рэалізацыі Пагаднення паміж урадам Беларусі і Кабінетам Міністраў Украіны аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі. Старшыні камітэтаў абмеркавалі магчымасць распаўсюджвання беларускамоўнай прэсы на Украіне і ўкраінскамоўнай у Беларусі. Дакументам прадугледжана правядзенне дзён украінскай прэсы ў нас і беларускай на Украіне. Нядрэнна!

## СПАДЗЯВАННЕ ТЫДНЯ

У гутарцы з карэспандэнтам "Звязды" Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Аляксандр Вайтовіч сказаў: "На сустрэчы з прэзідэнтам было абмеркавана пытанне наконт таго, каб законы ў Рэспубліцы Беларусь прымаліся адразу на дзвюх мовах. У нас жа паводле Канстытуцыі дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца беларуская і руская. Але на практыцы складвалася так, што пераважная большасць законаў прымаецца на рускай мове. І ў такім разе беларускамоўны варыянт закона не з'яўляецца правамоцным юрыдычным дакументам. Ён фактычна існуе для таго, каб беларускамоўная частка грамадства магла азнаёміцца з ім і зрабіць для сябе нейкія высновы. У іншых краінах, дзе заканадаўча замацавана двухмоўе, законапраекты прымаюцца адразу на дзвюх мовах. Напрыклад, у Канадзе — на англійскай і французскай, у Фінляндыі — на фінскай і шведскай і г. д. Такі варыянт магчымы і ў нас. Для гэтага неабходна, каб законапраекты рыхтаваліся і прадстаўляліся ў парламент адразу ў двух варыянтах, каб парламентарыі маглі іх абмяркоўваць і прымаць адначасова. У такім разе абодва варыянты будуць мець аднолькавую сілу, а грамадства і адпаведныя органы дзяржавы пазбегнуць юрыдычных цяжкасцяў з прымяненнем законаў.

Прэзідэнт рашуча выказаўся ў падтрымку праходжання законапраектаў у Нацыянальным сходзе адначасова на абедзвюх мовах. Акрамя таго, 7 лютага я меў неафіцыйную размову з прэм'ер-міністрам Уладзімірам Ярмошыным, дзе таксама было ўзнята гэтае пытанне. Падчас гутаркі, дарэчы, прысутнічаў і Старшыня Палаты прадстаўнікоў Вадзім Папоў. Дык вось, Уладзімір Ярмошын сказаў, што ён не бачыць ніякіх праблем пры выкарыстанні практыкі адначасовага прыняцця законаў на абедзвюх дзяржаўных мовах".

Чытаючы гэта, яшчэ раз пераконваешся ў праваце тых людзей, што пасля рэферэндуму, на якім было прынята рашэнне аб дзвюх дзяржаўных мовах у Беларусі, беларуская мова выцяснялася адкуль толькі можна, і дайшло да таго, што з 450 законаў, якія былі прыняты ў 1997—2000 гадах, толькі 9 на беларускай мове. Хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе беларускай мове будзе сапраўды вернуты яе дзяржаўны статус.

## МЕДАЛІ ТЫДНЯ

У Славенскім мястэчку Паклюка закончыўся чарговы чэмпіянат свету па біятлоне. Балельшчыкі нашай зборнай мелі магчымасць паглядзець па БТ мужчынскую эстафету 4х7,5 км. У гэтай дысцыпліне беларусы два гады назад мелі золата, а летась — бронзу. З першых хвілін наша каманда ўвайшла ў шасцёрку лепшых, затым у тройку і на працягу ўсёй дыстанцыі некалькі разоў была нават першай. Але спорт — гэта спорт і тут перамагае той, хто мацнейшы і хто змагаецца да самага фінішу. Цяжэй, відаць, за ўсіх было Вадзіму Сашурыну, які ішоў на дыстанцыі апошнім. Ён выдатны стралок, але не такі хуткі, як яго садзернікі. І ўсё ж Вадзім на гэты раз не толькі страляў выдатна, але і на лыжні паказаў сябе як належыць. І наша зборная атрымала сярэбраныя медалі, прапусціўшы наперад толькі каманду Францыі. Трэцімі былі нарвежцы. Далёка ад нас адсталі зборныя нашых суседзяў — Расіі, Украіны, Латвіі, Польшчы і Эстоніі. Так трымаць, хлопцы!

## МІЛАСЭРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Апошнім часам шмат гаворыцца пра міласэрнасць. Праўда, адны толькі гавораць, другія гавораць мала, але робяць у гэтым накірунку шмат. І ўжо І верасня гэтага года будзе завершана будаўніцтва унікальнага сацыяльнага аб'екта Рускай праваслаўнай царквы — Дома міласэрнасці на Старабарысаўскім тракце ў Мінску. Цяпер будынак Дома міласэрнасці і гаспадарчы блок ужо ўзведзены пад дах. Амаль завершана тут і будаўніцтва царквы ў гонар Іова Шматпакутнага. Пасля поўнага ўводу ў строй Дом міласэрнасці будзе культурна-асветным цэнтрам духоўна-маральнага выхавання дзяцей і моладзі. Паболей бы такіх дамоў у наш нялёгкі час, хаця лепей за ўсё было б, каб дзеці нашай краіны выхоўваліся ў сем'ях, багатых матэрыяльна і духоўна. А пакуль што трэба радавацца, што ёсць людзі, якія разумеюць сэнс слова міласэрнасць і не толькі гавораць пра яе.

## ЭПІДЭМІЯ ТЫДНЯ

Відаць, не было ніводнай зімы, каб у нашу краіну не наведаўся грып. Выключэннем не стала і гэтая зіма. Толькі за мінулы тыдзень з грыпам і іншымі рэспіраторнымі інфекцыямі ў медыцынскія ўстановы Беларусі звярнуліся каля 87 тысяч чалавек, у тым ліку ў Мінску — 26754 чалавекі. Нягледзячы на тое, што ў цэлым эпідэмія грыпу ў нас яшчэ не дасягнула свайго піку, з пачатку афіцыйнага аб'яўлення эпідэміі захварэлі ўжо 193340 беларусаў. З іх рознымі ўскладненнямі былі шпіталізаваны 603 чалавекі.

## ПОСПЕХ ТЫДНЯ

У сталіцы Нарвегіі прайшоў кваліфікацыйны хакейны турнір па выхадзе каманд у фінальную частку АГ-2002 года. Хакеісты мужчынскай нацыянальнай зборнай Беларусі паспяхова справіліся з задачай, якая стаяла перад імі. Цяпер на гульнях у Солт-Лэйк-Сіці зборная нашай краіны пачне барацьбу ў групе "В" разам з камандамі Швейцарыі, Украіны і Францыі. У групе "А" сустрэнуцца зборныя Славакіі, Германіі, Аўстрыі і Латвіі. З гэтых каманд у наступны этап трапляюць толькі пераможцы груп. Так што — да новых перамог!

## ПЛАНЫ ТЫДНЯ

На вуліцы яшчэ люты. Але ўсё ж не за гарамі вясна, а там — лета. А лета — пара адпачынкаў. Аднак адпачынак адпачынку розніца. Нямногія збіраюцца яго правесці, корпаючыся толькі ў градах. Таму ўжо загадзя многія думаюць, колькі ім будзе каштаваць паездка калі не да мора, дык хоць у які-небудзь беларускі Дом адпачынку. Кошт пуцёвак пакуль што невядомыя. Праўда, ужо сёння мяркуецца, што на пуцёўкі для "чарнобыльцаў" будзе выдаткавана 66 мільярдаў рублёў і прыкладна 65 мільярдаў — на аздараўленне працуючых. Да ўсяго сёлета ў нашай краіне пачнецца стварэнне сістэмы аздараўлення дашкольнікаў. Аднак будзе істотна скарочана колькасць пуцёвак у Расію і Украіну. Плануецца забяспечыць пуцёўкамі прыкладна 1 мільён 200 тысяч чалавек. Словам, хочаце адпачыць летам — збірайцеся і збірайце грошы ўжо цяпер. Вясна не за гарамі, а там...

ВІНШУЕМ!

# Лаўрэаты літаратурных прэмій









На чарговым пасяджэнні рады Саюза беларускіх пісьменнікаў было разгледжана пытанне аб прысуджэнні пісьменнікам літаратурных прэмій СБП.

Прэмію імя Івана Мележа атрымаў **Алесь Ветах** за кнігу прозы "Хроніка смутку" (Мінск, "Мастацкая літаратура", 1999 г.).

Прэмію імя Аркадзя Куляшова атрымаў **Юрка Голуб** за паэтычныя творы, апублікаваныя на старонках мастацкіх часопісаў у 1999 годзе.

Прэмію імя Уладзіміра Калесніка атрымаў **Міхась Тычына** за кнігу "Аляксандр Пушкін і Якуб Колас" (Мінск, "Беларуская навука", 1999 г.).

Прэмію імя Янкі Маўра атрымала **Ніна Галіноўская** за кнігу "Клубок і калабок" (Мінск, "Юнацтва", 1999 г.)

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў



Каб адзначыць 80-гадовы юбілей Івана Мележа, у Вялікай зале Дома літаратара сабраліся пісьменнікі, мастакі, артысты, прадстаўнікі грамадскасці. Перад прысутнымі выступілі намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў, паэты Ніл Гілевіч, Мікола Мятліцкі, Мікола Аўрамчык, рэжысёр Дзмітрый Зайцаў, мастачка Нінэль Шчасная, крытыкі Дзмітрый Бугаёў, Серафім Андраюк, Міхась Тычына, драматург Алесь Петрашкевіч, старшыня Беларускага фонду міру Марат Ягораў. Іван Мележ, падкрэслівалі прамоўцы, сапраўдны сын палескага краю, што праз усё жыццё пранёс шчымлівую любоў да роднай зямлі, пакінуў незабыўны след у гісторыі беларускай літаратуры, назаўжды застаўся прыкладам ахвярнага служэння радзіме. У выкананні ансамбля "Свята", а таксама барда Андрэя Зыгмантовіча прагучалі песні, прысвечаныя Івану Паўлавічу. Дэманстраваліся ўрыўкі з кінафільма "Людзі на балоце".

**М. Р.**

●

Усім маладым і закаханым была прысвечана вечарына "Світальны подых...", якую да дня святога Валянціна сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў ладзілі Беларускі Саюз мастакоў, Саюз тэатральных дзеячаў і Беларускі саюз дызайнераў. Шматлікія конкурсы, розыгрышы, сюрпрызы, пачастункі, падарункі чакалі гасцей і ўдзельнікаў свята. У фае Дома літаратара экспанаваліся творы маладых мастакоў, гучалі вершы маладых паэтаў, на сцэне дэманстравалі сваё мастацтва маладыя акцёры, спевакі і танцоры — студэнты Беларускай тэатральна-мастацкай акадэміі. Прыемна, што пачатак супрацоўніцтва творчых саюзаў скіраваны менавіта на работу з моладдзю. У планах Саюза пісьменнікаў нямала сумесных акцый з прадстаўнікамі Саюза мастакоў, Саюза тэатральных дзеячаў і іншых грамадскіх арганізацый, якія аб'ядноўваюць майстроў мастацтва.

**Н. К.**

СУСТРЭЧЫ

# У Доме Максіма Багдановіча

У Траецкім прадмесці, у музеі Максіма Багдановіча, прайшло чарговае пасяджэнне літаратурнай суполкі "Купалінка", якая аб'ядноўвае маладых паэтаў Мінскага раёна. Гасцямі суполкі былі члены бюро секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва пісьменнікі Мікола Чарняўскі, Міхась Зарэмба, Ніна Галіноўская, Міхась Пазнякоў, Яўген Каршукоў, Павел Місько, Маргарыта Яфімава.

Напачатку вучні-паэты былі на экскурсіі, якую правяла Таццяна Шубіна, што ўзначальвае экскурсійны аддзел музея. Экскурсанты змаглі ўбачыць першую кнігу Максіма Багдановіча — зборнік вершаў "Вянок", і ручнік, які вышывала маці паэта, і шматлікія фотаздымкі, і фрагмент гравюры "Сіксцінскай мадонны" — рэліквію сям'і Багдановічаў...

Уражаны пачутым і ўбачаным, юныя паэты з асаблівым пачуццём удзячнасці і замілаванасці да Максіма-кніжніка, сабраліся ва ўтульнай зале, каб паслухаць нашых сучасных пісьменнікаў і абмеркаваць свае спробы пяра.

Успамінамі пра паездку ў Ялту і наведанне магілы М. Багдановіча падзяліўся Яўген Каршукоў. Пра свае новыя творы "Здань у храме святой наіўнасці" і "Рыжая ластаўка" расказаў Міхась Зарэмба.

Міхась Пазнякоў — першы дырэктар музея М. Багдановіча, а зараз — галоўны рэдактар часопіса "Вожык" — падкрэсліў, што М. Багдановіч — гэта ўзор служэння Радзіме, узор творчага духу.

Пісьменнік Павел Місько выступіў перад маладымі аўтарамі з прэзентацыяй новай кнігі-зборніка вершаў "Ружовыя ліўні", якая выйшла ў гэтым годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Як і празаічныя творы, вершы П. Місько прасякнуты верай у чалавечую дабрыню і справядлівасць, любоўю да прыроды.

***Ступаю сцежкай асцярожна,***
***Бо чую, як зямлі баліць.***

У дыялогу з пісьменнікамі прыняла ўдзел моладзь з дзевяці школ Мінскага раёна. Асабліва спадабалася слухачам выступленне з першымі вершамі на беларускай мове пяцікласніка Максіма Касцюка з літгуртка "Крынічка" (Міханавіцкая СШ). Паэтычным майстэрствам вызначаюцца творы такіх "купалінцаў", як Юлія Гарошка з Бараўлянскай СШ, Марына Подава (Каралёвастанская СШ), Шушана Дзерысаева (Мачулішчанская СШ), Ірына Іванова (Гатаўская СШ), Соня Марозава (Міханавіцкая СШ) і многія іншыя.

Адказны сакратар секцыі дзіцячай літаратуры паэтка Ніна Галіноўская параіла моладзі слухаць, любіць і берагчы прыроду — крыніцу паэтычнага натхнення і прачытала свае творы.

Літаратуразнаўца Маргарыта Яфімава, якая часта сустракаецца з "купалінцамі", параіла ім вучыцца паэтычна перадаваць пачуцці і думкі ў класікаў і найперш — у Максіма Багдановіча.

"Калі беларускае слова просіцца на вашы вусны, дайце яму магчымасць загучаць, загучаць узнёсла і прыгожа. Пішыце па-беларуску, бо ў вас гены беларусаў, якія падкажуць вам патрэбныя словы", — параіла М. Яфімава.

Падводзячы вынікі паэтычнага дыялога, пісьменнік Мікола Чарняўскі адзначыў, што маладыя паэты атрымалі тут сапраўдны ўрок творчасці, што ў "Купалінцы" ёсць добрыя парасткі, якія жывяцца сокамі роднай зямлі.

А настаўнік-паэт Валянцін Лазараў парадаваў усіх літаратурным экспромтам:

***У музейнай гэтай зале***
***Многа добрых слоў казалі.***
***Сталым творцам, маладым.***
***Дзякуй! — творчы быў уздым!***

**Эльвіра ЯРЧАК,**
**адказны сакратар літаратурнай суполкі "Купалінка"**

ІМПРЭЗЫ

# Новая выстава ў МЗС

Вось ужо пяты раз у пераабарудаваным холе Міністэрства замежных спраў адкрываюцца выставы беларускіх мастакоў. Гэтым разам прадстаўлены акварэлі Зоі Літвінавай. Раней тут выстаўляліся народныя мастакі Беларусі Л. Шчамялёў, В. Шаранговіч. Спадабаліся дыпламатам іжывапіс У. Тоўсціка, і "народныя сцэнкі", на якія багата творчасць мастакаС. Давідовіча. Акварэлі Літвінавай напісаны ў розныя перыяды яе творчага сталення, падчас падарожжаў па Прыбалтыцы, Азіі. Першыя з іх адносяцца да 70-х гадоў, некаторыя — зусім новыя. Можна заўважыць, як мяняліся адносіны мастачкі да раскрыцця тэмы, да пластыкі вобраза, колеравага рашэння, як ад канкрэтыкі краявіду яна звярталася да абстрагаваных сімвалічных кампазіцый.

Самі супрацоўнікі МЗС называюць галерэю "выставамі на даму", разумеючы, што гэта дазваляе знаёміцца з мастакамі, не выходзячы за межы свайго будынка. На адкрыцці выставы выступіў міністр замежных спраў Беларусі М. Хвастоў. Ён прапанаваў ідэю экспанаваць гэту і будучыя выставы ў будынках пасольстваў Беларусі ў замежных краінах, на святах рэспублікі за мяжою, што "будзе карысна і для супрацоўнікаў пасольстваў, і для дыпламатаў".

**Н. Ш.**

ЮБІЛЕІ

# Закаханы ў кінематограф

## Юрыю ЦВЯТКОВУ — 60

14 лютага — у Дзень закаханых — юбілей вядомага беларускага рэжысёра, аператара, сцэнарыста, намесніка міністра культуры Беларусі Юрыя Цвяткова. Зрэшты, сам дзень нараджэння можа вызначыць лёс чалавека: творцу было наканавана заkahацца ў... Кіно.

Свой творчы шлях у кінематографе Юрый Цвяткоў пачаў як аператар. Дэбют — кінанавела "Мост" разам з Г. Удавенкам (1962 г.), потым карціна "Анюціна дарога" (1967 г.). З пачатку 70-х Ю. Цвяткоў здымае як рэжысёр. На савецкія экраны выходзяць яго стужкі "Спяшайцеся будаваць дом", "Гэта вясёлая планета" (пастаўлена на "Масфільме"), "Вясновая казка", "Пасля кірмашу", "Ясь і Яніна", "Пастух Янка", "Леташняя кадрыль" і іншыя (рэжысёр перадусім працаваў у жанры музычнага фільма). На пачатку 90-х Юрый Цвяткоў узначальвае прадпрыемства "Белвідэацэнтр", здымае дакументальныя стужкі "Хутка і што б там ні было", "Пад чужым імем", "Гісторыя адной тэлеграмы", "Рэвалюцыя дае нам права", "Было. Ёсць. Буду" і іншыя.

У народзе кажуць: цяжкая шапка Манамаха. Яе цяжар творца адчуў, калі стаў генеральным дырэктарам "Беларусьфільма", а потым — намеснікам міністра культуры. Але, нягледзячы на "чыноўніцкія" клопаты, лёс беларускага кінематографа па-ранейшаму турбуе рэжысёра Ю. Цвяткова. Прынамсі, як аўтар ён неадноўчы друкаваўся ў шматлікіх беларускіх выданнях, разважаючы аб стане беларускай кінатворчасці. Сёння мне б хацелася прыгадаць даўнішняе лімаўскае інтэрв'ю з Ю. Цвятковым. У 1994 годзе будучы генеральным дырэктарам "Беларусьфільма", рэжысёр глыбока і грунтоўна сказаў: "Бачыце, амерыканскі лад жыцця сцвярджаецца ў кожнай, нават самай пасрэднай галівудскай кінастужцы. Чаму ж мы не ідзём тым самым шляхам? Сцвярджаць свой, беларускі, традыцыйны лад жыцця мы таксама можам у кожнай кінастужцы, у тым ліку — і ў камерцыйнай. І зусім неабавязкова, каб гэта зноў быў фальклор, саломкапляценне альбо строі мінулага стагоддзя. Не толькі ж наша мінулае багацейшае за амерыканскае, але і сучаснасць цікавая... Амаль кожны станоўчы амерыканскі персанаж сядзіць ці то пад амерыканскім сцягам, ці то пад партрэтам Вашынгтона. Ні ў адной нашай карціне не ўбачыш выявы Янкі Купалы ці партрэта Уладзіміра Караткевіча. Мы быццам саромеемся ўсяго гэтага. А глядач жа наш, беларускі! Дайсці да свайго гледача! — вось адна з першачарговых і галоўных задач".

**В. Б.**



*На здымку: крытык Н. Фральцова, кінарэжысёр М. Пташук і Ю. Цвяткоў.*

АНОНС

# Клуб гітарыстаў запрашае...

18 лютага ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі мае адбыцца сапраўдная гітарная фіеста. Мінскі клуб гітарыстаў арганізуе канцэрт з удзелам вядучых музыкантаў нашай краіны. Безумоўна, гонар праграмы — выступленне Яўгена Грыдзюшкі, знанага педагога і выканаўцы, а таксама маладой "зоркі", студэнта Беларускай акадэміі музыкі і лаўрэата ўжо некалькіх прэстыжных міжнародных конкурсаў — Яна Скрыгана. У праграме заяўлены і выступленні беларускіх гітарных дуэтаў, і ўдзел гасцей з Расіі... Ну, а зала, як і заўсёды падчас канцэртаў гітарнай музыкі, ні пуставаць, ні сумаваць не будзе!

**Н. К.**

# На атрыманне прафсаюзных прэмій

Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў разгледзела матэрыялы, якія вылучаны на атрыманне прафсаюзных прэмій 2001 года і паведамляе, што для ўдзелу ў конкурсе допушчаны:

**І. За творы прозы, паэзіі, драматургіі** (дзве прэміі):

**Міхась ЗАРЭМБА** — за кнігу "Арэхавы Спас".

**Уладзімір ЛІПСКІ** — за кнігу "Мама".

**Мікола ЛУК'ЯНАЎ** — за кнігу "І цемра адступіла".

**Уладзімір ФЕДАСЕЕНКА** — за раман "Мутныя росы".

**Мікола Кутас** — за зборнік вершаў "Перазвоны".

**Мікола САЛАЎЦОЎ** — за зборнік вершаў "Азбука зорнага неба".

**Ганад ЧАРКАЗЯН** — за кнігу лірыкі "Караваны гор".

**Мікола ЧАРНЯЎСКІ** — за кнігу "Хто пакрыўдзіў кракадзіла?"

**ІІ. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць** (адна прэмія):

**МіхасьДРЫНЕЎСКІ**— за канцэртныя праграмы Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча 1997—2000 гадоў.

**ВасільКАНДРАСЮК**— за музычную камедыю "Любовь — книга золотая" і аўтарскую праграму "Любовь бывает разная".

**ІІІ. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва** (адна прэмія):

**Наталля БАШАВА** (рэжысёр-пастаноўшчык) і **Ларыса РУЛЁВА** (галоўны мастак) — за спектакль "Сястра мая Русалачка" па п'есе Л. Разумоўскай (у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача).

**УладзімірМІШЧАНЧУК** (заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў) — за плённы ўклад у выхаванне моладзі і сыграныя ролі ў тэатры, кіно, на тэлебачанні.

**Юрый ТРАЯН** (народны артыст Беларусі) за падрыхтоўку выканаўцаў вядучых роляў у балетах "Спартак", "Сотворение мира", "Щелкунчик", "Кармен-сюита" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь.

**IV. За работы ў галіне кінамастацтва** (адна прэмія):

**Віктар АСЛЮК** (рэжысёр-дакументаліст) — за дакументальныя фільмы "Добры вечар, сад, сад..." і "Андреевы камни".

**V. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва** (адна прэмія):

**ЮрыйАНУШКА** (мастак, член Беларускага саюза мастакоў) — за цыкл работ "Сляды".

**Ядвіга ВЯЛІЧКА** (выкладчык дзіцячай мастацкай школы г. Жлобіна) — за цыкл габеленаў "Прырода і мастацтва".

**УладзімірГАРДЗЕЕНКА** (мастак, член Беларускага саюза мастакоў) — за серыю работ "Мой боль — Палессе".

**Вячаслаў ПАЎЛАВЕЦ** (мастак, член Беларускага саюза мастакоў) — за серыю работ "Мой боль — Палессе".

**Людміла ПЯТРУЛЬ** (мастак, член Беларускага саюза мастакоў) — за гебелен "Лёс" — трыпціх.

**Віктар ХАЦКЕВІЧ** (мастак, член Беларускага саюза мастакоў) — за трыпціх "Балада пра Бацькаўшчыну".

**VI. У галіне журналістыкі** (адна прэмія):

**Алесь ГІБКОЎСКІ** (рэдактар аддзела часопіса "Беларусь") — за цыкл філасофска-публіцыстычных матэрыялаў "Анатомія жыцця" ў часопісе "Беларусь".

**Анатоль ЛЕМЯШОНАК** (галоўны рэдактар штотыднёвіка "7 дней") — за збалансаваныя дыскусійныя матэрыялы і актыўнае даследаванне грамадска-палітычнага жыцця ў рэспубліцы.

**Анатоль МЯСНІКОЎ** (рэдактар аддзела газеты "Звязда") — за гістарычныя нарысы "Айчыны верныя сыны" і "Дзеля гэтага трэба жыць" у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць".

**Уладзімір НІКАЛАЙЧУК** (аглядальнік газеты "Рэспубліка") — за цыкл работ пад аўтарскай рубрыкай "Званы госць".

**VII. За дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці:**

**а) за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных** (адна прэмія):

**Аляксандр АЎСІЮК** — кіраўнік народнага хору ветэранаў вайны і працы Мазырскага гарадскога Палаца культуры.

**Тацццяна БІЧЭЎСКАЯ** — дырэктар Палаца культуры шклозавода "Нёман" г. Бярозаўка.

**ВалерыйКАВАЛЕНКА** — дырэктар культурна-спартыўнага комплексу Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства Полацкае ВА "Шкловалакно".

**Людміла ЛАПЫШ** — загадчыца бібліятэкі Адкрытага акцыянернага таварыства "Фандок", г. Бабруйск.

**Вольга ЛУК'ЯНАВА** — загадчыца бібліятэкі Адкрытага акцыянернага таварыства "Віцебскдрэў", г. Віцебск.

**За высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці** (дзве прэміі):

**Ансамбль гарманістаў дзіцячай музычнай школы № 14** г. Мінска.

**Народны ансамбль музыкі і песні "Мірскія музыкі"** Дома культуры пас. "Мір" Баранавіцкага раёна.

**Народны ансамбль песні і танца "Брэстаўчанка"** ОАО "Брэсцкі электрамеханічны завод".

**Народны ансамбль танца "Белая Русь"** Рэспубліканскага Палаца культуры "Юнацтва" г. Мінска.

**Народны хор культурна-спартыўнага комплексу "Шыннік"** Палаца культуры унітарнага прадпрыемства Беларускага шыннага камбіната "Белшына".

Камісія звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на атрыманне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў 2001 года.

Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім накіроўваць да **10 сакавіка** г. г. на адрас: *220126, г. Мінск, пр. Машэрава, 21, Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай, Камісія па прэміях ФПБ (пакой 804, тэл. 223-96-83).*

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Шлях да Бога

У Горацкім раённым Цэнтры культуры прайшла прэзентацыя новага зборніка вершаў "Моей души колокола" пісьменніцы Ніны Кавалёвай. Для яе гэтая кніга — своеасаблівы рубеж. Восем год таму паэтка звярнулася да Бога, шлях быў не з лёгкіх. Але яна здолела прайсці яго, узбагаціўшы душу і сэрца. У кожным вершы — яскравыя пачуцці, душэўная сціпласць, незвычайная цеплыня. Сапраўдны храм паэзіі, дзе званы славяць Веру, Надзею, Любоў...

На прэзентацыі прысутнічалі айцец Васілій — настаяцель горацкай Спаса-Вазнясенскай царквы, С. Ляшэнка — намеснік старшыні райвыканкама па інфармацыйнай рабоце, іншыя цікавыя людзі, якія прыйшлі аддзячыць аўтарцы цудоўных вершаў. Яны надалі паэтцы, жанчыне з цяжкім лёсам, мужнасці, цярплівасці, далейшых поспехаў у паэтычнай працы.

**Іна ШУРЫНАВА**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Новыя "зоркі"

Архітэктар Генадзь Касцюкевіч, мастак Уладзіслаў Куфко, журналіст Мікола Панасюк, пісьменнік Аляксей Філатаў, салістка і кіраўнік камернага аркестра Вольга Кастэнка, спявачка Надзея Балкавая, кіраўнік дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва Віктар Чарнавокі, артыст драмтэатра Віктар Міхайлаў — вось імёны новых лаўрэатаў штогадовага абласнога фестывалю "Берасцейскія зоркі". Шосты раз праводзіўся гэты фестываль, заснаваны абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры і упраўленнем культуры аблвыканкама. Пра яго папулярнасць сведчаць і напружаны конкурс кандыдатаў на ўганараванне "зоркамі", і вялікая цікавасць прыхільнікаў мастацтва. Таму варта назваць яшчэ дзве намінацыі конкурсу: "фундатар культуры" і "чалавек года". У першай з іх на гэты раз перамог прадпрымальнік Пётр Камяковіч (дарэчы, таксама адзін з заснавальнікаў фестывалю); у другой — айцец Серафім, які летась стварыў першую ў Беларусі адшэльніцкую мясціну для малітваў і пакаяння.

## Ушанавалі мастака і паэтку

Добры творчы асяродак створаны на Бярозаўскім сыраробным камбінаце. Ёсць тут свае музыкі, спевакі, акцёры, мастакі, паэты... Нядаўна калектыў прадпрыемства цікава вечарынаю ўшанаваў двух з іх — жывапісца Анатоля Маразюка, які атрымаў магчымасць наладзіць першую персанальную выставу, і паэтку Валянціну Осіпаву, аўтарку арыгінальнага зборніка вершаў "Навстречу разлукам". Да творчасці абодвух калектыў камбіната мае непасрэднае дачыненне: ён быў галоўным фундатарам кніжкі В. Осіпавай, а экспазіцыю карцін А. Маразюка вырашыў зрабіць сталай.

## У цэнтры імя Калесніка

Ініцыятыва гэтай сустрэчы належала аддзелу адукацыі Маскоўскага раёна Брэста. Мэта яе — пазнаёміць настаўнікаў-філолагаў з працаю абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, якому, дарэчы, нядаўна споўнілася 20 гадоў. Сябры творчай арганізацыі ахвотна адгукнуліся на ініцыятыву і запрасілі настаўнікаў у навукова-асветніцкі Цэнтр імя Уладзіміра Калесніка, — слыннага крытыка і пісьменніка, які стаяў ля вытокаў літаратурнага жыцця на Берасцейшчыне, быў першым кіраўніком аддзялення Саюза пісьменнікаў. Госці з цікавасцю агледзелі экспанаты ЦЭнтра-музея, а таксама выставу новых кніг земляков. Затым адбылася шчырая гутарка пра справы і праблемы пісьменнікаў, пра выхаванне іхніх твораў у школе. Гучалі вершы, пераклады, бардаўскія песні.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Успаміналі Мікалая Рубцова

Абласное Таварыства Кірылы Тураўскага і Гомельская славянская бібліятэка правялі вечарыну "Зорка яго палёў", прысвечаную 65-годдзю з дня нараджэння і 30-годдзю з дня смерці вядомага рускага паэта Мікалая Рубцова. Артысты абласнога драмтэатра і тэатра юнага гледача "Равеснік" Палаца культуры Цэнтральнага раёна горада выканалі літаратурна-мастацкую кампазіцыю, прысвечаную жыццю і творчасці славутага паэта. Была таксама наладжана выстава яго кніг і фотаздымкаў.

## Мелодыя Палесся

Мазырскі майстар керамікі Міхаіл Васкоўскі неадназова ўдзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх выставах. Ягоныя творы экспанаваліся ў Іспаніі, Партугаліі, Італіі, Францыі, Германіі, Польшчы. Кожная работа майстра напоўнена музычным рытмам. Асноўная тэматыка — жыццё Палесся, быт яго працаўнікоў. Свае лепшыя творы Міхаіл Васкоўскі прадставіў на персанальнай выставе ў абласным Цэнтры народнай творчасці.

## Гісторыя музыкі

"Музычнае жыццё Гомеля ў XIX — пачатку XX стагоддзя" — менавіта гэтае пытанне ўзнімалася на пасяджэнні краязнаўчага аблаcного цэнтра. Мерапрыемству папярэднічала вялікая работа па зборы дакументальных матэрыялаў. Удзельнікі пасяджэння выканалі таксама і музычныя творы, якімі ў мінулым захапляліся гамяльчане.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Фестываль двухтысячнага года

Днямі дырэктар Віцебскага гарадскога Цэнтра культуры і адначасова дырэктар міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" Радзівон Бас вярнуўся з французскіх Канаў з высокай узнагародай: на 35-й Асамблеі міжнароднай федэрацыі арганізатараў фестываляў "Славянскаму базару ў Віцебску" прысвоена званне "Фестываль двухтысячнага года". За бездакорную якасць, прафесіяналізм і майстэрства яго выканаўцаў, папулярызацыю высокіх гуманных мэтаў на міжнародным узроўні. Дыплом федэрацыі ФІДАФ, якая аб'ядноўвае 320 фестываляў свету, урачыста ўспадару Басу прэзідэнт ФІДАФ прафесар Арманда Марэна.

## Міжнародны семінар

У абласным цэнтры прайшоў міжнародны семінар па Праграме Балтыйскага універсітэта, заснаванай шведскім універсітэтам г. Упсала для каардынацыі работы навучальных устаноў краін Заходняй і Усходняй Еўропы. Праграма разлічана на выкладчыкаў, студэнтаў і шырокую грамадскасць і прадугледжвае ўстойлівае развіццё рэгіёнаў на аснове навуковага кіравання прыроднымі рэсурсамі. У краінах Балтыйскага рэгіёна створана 13 нацыянальных цэнтраў ПБУ. На Беларусі такі цэнтр існуе пры кафедры экалогіі Беларускай політэхнічнай акадэміі.

**Святлана ГУК**







## Памяці Івана Мележа

**Вялікія ўрачыстасці прайшлі ў вёсцы Глінішчы Хойніцкага раёна — на радзіме народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа з нагоды 80-годдзя з дня яго нараджэння. Удзельнікі ўрачыстасцяў наведалі мясцовыя школу і музей, якія носяць імя славутага земляка. Ля помніка Івану Паўлавічу адбыўся мітынг памяці, у сельскім Доме культуры прагучала літаратурна-музычная кампазіцыя па творах пісьменніка, адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, а народныя артысты Беларусі Генадзь Гарбук і Лілія Давідовіч паказалі сцэну са спектакля купалаўскага тэатра "Людзі на балоце". Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел намеснік міністра культуры Валерый Гедройц, намеснік старшыні аблвыканкама Уладзімір Давідовіч, старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў, дэлегацыі раёнаў і вобласці.**

**А напярэдадні мерапрыемстваў у Глінішчах былі падведзены вынікі абласнога літаратурнага конкурсу "Памяці Мележа". Яго пераможцамі сталі Міхась Даніленка, Уладзімір Гаўрыловіч, Валянціна Кадзетава, Юры Максіменка (проза), Васіль Ткачоў, Тамара Кручэнка (публіцыстыка), Віктар Ярац, Соф'я Шах, Таісія Мельнічэнка, Ізяслаў Катляроў (паэзія). Прэміяй таксама адзначана група маладзейшых літаратараў.**

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## "...І неба дасць адказ высокі свой"

**Летась выйшла другое выданне кнігі "Адкуль наш род" Уладзіміра Арлова. Наклад яго, як і ў першага, — 5000 асобнікаў. І першае, і другое выданне пабачылі свет, дзякуючы недзяржаўным выдавецтвам. Першае выданне заканчвалася аповедам пра 1863—1864 гады, пра Кастуся Каліноўскага, другое — раздзелам "Беларуская Народная Рэспубліка" (ад Першага Усебеларускага з'езда да Слуцкага збройнага чыну).**

**23 студзеня ў бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кнігі. Прыйшлі аматары творчасці Уладзіміра Арлова, сярод іх людзі ўсіх узростаў, і тыя, хто робіць першыя крокі на беларускім шляху, і тыя, чые імёны даўно на слыху ў інтэлігентным асяроддзі. Адказваючы на цыдулкі з залы, аўтар патлумачыў, чаму ён увёў у кнігу новыя раздзелы. Скажам, да неабходнасці распавесці аб Смаленскім княстве яго прымусіла цудоўная беларуская гаворка, якую ён пачуў за дзвесце кіламетраў на ўсход ад дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь.**

**У. Арлоў мяркуе, што ў наступных выданнях кнігі ўключыць раздзелы пра славутых беларускіх жанчын-патрыётак Ларысу Геніюш і Наталлю Арсенневу.**

**У пісьменніка запыталіся: ён спыніўся на 1920 годзе, каб зберагчы дзіцячую псіхіку ад жахаў, якімі ХХ стагоддзе ўвайшло ў гісторыю? Бадай што так, — адказаў Уладзімір Арлоў, — кніга разлічана на вучняў пачатковых класаў, першага—трэцяга. Як распавядаць малым дзецям пра "калектывізацыю", якая каштавала краю па розных падліках ад 300 тысяч да мільёна жыццяў? Як распавядаць пра Курапаты і Хатынь? Гэта інфармацыя для людзей з большым жыццёвым досведам і мацнейшымі нервамі. Таму, хоць наступныя выданні будуць з часам дапоўнены новымі імёнамі, датамі, падзеямі, але пакуль што аўтар не ўяўляе як перайсці з 20-х гадоў у наступныя дзесяцігоддзі.**

**Як звычайна на імпрэзах з удзелам У. Арлова былі пытанні па-за абвешчанай тэмай аб злабадзённым, аб сённяшняй сітуацыі ў нашай краіне, аб перспектыве Беларускай Дзяржавы і нацыянальнай ідэі. Ніводнае не засталося без адказу.**

**Падобна на тое, што над школьным дапаможнікам "Адкуль наш род" гісторыку Уладзіміру Арлову працаваць да скону, як і над кнігай "Таямніцы Полацкай гісторыі". Прынамсі, такую думку ён выказаў уголас. Другое выданне кнігі "Адкуль наш род" адкрываецца вершам народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна:**

*Мы — беларусы заўтра і сягоння,*
*Мы — беларусы праз вякі вякоў.*
*Нястрымная Літоўская Пагоня*
*Нас кліча бараніць зямлю бацькоў.*

*Вярыгамі й вясёлкамі спавіты,*
*Наш род кранае зоры галавой.*
*Спытай, адкуль ён —*
*Дужы, панавіты —*

**І неба дасць адказ высокі свой!**

**Амаль па Канту: Беларусь — зорнае неба над галавою, Беларусь — маральны закон, што робіць нас людзьмі.**

**П. В.**

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Яшчэ адна трагічная постаць

Дбаннем апантанага рупліўца на ніве Роднага Слова Міхася Казлоўскага і яго маладэчанскіх і мінскіх сяброў выйшла ў свет невялікая кніжачка выбраных твораў вядомага ў колішняй Заходняй Беларусі паэта Хведара Ільляшэвіча. Здарылася гэта напрыканцы 2000 года. Такім чынам, доўгае (больш за 60 гадоў) хаванне ад чытачоў яго творчасці не перайшло, дзякаваць Богу, у Новы век і Новае тысячагоддзе. Кажу: дзякаваць Богу, бо плён працы многіх іншых забытых, хто жыў для Беларусі, давядзецца адкрываць і вяртаць з забыцця ўжо ў новым стагоддзі. Цяпер аматары беларускай паэзіі могуць пазнаёміцца з творчасцю Хв. Ільляшэвіча па гэтым выданні. Хоць, шчыра кажучы, пры такім накладзе (299 асобнікаў) магчымасці будуць вельмі абмежаваныя. Усё адно давядзецца ісці ў самыя вялікія бібліятэкі. Або прасіць кнігу ў тых шчасліўцаў, якім пашанцавала яе набыць.

А пазнаёміцца варта: паэт цікавы, досыць самабытны, з яркімі блёсткамі ўласнай паэтычнай мовы, са сваёй, поўнай драматызму, біяграфіяй, якая абарвалася трагічна і вельмі дачасна. Найбольш поўныя звесткі аб яго жыцці, а таксама разгляд яго творчасці знаходзім у артыкуле Арсеня Ліса "Лірыка Хведара Ілляшэвіча" ("Полымя", 1998, N 11) і ў сціслай, але змястоўнай і аргументаванай прадмове гэтага ж аўтара да кніжыцы, пра якую ідзе гаворка. Некаторыя, найбольш значныя, вядома, вехі і факты біяграфіі Ільляшэвіча мушу тут узнавіць — каб чытачы, прасачыўшы лёс аднаго, маглі лепш зразумець трагічны лёс многіх, многіх, многіх...

Нарадзіўся ў Вільні ў 1910 годзе. Значыць, прыродны гараджанін, вілянчук. Гараджанін паходжаннем — і "беларускі нацыяналіст". Факт, які заслугоўвае на ўвагу. Друкаваць вершы пачаў у 1925-м — у пятнаццаць гадоў. У 1927-м, семнаццацігадовы камсамолец-бунтар трапіў, і надоўга, у славуты астрог Лукішкі (дзе, кожны ў свой час, зведалі "ласку" пілсудчыкаў М. Танк, П. Пестрак, В. Таўлай, М. Машара, А. Салагуб, Б. Тарашкевіч і інш.). Адтуль перасылаў на волю вершы, і сябры склалі з іх кніжачку, якая і выйшла ў 1929 годзе пад назвай "Веснапесьні". (Было гэта, зазначым, яшчэ да прыходу ў заходнебеларускую паэзію Максіма Танка). Затым, на пачатку і ў сярэдзіне 30-х гадоў, выйшлі зборнікі "Зорным шляхам" і "Захварбаваныя вершы". У тыя ж 30-я блізкі да КПЗБ (партыі камуністаў) паэт рашуча адышоў ад нядаўніх аднапалчан і застаўся па-за партыйнымі групоўкамі, незалежнікам, сам па сабе. Што здарылася? Чаму? Гэта добра тлумачыць у памянутай прадмове А. Ліс. Прычынай было глыбокае расчараванне ў практыцы сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, трагічнае для паэта адкрыццё, што на ўсход ад польска-савецкай мяжы знішчаюцца ўсе заваёвы нацыянальнага беларускага адраджэння і самі адраджэнцы, — руйнуецца і гіне тое, дзеля чаго ён жыў і за што змагаўся, чаму прысвяціў і свае ўзнёсла-крылатыя адраджэнскія песні. Тое, што на яго вачах, у Заходняй Беларусі, усё беларускае душаць і вынішчаюць пілсудчыкі, — гэта яму было зразумела: на тое яны і акупанты, заваёўнікі, супроць якіх ён яшчэ падлеткам пайшоў на змаганне. Але ж аказваецца, што і ў савецкай Беларусі беларушчыну душаць! Душаць і знішчаюць неміласэрна! Аказваецца, Багіня Свабоды не там, не на Усходзе, не пад сцягамі камунізму! А дзе яна? Як быць і куды ісці? Савецкую рэчаіснасць прыняць як неадменную дадзенасць ён не мог. Бо для яго гэта азначала б не што іншае, як далучыцца да пагромшчыкаў нацыянальнага адраджэння. У час 2-й Сусветнай вайны, як і многія беларускія інтэлігенты, паэт паддаўся ілюзіі, што і з дазволу нямецкіх акупацыйных улад можна будзе нешта добрае зрабіць для Беларусі. З такіх меркаванняў згадзіўся рэдагаваць "Беластоцкую газету", чым заслужыў у суайчыннікаў кляймо калабаранта. У 1944-м быў вымушаны выехаць на Захад, дзе праз чатыры гады загінуў у аўтакатастрофе...

*Беларусь! Прыбірайся у краскі,*
*У песні бурнай і гучнай вясны!*
*Мы збудуем цябе, як у казцы,*
*Сьветлай, яснай, як нашыя сны!*

Гэта выгукнулася з яшчэ зусім маладой хлапечай душы, на пачатку жыццёвай дарогі. Якой жа вялікай, крылатай і палымянай была мара юнака — збудаваць Беларусь прыгожую, як у сне, як у казцы! А праз колькі гадоў амаль нічога такога казачна-светлага, узнёсла-мройнага ў яго паэзіі не стала.

*Па вёсках Беларусі*
*сялянскі едзе воз...*
*На ім труна ў дзярузе,*
*ў труне той — поўна слёз...*

Элегічна-мінорны настрой пануе і ў яго апошніх "заходнебеларускіх" вершах, напісаных у канцы 30-х. З болем думае паэт пра лёс Бацькаўшчыны:

*Колькі яшчэ такіх восеняў шэрых*
*Сном праплыве над Табою, Краіна?*
*Колькі яшчэ мы у далі, у сіняй,*
*Жалю нап'емся і паглядаў змерым?*

Пісаў Ільляшэвіч вершы і ў эміграцыі, на чужыне. Ну, пра гэтыя і казаць не трэба, якога яны пераважна зместу і настрою.

*Нехта стаў за вакном і маўчыць,*
*толькі дождж ціхі шорах рассыпаў.*
*Ападаюць з журбою лісты*
*пад акорды асенніх іскрыпак.*

Асабліва ўражваюць накіды да незакончанага верша "Сябрам". Божа, колькі гэтыя абрывістыя радкі могуць сказаць нам пра долю паэта і долю Беларусі, калі іх прачытаць не толькі вачыма, але і сэрцам!

*Асенні шторм. Чужы мне лістапад.*
*Лісцё мяце паўночны вецер.*
*Маўклівa я сяджу.*
*Каб глянуў хто —*
*ахінуты ў анучыны жабрак.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Ніхто рукі ня сьціснe, ня скажа*
*слова пацехі.*
*Ці згіну дзе ў дарозе,*
*ці замерзну, як сабака,*
*завыўшы ў зорнасць неба?*
*Пуста і халадна.*
*Дождж і вецер.*
*Ці чуеце вы мой голас?*

"Вы" — гэта не толькі яго сучаснікі-сябры, якіх ён успамінае і да якіх звяртаецца. Гэта — і мы з вамі, шаноўныя, мы, беларусы канца XX і пачатку XXI ст. Ці чуем жа мы яго голас — голас аднаго з тых, хто жыў для Беларусі? А калі чуем — то ці не страшна нам? У сэнсе: ці не страшна, што і нас можа напаткаць гэткі ж лёс? Калі не нас — дык нашых дзяцей, нашых унукаў і праўнукаў?.. Але — роспачы не трэба. Трэба мужнасць і вера. Эміграцыйны верш "Я сягоння расчуліўся неяк" сведчыць, што Хведара Ільляшэвіча нават і там, на чужыне, — адзінокага, занядбанага, знямоглага ад жыццёвых дарог і навальніц, — ні мужнасць, ні вера не пакінулі.

*Не зніжайце арлінага лёту*
*распрастаных магутных крыл!*
*У маланках і у грымотах*
*гартуйце моц сваіх сіл!*

*І хоць мы ідзём праз штормы,*
*і хоць гора — штодзённы наш госць,*
*зацвіце ў Беларусі прасторах*
*заўтра новая маладосць!*

Як можна заўважыць з прыведзеных мною строф, вершы Хведара Ільляшэвіча не вызначаюцца стылёвай апрацаванасцю. Хацеў бы, аднак, у сувязі з гэтым сказаць вось што. Так, сапраўды, пачуцці і думкі выказаны як правіла не зусім зграбна, каструбавата; але, але, але... Але таму, што гэтыя думкі і пачуцці датычаць самага дарагога, самага запаветнага, калі хочаце — святога ў душы паэта, — яны выказаны з такою сілай сыноўскай вернасці, з такою шчырасцю і непасрэднасцю, што поўная агрэхі формы проста не заўважаюцца. І таму — так глыбока заходзяць яго радкі ў сэрца, так трымкліва хвалююць і так балюча раняць.

ВЫСТАВЫ

# "Solo" Юрыя Якавенкі

Персанальная выстава графіка Юрыя Якавенкі "Solo" адкрылася ў Музеі сучаснага мастацтва. Сам творца назваў яе на адкрыцці прадстаўленнем сваёй "кухні", тых малых графічных формаў, дзе ён сапраўды разнявolены ад густаў і ўвагі гледача.

Асоба Юрыя Якавенкі ў мастацкім асяроддзі добра вядомая. Адно тое, што ён усе свае творчыя пошукі, не распыляючыся, прысвяціў графічнаму майстэрству, акрэслівае яго характар. Гэтаму паспрыяла вучоба ў Беларускай акадэміі мастацтваў, сама атмасфера Гродна, у якім стала жывое мастак і апошнія два гады разам з абласным СМ наладжвае выставу графікі "Мініпрынт". А найперш, думаецца, тое, што жаданне выказацца, усе пошукі і высілкі маладога мастака былі адразу заўважаны і ацэнены на прэстыжных міжнародных біенале. І першай стала Гран-пры ў 1993 г. (праз год пасля заканчэння акадэміі) на II міжнародным біенале графікі "Josep De Ribera" (г. Хаціва, Іспанія). Гэтую ўзнагароду на адкрыцці выставы дырэктар музея сучаснага мастацтва, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч назваў "вакном у Еўропу" для тагачаснай графікі. І хоць школа беларускай графікі была вядомай, заўжды мастакі мелі ўзнагароды на ўзроўні саюза, Якавенка стаў першым беларускім графікам, які атрымаў еўрапейскі прыз. Дый і для Юрыя гісторыя з Гран-пры была ледзь не дэтэктыўнай. Не спадзеючыся на поспех, ён перапраўляў лісты сваёй дыпломнай работы на конкурс са знаёмым іспанцам. І нечакана атрымаў поспех і запрашэнне наведаць Іспанію. Далей пачалося яго пераможнае "падарожжа" па Еўропе: у 1996 г. дыплом-сертыфікат І міжнароднага біенале графікі малых форм у Швецыі, у 1998 г. дыплом II міжнароднага біенале графікі і ў 1999 г. дыплом 8 міжнароднага біенале графікі малых форм у Польшчы, у 2000 г. спецыяльны прыз "Eatglmage-2000" у ЗША. Акрамя гэтага, мастак мае II прэмію ў намінацыі "Графіка" на рэспубліканскай маладзёжнай выставе-конкурсе "Час. Прастора. Асоба" (1999 г.), а ў 2000 г. дыплом Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва.



Выстава Ю. Якавенкі заваражвае віртуознасцю графічнага выканання. Невялікія экслібрысы і абстрагаваныя кампазіцыі апошніх двух год, выкананыя ў тэхніцы мецца-цінта і афорта, утвараюць складаную сістэму старажытных сімвалаў, знакаў, метафар, асабістых перажыванняў.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Пра гарадчукоў, “Філіпс”, дыялектыку і Гогаля

**1**

Усё пачалося з таго, што напрадвесні ў маю гарадскую кватэру завіталі гарадчукі. Землякі са старажытнага Давыд-Гарадка. Пагарынскія местачкоўцы, у адрозненне ад прагматычных гараджан, дагэтуль не пазбавіліся вобразнага бачання навакольнага свету і прыроднага пачуцця гумару (бо не плакаць жа, сапраўды, з-за такой дробязі, як паводка, калі непрадказальная Гарынь штогод падтапляе гарадчукоў!), трапна ахрысцілі маё жытло ў шэрай панэльцы “шпакоўня”, а кватэру з двума сумежнымі пакоямі — “скразным калідорам”, які, уявіце, пачынаецца ад невялічкай пярэдняй і заканчваецца балконам, калі, сапраўды, не ўлічваць двух дээспэшных дзвярэй на працягу гэтага скразнога калідора. Вось балкон (ці, калі ўжо на гарадскі манер, зашклёная лоджыя) гаспадарлівым гарадчукам спадабаўся — лішні пакойчык, няхай і невялікі.

Урэшце, працягвалі разважлівыя гарадчукі, сёння, можа, не так ужо важна — д з е жыць, паколькі мяжа паміж горадам і вёскай, калі па першым часе і існавала, даўно сцерлася і наогул здаецца ледзь не прыдумкай і прыхамаццю розных там пісакаў.

Іншая справа — я к жыць... Або, як цяпер модна казаць, — выжываць. Во! Ішлі-ішлі ў “светлае будучае”, а трапілі ў нейкі “пераходны перыяд”, трасца яго! Калі ў хуткім часе не выблукаем з напаўцёмнага тунеля, гэта будзе ўжо не “перыяд”, а цэлая эпоха. Бо калі ўзгадаць славутыя пяцігодкі і сямігодкі — тут знявагай саўдэпаўскай сістэмы на дэсідэнцкім узроўні не абыдзешся. Слухалі забаронныя і таму, можа, такія салодкія “галасы”, потым давалі волю пачуццям на цесных кухнях — выказваліся і абураліся, а дзяржаўны карабель, не зважаючы ні на якія кухонныя праявы “стыхіі”, нёс на сваім борце ўсіх — задаволеных і не вельмі.

Сёння — іншае... Карабель моцна пашкоджаны. Карабель, згубіўшы курс, дрэйфуе ў неспакойнай акіянскай прасторы. Ці хутка выплывем? Куды наогул плывём?..

Карацей, як ужо бывае ў такіх выпадках, пасля традыцыйнага застолля прагаманілі за поўнач.

Уранні гасцям не было вялікай патрэбы кудысьці спяшацца, тым не менш, хутчэй ужо па сялянскай звычцы, падхапіліся разам з гаспадарамі; нявыспаныя, напаўапранутыя моўчкі лыпалі вачыма з прыстасаванай пад ложак раскладзенай канапы, як гаспадары па-гарадскому, на хаду глытаючы гарачы чай з учарашнімі бутэрбродамі, перакінуліся двума-трыма словамі з імі, гасцямі, і разбегліся ў розныя бакі.

**2**

Ужо ў службовым кабінеце, недзе за гадзіну да абедзеннага перапынку, узгадаў, што мае гарадчукі там, у пустой кватэры, мусіць таксама прагаладаліся... Патэлефанаваў, каб адчувалі сябе, як дома, асабліва — на кухні, паблізу халадзільніка, а то давядзецца да вечара займацца вымушаным галаданнем, да слова, модным сёння сярод моладзі, чаго не скажаш у дачыненні да пажылога люду, да якога я далучаў і маіх гарадчукоў. Тое, што яны — народ наогул сціплы, цярплівы і непераборлівы, асабліва ў гасцях (Божа барані, каб адной сваёй прысутнасцю дабавіць клопату гаспадарам!), я добра ведаў. Але тое, што на гэты раз ступень іх сціпласці абмяжуецца шклянкай пустога чаю на ўвесь дзень! — папраўдзе, зусім не чакаў. Урэшце, калі ўжо быць да канца дакладным, справа не дайшла і да шклянкі пустога чаю...

Здарылася непрадбачанае. А пачалося ўсё з таго, што з самаварам гарадчукі вырашылі не звязвацца, а калі на вочы трапіўся зграбны бліскучы чайнік, вырашылі ім пакарыстацца. Нікога не насцярожыла тое, што накрыўку нібыта заела, і чайнік вадой спехам напоўнілі з крана праз караткаватую шырокую дзюбу.

— Бач ты, з нержавейкі! — з нейкім унутраным гонарам азваўся адзін з гарадчукоў — сівагаловы Пархом, нібыта падкрэсліваючы гэтым, што ён, патомны местачковы бляхар, мае прафесійную прыналежнасць і да нержавейкі і ведае ёй сапраўдную цану. З гэтымі словамі ён урачыста паставіў чайнік на газавую пліту. Сернікаў пад рукой не знайшлося, таму давялося скарыстаць кішэнную запальнічку.

За тым, што адбывалася на кухні, спакваля сачыў яшчэ адзін гарадчук — Макун, маўклівы, вогненна-рыжы брыгадзір местачковай рыбацкай арцелі, з твару якога, здавалася, ніколі не сыходзіў недаверлівы, скептычны выраз, да якога штохвілінна прымешвалася адценне нейкай унутранай насцярогі: маўляў, ну і што ты хочаш гэтым сказаць?

Зараз Макун, знаходзячыся недзе далёка ў думках (ці не з арцеллю на Гарынскім плёсе?), у нейкім ціхім здранцвенні выпадковага назіральніка сачыў за звыклымі рухамі старога Пархома, і на твары Макуна пакрысе акрэсліваўся скептычны выраз: ну-ну, цікава... і што з гэтага будзе?

Невядома, колькі хвілін цягнулася нямая сцэна на кухні, невядома, хто першы заўважыў, як з-пад чайніка зашугалі злавесныя космачкі чорнага дыму з характэрным атрутным пахам, які імгненна казытнуў чуйныя насы нашых гарадчукоў, аднак ускочылі і ўсчалі лямант яны адначасова. І пакуль бляхар Пархом нешта блазніў і бесталкова ўзмахваў рукамі, маладжавы Макун падскочыў да пліты, спрытна падхапіў чайнік з палаючым содам і шпурнуў яго ў ракавіну ўмывальніка, і ў той жа момант адтуль шугануў слуп пары, адначасова пачулася аглушальнае шыпенне — нібыта даваенных часоў паравоз чмыхнуў на перагоне, па-старэчаму, з крэктам, стрымліваючы пасля экстраннага тармажэння напіраючую армаду цягніка.

Карацей, прыехалі... Спод чайніка, пасля таго як ён скончыў пагражальнае сваё шыпенне (а чорны атрутны дым напалову з парай разышоўся па кутках кухні), нагадваў ландшафт паверхні Луны — вычварныя пухіры самага рознага дыяметру і калібру, павылупляліся на сподзе імпартнага “Філіпса”, зробленага са сплаву пластмасы і смолаў.

Толькі пасля таго, што адбылося, было заўважана і гняздо-падстаўка — гэткага ж складанага сплаву пластмасы і смолаў прыстасаванне, ад якога чайнік хвілінай таму быў адняты і ад якога змяіўся да разеткі чорны шнур.

Макун паспрабаваў быў уладкаваць чайнік на месца, але суродаваны носьбіт славутай фірмы “Філіпс” сядзеў на сваім пастаменце — пластмасавай падстаўцы — настолькі касабока і недарэчна, што Макун, коратка і ненатуральна рагатнуўшы, зняў яго з гнязда, крытычна і спачувальна агледзеў, пасля чаго асцярожна, быццам баявую міну, адставіў чамусьці зноў у ракавіну ўмывальніка.

Дзіўная рэч: самы раз, здавалася б, пасмяяцца над толькі што ўчыненым, але смех выпарыўся некуды яшчэ на падыходзе ў грудзях; іншым бы разам гарадчукі не ўпусцілі момант незласліва пакпіць адзін з аднаго, а тут адно скрушна ўздыхалі ды па чарзе вінавата адводзілі вочы ў бок... Канешне. Тут ужо, як гаворыцца, не да чаю... Крыўдна й тое, што абодва былі не заўзятымі аматарамі гэтага папулярнага пітва; заўсёды, калі памяць не змяняе, нашы гарадчукі аддавалі перавагу больш моцным і не менш папулярным напоям, пераважна саракаградусным. А тут такое нарабілася...

**3**

Гарадчукі былі гэтак узрушаны непрыемнасцю, якая адбылася з імі ранічкай на чужой кухні, што ледзьве дачакаліся гаспадароў з працы, і як мы ні ўгаворвалі іх застацца яшчэ на ноч, не паслухаліся і падаліся на чыгуначны вакзал, каб адтуль ужо, хутчэй за ўсё на “перакладных”, дабрацца за ноч дадому.

У нечым, вядома, я разумеў сваіх землякоў, тым не менш, мне нічога не заставалася, як, папярэдне распытаўшы бывалых мінчукоў, накіравацца з непрыгодным для ўжытку імпартным чайнікам у авосьцы па ўказаным адрасе — майстэрню па рамонце электравырабаў фірмы “Філіпс”, недзе ажно на паўночна-ўсходняй ускраіне горада.

Пакуль дабіраўся, мяне не пакідала ўпэўненасць, што праблема будзе імгненна вырашана, і толькі я пераступлю ганак жаданай майстэрні з магічнай назвай “Філіпс”, мяне несумненна аблашчыць еўрапейскі сервіс абслугоўвання.

Напярэдадні маёй вымушанай вандроўкі на паўночна-ўсходнюю ўскраіну горада, сусед па лесвічнай пляцоўцы, пажылы электрык з аўтазавода, пакратаўшы чорным паўсагнутым пальцам пластмасавыя пухіры на сподзе чайніка, з веданнем справы запэўніў мяне, што рамонт імпартнага “прымуса” абыдзецца мне ў нейкіх там пяць “баксаў” — не болей.

Ну, у пяць дык у пяць... Не тая лічба, каб адчайвацца, нават калі гэта і выкінутыя на вецер “зялёныя”, якімі нам пакуль не плацяць зарплату.

Шыкоўную электрычную шыльду “Філіпс”, якая ўпрыгожвала фасад майстэрні, я прыкмеціў яшчэ з тралейбуснага прыпынку. Гэтая абставіна неяк адразу выставіла “Філіпс” у выгадным свеце, выклікала давер і сімпатыю да тых, хто прадстаўляе знакамітую фірму.

Ды й сама майстэрня знешне нагадвала сучасны офіс. Асцярожна пацягнуўшы на сябе белыя пластыкавыя дзверы, я з пачцівым выразам на твары зайшоў у жаданую майстэрню — нібыта на іншую планету трапіў, шкадуючы толькі аб тым, што не ведаю замежнай мовы.

Аднак перасцярогі мае былі дарэмнымі — перакладчык не спатрэбіўся. На прыёмцы наогул нікога не аказалася, і толькі хвілін праз дзесяць нехта з завостраным дробным тварам, вірлавокі, у зашмальцаваным да бляску фартуху, з патухлай цыгарэткай у куточку рота, звярнуў на мяне ўвагу, і то, відаць, выпадкова, бо з нейкімі паперкамі кіраваўся па сваіх справах.

— Якія праблемы, шаноўны? Толькі ў тэмпе давай — прыёмшчыца на бальнічным, я тут часова...

Крыху расчараваны такім прыёмам, я моўчкі выставіў на запэцканы столік бліскучы электрачайнік, дэфармаваны спод якога, зразумела, не надаваў аптымізму. Магчыма, таму ў першую хвіліну зрабілася няёмка, быццам мяне вымусілі выставіць напаказ незнаёмаму чалавеку ўласную балячку. Ад сораму за чужую неахайнасць хацелася праваліцца на месцы, схавацца за гэты чайнік, і я міжволі адвёў вочы ўбок.

Між тым вірлавокі, паўразявіўшы рот (з якога акурак, аднак, не выпаў, што мяне надзвычай здзівіла), атарапела разглядваў чайнік з розных бакоў, быццам дзіва нейкае, пакуль нарэшце не засяродзіў увагу на яго скурочаным агнём пластмасавым сподзе.

— Кх-х-ма! Ета хто ж яго так?.. — вірлавокі здзіўлена-весела пазіраў на мяне, і здзіўленне яго было настолькі непадробным і шчырым, што я міжволі таксама зірнуў на толькі што выстаўлены мной электравыраб знакамітага “Філіпса” і, у сваю чаргу, не надта ўпэўнена пацвердзіў:

— Электрачайнік... гэта.

— Ды я бачу, што чайнік... — Здзіўленне нечакана прарвалася раздражнёнасцю ў голасе. — Я аднаго толькі не магу ўцяміць: як можна гэтак суродаваць дарагую рэч?.. Ну, сапраўды, як бог чарапаху! Кха-ха-ха! — Вірлавокі сутаргава ўсхроп, потым асцярожна пакратаў рукой востры кадык на гарляку, быццам стрымліваючы прыступ ненатуральнага смеху. — Ну не пацеха? Цырк на дроце!

— Ды я быццам не ў цырк выбраўся... Як наконт рамонту? — стрымана пацікавіўся я, не падзяляючы прыўзняты настрой вірлавокага.

— От жа людзі! Ты такі, дарэчы, тут не першы, — не слухаючы мяне, вірлавокі, нешта такое ўзгадаўшы, нібыта знайшоў раптам адтуліну, каб ад душы высмяяцца за цэлы дзень. — Тут, на мінулым тыдні, таксама з’явілася адна асоба з пыласосам. Во была хохма! Яшчэ ж не старая кабета, каб сказаў — які склероз ці іншая халера... ну. Мо клімакс? Дык ты слухай! — ужо даверліва, з ціхай змоўніцкай усмешкай, як свайму даўняму знаёмаму, распавядаў ён далей. — Дык яна наогул выкінула... смяртэльны нумар! Карацей, пасля прыезду з курорту, узялася прыбіраць кватэру і, шуруючы пыласосам пад ложкам, забіла яго кацінным дзярмом. Натрамбавала даверху! Па самую завязку! Ну, ка-а-нец свету! — заходзіўся ад з’едлівага, сутаргавага смеху вірлавокі. — Звышадчувальная замежная электроніка не вытрымала: схемы размагніціліся, нешта там задыміла, засмярдзела... нейкая там атрута пацякла... Карацей, “Філіпс” на вачах гаспадыні адкінуў капыты. Ды й саму гаспадыню ад такога відовішча ледзь не хапіла кандрашка — абамлела. Каб не той самы бедны кот, што пачаў гойсаць па кватэры і мяўкаць, каб не суседзі... уяўляеш? — вірлавокі, нарэшце, абарваўшы дурасліві смех і махнуўшы рукой, зноў затрымаў абыякавы позірк на чайніку:

— Ну, дык што ў нас здарылася?

Я, распаволены аповедам вірлавокага, паведаміў яму сваю гісторыю, але той больш не смяяўся, а неяк адразу засумаваў.

— Ну вось... Яшчэ адзін артыст пагарэлага тэатра. І што далей?

— Як што! — не вытрымаў я. — Я ў майстэрню трапіў ці... ў балаган? Куды?

— Туды! Кхм-м-м... — усхліпнуў вірлавокі. — Ведаеш, шаноўны, у колькі ўмоўных адзінак абыдзецца табе рамонт?

У душы я пачаў патроху ненавідзець вірлавокага:

— Кажы, як ёсць. У колькі?

— У калькуляцыю, шаноўны. Іншага чалавецтва пакуль не вынайшла. Так от, — з гэтымі словамі ён выцягнуў аднекуль з-пад стала нейкі пухнаты, пазначаны плямамі таямнічага паходжання талмуд і, паважна пapляваўшы на пальцы, пачаў яго гартаць. Адшукаўшы патрэбную старонку, з пераможным выглядам тыцнуў рудым пазногцем у слупок нейкіх лічбаў. — Ну вось! Цяпер, шаноўны, давай дамовімся: я буду лічыць, а ты запамінай на ўсялякі выпадак... Ці лепей запішы. Ну, паехалі? Трымай штаны, шаноўны!

Лічыў вірлавокі ва “ўмоўных адзінках”, якія адпавядалі курсу амерыканскага даляра. Хутка даляраў тых набралася болей сотні, што, зразумела, не ўзняло мне настрой.

— Дык за такія бабкі прасцей набыць новы чайнік! — міжволі вырвалася ў мяне.

— Прасцей, так, — ахвотна пагадзіўся са мной вірлавокі і, спачатку адарыўшы мяне прамяністым позіркам, азадачыў простым пытаннем:

— А стары куды падзенеш? Гэта па-першае. А па-другое... у калькуляцыі не ўлічана перасылка.

— Якая яшчэ перасылка? — машынальна, бясколерным голасам перапытаў я, страчваючы рэшткі надзеі.

— У Галандыю. Праз два месяцы атрымаеш чайнік як новы.

— Толькі й усяго? — я нібыта памяняўся ролямі з вірлавокім і цяпер таксама — здзіўлена і весела — пазіраў на яго, шкадуючы ўжо не скалечаны чайнік, а хіба толькі дарэмна змарнаваны час.

— Ну, калі на перасылцы нічога не здарыцца... — сумеўся вірлавокі, падазрона касавурачыся ў мой бок. — Я гарантаваць на ўсе сто не магу.

— У такім выпадку будзе не лішнім параіцца дома — грошы немалыя... — я зразумеў, што трэба развітвацца і, пажадана, без прамаруджання.

Я ўзяў са століка няшчасны “Філіпс”, як чужую рэч, для чагосьці павагаў яго ў руках, можа, для таго, каб раптам адчуць усю яго штучнасць і... непатрэбнасць. Чамусьці адразу ўспомніліся ў свой час модныя кубік-рубік, электронныя забаўкі... Яны ўзнікалі ў сённяшнім мітуслівым, тлумным жыцці, імгненна завалодваючы прасторай і агульнай увагай, потым гэтак жа раптоўна некуды знікалі. Назаўсёды. Не дзіва: у цацкі век кароткі.

Я сумна ўсміхнуўся, узгадаўшы свае нядаўнія спадзяванкі, звязаныя з выратаваннем “Філіпса”... Да мяне раптам дайшло: мы не ўяўляем сваё існаванне без такога ёмістага для нас паняцця, як “рамонт”; мы — не адно пакаленне — пражывалі свае жыцці з гэтым неад’емным ад нашай рэчаіснасці, хадавым слоўцам, без якога, бывала, кроку не ступіць, таму, можа, і не ведалі, што, скажам, сапсаваны электрачайнік, як у маім выпадку, можна і не рамантаваць, а проста замяніць на новы, і гэта будзе хутчэй, зручней і нават танней. Так-та яно так... Але ж яшчэ Гогаль некалі заўважыў: “тое, што немцу добра, рускаму чалавеку — смерць”. А ён-та ведаў, што гаварыў... Ведаў. У чым я лішні раз пераканаўся, калі мяне раптам як аднекуль зверху, асяніла ідэя таго ж вечара ўручыць сапсаваны электрачайнік “Філіпс” знаёмаму токару з электрамеханічнага завода , затым аддзячыўшы таго па-айчыннаму традыцыйна — парай пляшак вадкай саракаградуснай валюты, — праз нейкія два-тры дзянькі ўжо зноў пачаў карыстацца бліскучым “Філіпсам”.

Што ні кажы, зручная і практычная рэч. Нават, калі “цацка”...

А што тычыцца Гогаля — класік, вядома, меў рацыю. Проста ён жыў у сваім часе і не мог ведаць слова “дыялектыка”. Бо калі б ведаў, магчыма, і не спаліў бы другі том “Мёртвых душ”.

Але гэта ўжо іншая тэма.

**Уладзімір ГЛУШАКОЎ**





## "Песня душы"

Сергей Лоцманов

ПЕСНЯ ДУШИ



**"Песня душы" — другая кніга вершаў горацкага паэта Сяргея Лоцманава. Як і першая "Истоки", яна пабачыла свет у самiх Горках. Прадмову "...Я живу, словно в сказке старинной" напісалі М. Студнева і У. Ліўшыц. З гэтага артыкула, а тым больш з саміх вершаў відаць, што С. Лоцманаў з тых аўтараў, якія, застаючыся традыцыяналістамі, закранаюць вечныя тэмы, спрабуючы даць ім сваё асэнсаванне, выказаць уласнае стаўленне да свету і людзей. Прываблiваюць творы, у якіх С. Лоцманаў не проста апявае хараство роднай прыроды, а малюнкі яе перадае праз стан лірычнага героя, які паўстае чалавекам, знітаваным з усім гэтым хараством, больш таго — яго настрой, калі можна так сказаць, адпавядае і настрою самога лірычнага героя. Гэта адчуваецца і ў вершы "Парк", якім кніга адкрываецца:**

*Зима морозная такая,*
*И как до неба, до весны,*
*Снега, нисколечко не тая,*
*Таят земли беззвучной сны.*

*В оцепененьи парк томится,*
*Он скован памятью своей,*
*Припомнил голоса и лица*
*Его наведавших людей.*

**Парк у вершы здатны разважаць, ён валодае памяццю і захоўвае ў ёй шмат чаго. У яго ёсць душа, а яна "уже сумела привыкнуть к шалостям детей". І лірычны герой таксама шмат што памятае: "Наташа, Коля, Саша, Лена" — // Читал, смотря по сторонам, // И стал с тех пор я непременно // Деревья звать по именам". Гэтая адушаўлёнасць прыроды, што сугучна настрою чалавека, і ў вершы "ххх Стареющий февраль..."**

*Стареющий февраль, осознавая,*
*Что дни весенние близки,*
*Лютует, дико завывая,*
*От нарастающей тоски.*
. . . . . . . . . . . . . . . .
*Лишился вдруг и я покоя,*
*Раздумий разгоняя муть,*
*Как мать, я землю успокою:*
*Ну, потерпи еще чуть-чуть.*

**А ў вершы "Июль" паэтычны малюнак куды больш разгорнуты. С. Лоцманаў не проста бачыць лес, ахутаны пажарам. Перад вачыма нараджаюцца іншыя матывы, што паядноўваюць у сабе сённяшняе і мінулае, дазваляючы перакінуць свайго роду масток у даўнія часы:**

*Июль сердитый нас замучил зноем*
*И, как назло, ничуть не подобрел:*
*Вчера я видел, словно после боя,*
*Средневековый градом лес горел.*

*Как перед казнью лица у рябинок,*
*И молчалив, как вымерший посад,*
*Живущий ожиданием росинок*
*В себя влюбившийся звезды старый сад.*

**У прыродзе няма нічога выпадковага, у ёй усё паяднана і ўзаемазвязана. І як у жыцці наогул. Толькі трэба ўмець перадаць гэтую повязь праўдзіва і пераканаўча, і тады загаворыць сама паэзія. Як і ў гэтым безыменным вершы, у якім лірычны герой таксама пераносіцца на шмат стагоддзяў назад:**

*К земле я припал на мгновенье —*
*Доносится топот коней:*
*Иль то на Немиге сраженье,*
*Иль Витень с погоней своей?*

**Увайшлі ў кнігу і творы пра каханне. Не абыходзіць С. Лоцманаў чарнобыльскую тэму. Не сказаць, каб усе вершы ўдаваліся аўтару ў аднолькавай ступені, але лепшыя пераконваюць, што аўтару ёсць пра што сказаць і ён умее заставацца самім сабой.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# "Калосьсе" пад сярпом часу

Калі цвярозымі вачыма азірнуць нашую сённяшнюю літаратурную, а ўвогуле і ўсю культурніцкую прастору, то можна заўважыць, што яна дастаткова насычаная мастацкімі выданнямі пэўнага накірунку, больш за тое, падчас нават складваецца ўражанне, што выданні тыя не заўсёды бываюць запатрабаванымі дарэшты той самай прасторай.

Я тут маю на ўвазе як дзяржаўныя, так і недзяржаўныя часопісы, газеты і альманахі — і тыя, што *не выходзяць* з агульнага рэчышча афіцыйнай палітыкі і ідэалогіі, і ў рознай ступені апазіцыйныя.

Іх мастацкая скіраванасць — рэч асобная.

Хачу засяродзіць увагу публікі, што агульны наклад гэтых (перыядычных і спарадычных, беларускамоўных, двухмоўных і рускамоўных) выданняў не перасягае і 20-ці тысячаў асобнікаў штомесяц.

Пра што гэта гаворыць? Як на мой погляд, пра тое, што культурны, духоўны і адукацыйна-асветніцкі ўзровень развіцця беларускай нацыі знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні, як, дарэчы, і эканамічны.

Нельга сказаць агулам, што літаратура нашая выпхнута самой дзяржавай *на абочыну* жыцця. Хутчэй, яна сама, збіўшыся з панталыку ў фармальных, ідэйных і матэрыяльных пошуках, *суверэнізавалася*, а часам, ідучы на повадзе амбітных настрояў і ўзвысілася над паспалітай і, зазначым, малалікай чытацкай публікай. Крый Божа думаць, што я тут некага ў нечым папракаю. Ані. Я сам прытрымліваюся Хрыстовых канонаў: *Божае — Богу, а кесарава — кесару...* І ўсё-ткі недзе ў падсвядомасці варушыцца неўтаймоўны чарвяк сумнення...

Адным словам, і залежныя ад слабай дзяржаўнай падтрымкі, і тыя, хто ўжо займеў цяжкі вопыт выжывання ў аўтаномным рэжыме, апынуліся, хоць і на розных крыгах, але ў адной халоднай рацэ *супярэчлівых* пераменаў падчас рыначнага сацыялізму на Беларусі...

Мне ж хацелася б сёння больш шырока пагаварыць пра адно з незалежных нашых выданняў, што ўзнікла на самым пачатку 90-х. Я маю на ўвазе альманах "Калосьсе", апошні — восьмы — нумар якога нядаўна пабачыў свет. Нягуста: за сем гадоў — восем нумароў. Але ж — самі, сваімі *лакальнымі* творчымі сіламі, без дзяржаўнай фінансавай падтрымкі!

Я іншым разам цешу сябе тым, што, мажліва, маю, калі не пэўнае, дык ускоснае дачыненне да ўтварэння Таварыства Вольных Літаратараў. Бо ў той час, калі "Тутэйшыя" *валам павалілі* ў Саюз пісьменнікаў, меў я няшчасце аднаго з іх так супрацьпаставіць старэйшым "саюзаўцам", што тыя не выказалі даверу майму *"візаві"* на прыёмнай радзе СП. Наваполацкі паэт Алесь Аркуш (а гэта быў менавіта ён "біты ў ролі невінаватага") апынуўся ў трывожнай разгубленасці, але, дзякаваць Богу, надоўга не *ўпаў* у творчую прастрацыю. На супрацьходзе і астаткавай *рэверснай* энергіі ён неўзабаве стварае ў сябе на Полачыне гэтае ўпомненае мной таварыства. Было тое ў траўні 1993 года. А ўжо напрыканцы года ТВЛаўцы сумесна з пастаўскім літаратурным аб'яднаннем на чале з Алесем Касценем і дырэктарам раённай друкарні Уладзімірам Шыкам выдалі *на-гара* свой першы нумар альманаха "Калосьсе". Зрэшты, часопіс гэта ці альманах? — пытанне адкрытае. Па форме і змесце — безумоўна часопіс. Па перыядычнасці з'яўлення, геаграфічнай ды ідэйна-мастацкай заангажаванасці — альманах. Зазначу, што "Калосьсе" і *"вырасла"* з паўпадпольнага альманаха "Ксеракс Беларускі", які ўсё той жа Алесь Аркуш выдаваў з 1990 года. Рэдакцыйнае і аўтарскае ядро альманаха "Калосьсе" вызначылася, можна сказаць, адразу і захавалася ажно да гэтага часу: Алесь Аркуш, Вінцэсь Мудроў, Юры Гумянюк.

Тое, што рэдакцыйная рада не зазнала асаблівых зменаў на працягу сямі гадоў, гаворыць пра сталасць і ўстойлівасць як мастацкай так і ідэйнай скіраванасці выдання і самога *вольнага* літаратурнага таварыства.

А вось звужанае аўтарскае кола не дае падстаў для аптымізму. Іх (аўтараў найбольш вызначальных твораў альманаха) можна пералічыць на пальцах: усё тая ж рэдакцыйная рада (Аркуш, Гумянюк, Сідарук, Мудроў), ды, у дадатак да іх, — Пацюпа, Чарапка, Мінкін, Сільнова, Васючэнка, Кісліцына, Фурсевіч, Кавалёў, Вашко, Брусевіч, Мазько ды Гала Гара... Усе астатнія на працягу сямі гадоў былі і ёсць аўтарамі выпадковымі альбо *"аднаразовымі"*. Але нават і пералічаныя мною не складваюцца ў нешта адзіна паўнавартаснае, а, як у тым калейдаскопе, пры кожным, нават выпадковым, зруху *пераскладваюцца* ў новы эфемерна-няўстойлівы мастацкі ўзор...

Каб у вас не склалася ўражанне пра маю суб'ектыўную зацыкленасць, хоць яна ў пэўнай меры прысутнічае тут, але ні ў якім разе не прэтэндуе на "адзіна правільны погляд" і нейкія артадаксальныя высновы ці, крый Божа, *прысуд*, давайце звернемся да саміх *"падсудных"* і *дамо слова* іх галоўнаму ідэолагу Алесю Аркушу. Вось, да прыкладу, як адказаў ён у інтэрв'ю свайму паплечніку *па цэху* Ігару Сідаруку напрыканцы мінулага года на пытанне "ці можна назваць творы, якія друкуюцца на старонках "Калосься" традыцыйнымі?": "Раней я называў кансерватыўным усё, народжанае савецкай свядомасцю. Але сёння бачу, што гэта не кансерватызм. Наадварот, гэта прыклады наўдалага эксперыменту, у нейкім сэнсе няспраўджаны авангард. Беларускі эстэтычны кансерватызм толькі паўстае на нашых вачах. Мы, рэдактарскі калектыў "Калосься", будзем спрабаваць яго выяўляць на старонках нашага часопіса..."

І — далей, на пытанне "ці не паўплывала на эстэтычную палітыку "Калосься" назва часопіса, якая, відавочна, кансерватыўная?", адказвае так: "Часопіс з такой назвай выходзіў у 1935—39 гадах у Вільні. На яго старонках друкавалася ўсё варта адметнае, што пісалася па-беларуску, у тым ліку й савецкімі пісьменнікамі. Такі падыход нам падабаецца. Бо любы радыкалізм — рэч абмежаваная, а для беларусаў, традыцыйна шматканфесійных і полікультурных, асабліва шкодная. Інакш так і не атрымаецца агульнай культурніцкай прасторы, так і застанёмся, як піша Акудовіч, на выспах *архіпелагу Беларусь"*.

Ці не праўда, вельмі блізка да трактоўкі сённяшняй дзяржаўнай палітыкі? А калі б яшчэ больш выпукла *"апраўславіць"* шматканфесійнасць — дык, магчыма, што дзве *паралельныя* нарэшце б сышліся... Але гэта на словах, а на справе хапае ўсё ж і радыкалізму, асабліва ў фармальных пошуках і эстэтычных падыходах пры іх выяўленні...

Бо на самым пачатку задачы перад ТВЛ і альманахам "Калосьсе" ставіліся значна іншыя. Да прыкладу, распачынаючы 2-3 (спараны) нумар малавядомым у шырокіх літарацкіх колах маніфестам паляка Станіслава Пшыбышэўскага "Confiteor" (лац. — *спавядаючыся, прызнаюся*), выдрукаваны ў Кракаве яшчэ ў 1899 годзе, рэдакцыя "Калосься" як бы скіравала чытача на адпаведную праграмнасць і свайго літаратурнага накірунку. Працытую тут даволі значны кавалак з гэтага маніфеста, бо, на мой погляд, ён варты якой заўгодна сённяшняй увагі творчых людзей, прынамсі, ніколі з іх не пакіне абыякавым.

"...мы не прызнаём над сабой ніякага права — ні маральнага, ні грамадскага, не ведаем ніякіх пунктаў гледжання; кожная прыява душы для нас — святая, чыстая, глыбокая, таямнічая, калі яна толькі выступае прыявою сілы. (...) Мастак, што паддаецца вымаганням таго ці іншага грамадства, дагаджае грамадству, гэты мастак аддае яму пераважаны і лёгкастраўны аброк. (...) Мастак, які скардзіцца, што паніжае душу, раскідваючы ў натоўпе скарбы духу свайго, хоць і пераступіў святы парог, але ўсё ж і ён памыляецца. Бо чалавек, што не прызнае ніякага права, які стаіць па-над натоўпам, па-над светам, — панізіць сябе не можа. Такое наша веравызнанне, наша крэда. Часопіс наш — не для тых, што нібы мылавары, прагнуць адпачынку пасля цяжкага працоўнага тыдня, шукаючы ў нядзелю ўцеху і забаву ў мастацкім творы (а колькі яшчэ гэтых мылавараў — тысячы!), не для дзяцей і не для людзей, хворых на старэчую немач, — ані для тых, што нават чытаць не здолеюць, але для мастакоў — на жаль, іх так мала! — і для тых, хто лічыць мастацтва мэтаю самога сябе".

Калі шмат лозунгаў у адным месцы, значыць, у іншым месцы — пуста. Але сказаць, што "Калосьсе" адназначна адпавядае праграмным заявам Пшыбышэўскага ці хоць бы Аркуша — гэта значыць, схлусіць. Бо ўнутраная тэкставая прастора альманаха адлюстроўвае найперш асабісты свет тых аўтараў, якія да гэтай прасторы *"прыкладваюцца"*.

Вось, скажам, пачатак аповесці "Эрагенная зона" Вітаўта Чаропкі.

"Аднаго разу і адразу пачнецца або завершыцца нешта. Гэта нешта будзе пачаткам або канцом, або нечым, або нічым. Гэта нешта будзе мімалётным або вечным, або вечна-мімалётным, або мімалётна-вечным. Гэтае нешта будзе нешта нават, калі яно нішто, бо нішто — прысутнасць нечага ў нічым, як адсутнасць нечага ва ўсім".

Як дэкларуе дзвюма старонкамі ніжэй у тым жа нумары Юры Гумянюк:

"Сам не чуеш уласных журботных замоў
І не хочаш у словы памерлыя верыць".

А вынік усёй гэтай *дыскусіі* адносна форматворчасці падводзіць у сваім "экзістэнцыяльным акце "Крывавай імшы" Ігар Сідарук.

"— Хто рэжысёр гэтага спектакля?
— Гэта ўжо не спектакль.
— Хто рэжысёр?!
— Той, хто й аўтар!
— А хто аўтар?
— Той, хто акцёры!
— А хто акцёры?
— Хто гледачы! Ха-ха-ха-ха-ха-ха!"

Гэтымі цытатамі я не хачу звесці сітуацыю да банальнай, бо ўсё гэта ў пэўнай меры адпавядае большасці нашых выданняў. Іншым разам палымянская ці маладосцеўская *графаманія* не саступіць па сваёй *дубовасці* "пафігізму" "Nihil"я альбо постмадэрну "Arche"...

Многія спрабуюць даводзіць, што слабіна нашай літаратуры заключаецца ў яе маладосці адносна іншых літаратур Еўропы і яе нескарыстаны патэнцыял дае нам падставы для аптымізму, а значыць, магчымага будучага ўзлёту. Я не падзяляю гэтую думку ўсю цалкам. Я ўспрымаю толькі яе першую палову. Бо мяркую, што не меўшы *яснага мінулага*, не варта цешыць сябе *светлым будучым.*

Нашай літаратуры не хапае высокага прафесіяналізму, унутранай нацыянальнай ідэі і дзяржаўнай *пэўнасці*, а самім літаратарам — *суверэннай* творчай прасторы. Не ведаю, як хто, а я насамрэч *выдыхся*, патраціўшы ўсю сваю духоўную энергетыку на *супраціў* акаляючай мяне цемрашальнай сіле.

Таму мне падаецца прымальным усякі ідэйна-літаратурны накірунак нашых недзяржаўных, а ўсё ж залежных ад тых, хто іх трымае на плыву, выданняў. Нязменным, у рэшце рэшт, застаецца толькі адно — грамадска-палітычнае *волевыяўленне*, а гэта на сённяшні дзень — апазіцыйнасць да афіцыйнай улады. Пошукі ж новых формаў і канцэптуальных жанравых вырашэнняў забіраюць столькі часу і энергіі, што на *высокае мастацтва* іх ужо не стае, а толькі — на *пахапліваe штукарства.*

Хоць, вядома, нельга не заўважыць удалага і таленавітага. Рэдка, як і ў тых хвалёных *"еўропах"*, яно здараецца і тут. У тым ліку і ў "Калосьсі".

*З паэзіі* — гэта нізкі вершаў Юрася Пацюпы, Хведара Ніцкі (Алега Мінкіна), Эдзіка Мазько ды Анатоля Брусевіча...

*З прозы* — апавяданні Вінцэся Мудрова, Сяргея Астраўца ды Ігара Сідарука...

Былі цікавыя *пераклады* замежных літаратараў, як Вітольда Гамбровіча, Гіёма Апалінэра, Мора Ёкая, але, на жаль, выпадковыя і абрывачныя.

Апошнім часам набылі ў альманаху сваю яркую адметнасць *публіцыстыка і крытыка*, найперш дзякуючы актыўным творчым высілкам Алеся Аркуша і Ганны Кісліцынай.

Запомніліся, у процівагу яго бяскроўнаму *раману* "Апосталы нірваны", *мемуарныя запісы* паэта Юры Гуменюка "Візуальная тэрапія памяці" (пра жыццёвы і творчы шлях неардынарнага і рана пакінуўшага нас паэта і самабытнага філосафа з Гарадзеншчыны Андрэя Пяткевіча). Як бы яшчэ раз пацвердзіўшы гэтым старую ісціну: калі ёсць *існае* жыццё, то знаходзяцца і адпаведныя той існасці *словы*...

Гэта толькі каліва таго сапраўднага мастацкага, што запомнілася адразу і па сёння. І пэўна, што ёсць яшчэ тое-сёе, вартае ўпамінання, але супакою сваё сумленне тым, што калі б яно было насамрэч *вартае*, то *напомніла б* вам пра сябе і без маёй падказкі, *знайшоўшы* шлях да чытача іншым чынам. Бо як пісаў згаданы ўжо тут нябожчык Андрэй Пяткевіч:

***"Мне дваццаць чатыры і Божая свечка,***
***Напэўна, патухне у грэшных руках.***
***А вершы — хіба ж пражывуць яны вечна.***
***Хаваю ў вачах неакрэслены страх".***

Адным словам, "Калосьсе" ёсць такім, якім ёсць кола яго аўтарскага актыву. Не шырэй, але і не вузей. Большасць з гэтых

людзей *закаласіліся на ніве* ТВЛ толькі з той прычыны, што пры *сяўбе* іх туды аднесла ветрам нашага неспакойнага часу... З тых ці іншых прычын у іх не было вялікага выбару, а таму, можа, **само жыццё для іх стала важней за месца для свайго жыцця.** Вось чаму тут, на адной і той жа глебе, з аднаго і таго ж “сора растут стихи, не ведая стыда”...

Асобна трэба выдзеліць, бадай, трох чалавек, пра якіх я ўжо ўпамінаў: арганізатара і *“каваля”* самой ідэйнай канструкцыі (ТВЛ-”Калосьсе”) Алеся Аркуша, Юры Гуменюка, якому, на мой погляд, трэба была ўласная літаратурная *дзялянка,* каб спраўдзіць сваю творчую “патрэбу” (не ведаю чаму аўтар да гэтай пары не заангажаваны “Nihil”ем) і, безумоўна, — Вінцэся Мудрова, без якога Вялікі Літаратурны Куток Беларусі, Полацкая зямля, пасля ад’езду адтуль *Арловых-Аксак,* выглядаў бы занадта збедненым. Сюды можна яшчэ дадаць прозвішчы некаторых мастакоў-графікаў (Э. Пяшкова, А. Пушкіна, А. Прусава, Х. Хамянкова ды інш.), работы якіх былі скарыстаныя ў афармленні альманаха, ды тых, хто дапамагаў у чыста тэхнічным плане...

Каб каго не пакрыўдзіць празмерным уласным суб’ектывізмам, наастатку *дам слова* аўтару і сябру новаабранай рэдакцыйнай калегіі альманаха “Калосьсе” добра вядомаму крытыку Ганне Кісліцынай, якая ў гаворцы з Алесем Аркушам на яго пытанне “пра перспектывы паслядоўнікаў літаратурнага абнаўлення” наўпрост заявіла наступнае: “Я не бачу ў маладога пакалення нечага прынцыпова арыгінальнага — усё тое ж “у рожкі са старымі”, усё тое ж гадаванне апазіцый. “Тутэйшыя” вялі вайну разам, паэты новай хвалі — паасобку, дэманструючы ўласную індывідуальнасць, але гэта індывідуальнасць ваяроў, а не творцаў. “Новыя”, “альтэрнатыўныя”, “вольныя” — вызначэнні можна нанізваць колькі заўгодна, але сам факт таго, што літаратура ідэнтыфікуецца ўжо падчас стварэння твораў, гаворыць пра пэўную хваравітасць працэсу. Беларускі *постмадэрн* яшчэ не даў аніводнага буйнога твора, а мы ўжо карыстаемся яго *тэрміналагічным апаратам*”. (Гэта пісалася ў 1997 годзе, яшчэ да з’яўлення ў літаратурнай беларускай прасторы такіх часопісаў, як “Arche”, “Скарына”, “Nihil”, аднак, на маю думку, з таго часу нічога асаблівага не перамянілася і не стварылася).

І адразу ж, як бы прадчуваючы спадарожныя пытанні, папрокі ў недасведчанасці і нязгоду ўвогуле, як з папярэднім выказваннем Кісліцынай, так і з некаторымі маімі абагульненнямі, працытую яшчэ адзін абзац з той самай гутаркі:

“Чаму беларуская літаратурная крытыка “амаль не заўважае твораў прадстаўнікоў “новай генерацыі”? А чаму “новая генерацыя” не заўважае беларускай літаратуры? Вугал падзення роўны вуглу адлюстравання. Да таго ж, я сама добра ведаю, што такое гаварыць пра “альтэрнатыву” — крытыкуеш аднаго, крыўдуюць усе, хто стаіць пад гэтым штандарам. Іншы раз думаеш: ды адчапіцеся вы, пішыце адзін пра аднаго... Усе мы — філолагі, і творцы, і крытыкі. А ў дваццаць-трыццаць гадоў наш літаратурны “пол” яшчэ не вызначыўся цалкам, так што можна ўзгадаваць цэлую армію даследчыкаў. Іншая праблема: ніхто не хоча чытаць. Нікога апроч сябе, ды хіба што паплечнікаў, ваяроў за агульную справу”.

Але — **“мастацтва мацнейшае за мастакоў”** — кажа напаследак Ганна Кісліцына, і я *складваю рукі* і замаўкаю...

Хіба што, зусім наастатак, кароценькая гісторыя, якая як бы й не мае дачынення да гэтай гаворкі. Аднак жа. Па сабе адчуваю, шаноўныя калегі, што пісанне даецца ўсё цяжэй і цяжэй — у прамым і пераносным сэнсе. Фізічна цяжка. Больш таго, калі пішаш на пачатку XXI стагоддзя шарыкавай *асадкай.*

Зараз я — напрыканцы шостай старонкі стандартнага аркуша. Пішу дробным, але даволі разборлівым почыркам... Жалюся жонцы на сваё паскуднае літаратурнае *рамяства*... Давай, кажу, купім хоць які карыстаны *камп’ютэр.* А яна гаворыць, што ў нас няма грошай і на самы танны... Ды й навошта ён табе, ты ж раманаў не пішаш. А то мне расказалі, паслухай, як адзін малады пісьменнік купіў сабе адмысловы камп’ютэр ды набіраў на ім свае літаратурныя тэксты, а як толькі *стамляўся* — то *гуляў* у розныя камп’ютэрныя гульні... *“Пісаў”* і *гуляў* сабе... І ўсё часцей ён стаў стамляцца, і ўсё больш часу праводзіў за тымі займальнымі гульнямі... Цяпер у яго ўсё наадварот: як *стоміцца гуляць* — тады трохі *адпачне і набярэ* якінебудзь літаратурны *тэкст*... Навошта табе камп’ютэр, кажа жонка. У цябе ж дачка малая: стомішся пісаць — пагуляй з ёю, пагавары...

Жонкі нашыя мудрыя, як *змеі*... Таму нічога ні каментаваць, ні дадаваць не буду. А лепш, каб мае справы не здаваліся мне самымі *гіблымі,* пачытаю ў восьмым нумары “Калосься” мемуары Івана Фурсевіча “Труперня” ды перажыву з Алегам Мінкіным колькі жахлівых дзён “У татарскім палоне”...

Магчыма, на фоне іх жыцця і маё падасца не такім паскудным...

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# “Пачынаецца ўсё з любові...”

Якраз гэтыя словы згадваюцца перш за ўсё, калі адкрываеш новае імя ў сузор’і беларускай жаночай лірыкі — Лілію Бандарэвіч. Яе першая кніга паэзіі адметная. І гісторыяй з геаграфіяй свайго матэрыяльнага ўвасаблення, і задумай, і асобай аўтара, і, зразумела, як кожная сапраўдная з’ява мастацтва, сваім непаўторным сусветам. Убачыла свет згаданая кніга на зямлі роднай нам Украіны. Чарнігаўская абласная арганізацыя Таварыства “Просвіта” і рэдакцыя газеты “Сіверщина”, дзе 14 мая 1999 года ўпершыню былі прадстаўлены вершы Лілії Васільеўны, выдаючы літаральна праз некалькі месяцаў зборнік вершаў аўтаркі “Красавік кахання”, паэтычна-эмацыянальна сцвярджаюць, што “прагнуць не просто представити читачом гарну поэзію, а й донести до них чарівне білорусько слово, чудову мову, якій зараз так непросто на й рідній землі”. І робяць гэта з вялікай сімпатыяй да братняга суседняга беларускага народа, прадстаўніком якога на чарнігаўскай зямлі і з’яўляецца Лілія Чарненка (дзявочае прозвішча Бандарэвіч). Лілія Васільеўна нарадзілася на Ашмяншчыне ў сям’і настаўнікаў, скончыла філалагічны факультэт Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы. Доля яе склалася так, што больш дваццаці гадоў жыве ў горадзе Прылукі, што на Чарнігаўшчыне, дзе ў адной асобе сумяшчае настаўніцу і журналістку прылуцкіх і чарнігаўскіх газет, а таксама незалежнай прылуцкай тэлекампаніі “Эфір-TV”.

Як сцвярджае рэдактар газеты “Сіверщина” Пятро Антоненка (адначасова ён і рэдактар зборніка), мовай штодзённых зносін паэтэсы, як і журналісцкай творчасці, з’яўляецца руская — так склалася. У мінулым годзе выйшла ў свет дакументальная аповесць Лілії Чарненкі на рускай мове “Зона играет блюз”. Больш 13 гадоў Л. Чарненка працуе настаўніцай Прылуцкай выхаваўча-працоўнай калоніі. Але калі згаданая газета прапанавала Лілії паспрабаваць сябе ў роднай беларускай паэзіі, дакладней — вярнуцца да яе, “несподівано народилася ця чудова книга, цей гімн любові до рідной землі, до материньского й батьківского слова, просто Любові. І виявляэться, оте рідне, народжене разом з тобою і в тобі слово не може вмерти в людині”.

На карысць апошняму яшчэ і той факт, што гэтая даволі аб’ёмная (па цяперашніх часах асабліва) кніжачка была напісана на працягу... месяца. Відаць, генетычная повязь з Радзімай, падсвядомае адчуванне непарыўнай крэўнасці з ёй — неадольная сіла. Як жывая вада шукае сваю крынічаньку, каб заявіць пра сябе магутным струменем, так і ўсё перажытае, спазнанае ў душы чалавека шукае свайго ўвасаблення праз родную мову.

Ну і што, можа сказаць скептык. Колькі людзей становіцца паэтамі (часцей за ўсё ва ўласным успрыманні і ўяўленні) толькі дзякуючы настальгіі. Нават славуты “Пан Тадэуш” — пратэжэ гэтай спрадвечнай апякункі лірыкі.

Лічу, што мы ўжо добра заінтрыгавалі патэнцыйнага чытача лірыкі Лілії Бандарэвіч (на тытульным лісце дзявочае прозвішча паэтэсы набрана першым і вялікімі літарамі, што таксама сімвалічна), а таму паспрабуем абстрагавацца ад усіх перыпетый яе з’яўлення і проста ўвойдзем у новы паэтычны сусвет. З часоў “Вянка” М. Багдановіча (што зробіш, асацыяцыі з Максімам-кніжнікам тут непазбежныя), у беларускай літаратуры склалася традыцыя выдаваць кнігі паэзіі, а не проста зборнікі вершаў, вытрыманых у храналагічным ці ў нейкім іншым парадку. Кніга Лілії Васільеўны таксама ўспрымаецца цэльнай і непадзельнай структурай, нягледзячы на тое, што ў яе кампазіцыі вылучаны тры раздзелы: “Непрыручаная птушка”, “Чаромхавыя сны”, “Красавіцкія накцюрны”. Для кожнага з апошніх уласціва сваё адметнае гучанне, свая настраёвасць, інструментоўка і тэмбр, але разам яны ствараюць адзіную сімфонію радасці быцця на гэтай зямлі.

Як некалі мележаўская трылогія, “Красавік кахання” прысвечаны бацькам паэтэсы. Ці не таму яна і пачынае сваю споведзь з даволі традыцыйнага прызнання:

***Усё часцей мне цяпер не спіцца —***
***на радзіму хачу сваю...***
***Там у лесе спяваюць крыніцы,***
***бусел ходзіць там па жніву...***

Да роднай Беларусі яна гатова бегчы хоць басанож. Тым болей, што родны край, які некалі юнаму Багдановічу на берагах далёкай Волгі ўяўляўся таямнічым, загадкавым, напаўміфалагічным, успрымаецца і нашай сучасніцай у чароўна-палыновых кастрах Купалля, з ружовымі коньмі юнацтва і класічнымі кветкамі папараці. Відаць, такая паэтычная наша зямля, што ніколі не адпускае сваіх дзяцей і вяртаецца да іх у мроях-снах.

Праўда, традыцыйны зварот у басаногае дзяцінства і роснае юнацтва саступае, і гэта вельмі добра, адкрытай паэтычнай споведзі Жанчыны, якая, як славутая купрынская Алеся ўяўляе сябе адначасова і наіўнай дзяўчынкай, і зведаўшай жыццё вядзьмаркай. Аўтарка, заявіўшы крыху какетліва на пачатку кнігі, што “жанчынай быць не хачу — чаромхай пад акном чужым”, у той жа час з гонарам сцвярджае сваю жаночую сутнасць, падобную сунічнай вадзе, якую нельга стаміцца піць, і якая прымушае яе начаваць у пушчы палескай і, самае галоўнае, хадзіць вядзьмарскімі сцежкамі. Бо без гэтага не спазнаеш любові, што саткана з цемры, свету, і якая так лёгка знікае, як птушка непрыручаная. Як незабыўная Жэня Янішчыц, Ліля Бандарэнка сцвярджае, што “пачынаецца ўсё з любві”. Невыпадкова і зборнік называецца “Красавік кахання” (не менш прыгожа гучыць па-ўкраінску: “Квітень кохання”.

Каханне для паэтэсы — нешта светлае, узнёслае, жывое. Невыпадкова яно мае свой каляндар бытавання, у якім умяшчаюцца і чаромхавыя сны, і халады-снягі зімовыя. Яно робіць чалавека шчаслівым, але разам з тым не можа існаваць вечна. Радкі пра мінулае каханне — яскравая старонка беларускай любоўнай лірыкі. Л. Бандарэвіч знаходзіць свае словы для развітання з любоўю. Мінулае каханне яна параўноўвае з прачытанай казкай, марской хваляй, што ўжо адшумела ў ракавіне сэрца. Лірычная гераіня паэтэсы не імкнецца пазбавіцца былога, яна добра разумее, што каханне памятаюць не толькі зрокам, але сэрцам і дотыкам, а таму нельга, як непатрэбныя старыя рэчы, “пусціць пяшчоту з малатка”. І хаця “чорнае лісце ляціць на парог”, дзе некалі жыло каханне, паэтэса ўсё ж такі рэальная жанчына, а не экзальтаванае наіўнае дзеўчынё:

***І — не баліць... усё пра любоў —***
***хлусня...***
***Я думала: ты пойдзеш — я памру..***
***Вось сто гадоў цябе няма,***
***а я жыву, жыву, жыву...***

“З аднаго майго фужэра не нараджаецца звон”, — сумна канстатуе гераіня Лілії Бандарэвіч. Вось чаму ў яе пакоі белая туга, як хрызантэма, расцвітае. Падчас яна нават хоча знікнуць ад немінучасці — мужчыны, хоць у свет астральны. Тым болей, што ўжо даўно зразумела:

***Адзеўшы ў шоўк аголеныя плечы,***
***з усмешкай разліваць віно...***
***і пры запаленых ружовых свечках***
***не Золушкай сядзець... Я — Ева,***
***І — даўно.***

Адвечны жаночы лёс, вечар затушыць свечкі... Але сум яе і пэўная роспач не афектныя, не крыклівыя, мінулае набывае “пастэльны колер успамінў”. Бо трэба жыць пры любым надвор’і, чакаць цяпла і думаць аб вясне. А таму, як і кожнай жанчыне, паэтэсе хочацца пабыць каралеўнай, мецць уласнага прынца з далёкай зоркі, што прынясе любімых цукерак, завядзе ў лес “царственны” (мабыць, не вельмі па-беларуску), адчуць сябе, як і кожная славянка, Яраслаўнай:

***...цябе выпраўляю ў паход,***
***І са сцяны крапаснай***
***махаю табе рукой.***
***Конь капытамі б’е...***
***Пад вежай стаю ў журбе...***

Але рэдка яе каханы — князь, вось чаму яна, падобна кіплінгаўскай гераіні, лятае адна над соннай зямлёй, сыплючы блакітныя снягі. А падчас, адчуваючы сваю слабасць і адзіноту, безнадзейна стоячы ля вакна, гатова знайсці ноткі спагады ў каго-небудзь, хоць у таго ж плюшавага тыграняці. Жанчына Л. Бандарэвіч калі і папракне каханага, то вельмі светла і далікатна:

***...Ты ад’язджаеш... Ну, што ж...***
***Жаль: забіраеш з сабой гэты дождж.***

Менталітэт яе гераіні — выключна беларускі. Разам з тым яна — дзіця сусвету, бо ў лірыкі нашай землячкі адчуваецца добрая еўрапейская вывучка. Так, няма сумнення, што па яе вядзьмарскіх шляхах крыху раней прайшла славутая Маўка Лесі Украінкі. Яна чуе галасы Рэмбо, Апалінэра, “па-французску лістапад гартае”, хварэе даўно і незваротна Парыжам:

***Хай дзіва стане явай: ты не спіш...***
***О, Божа, вылечы ад ліхаманкі:***
***дай мне — праз сон — увайсці ў Парыж,***
***перастварыцца ў парыжанку.***

Вар’яцтва рэальнага жыцця яна параўноўвае з малюнкамі Далі, сэнс чароўнага слова “каханне” ёй дапамагае спасцігнуць славутая Франсуаза Саган. Але, нягледзячы на кактусы, Трыумфальную арку, плошчу Пігаль, яна глядзіць на вялікі горад вачыма жанчыны-славянкі:

***А ў лесе Булонскім***
***світае...***
***Восень пахне там***
***нашай калінай...***

Некалі так І. Дамейка ў чылійскай сельве шукаў сляды Налібоцкай пушчы. Вось чаму Л. Бандарэвіч не памяняе, як герой З. Бартосіка, імгненне парыжскага праменаду на “25 год жыцця ў цэнтры Рагачова”. Нашто ёй Венецыя, калі на Дзясне ёсць любімы чалавек, і гучаць адвечныя словы “О, Божа мой, я так цябе кахаю”... Аб гэтым сведчаць і цікавыя, выключна беларускія вобразныя знаходкі (“разлуку журавы высцілаюць пер’ем”, “страсаю з крыл жаночых слёзы”) ці ўключэнне ў структуру верша народнага першаўзору.

Але найбольш яскрава жыццёвае крэда аўтаркі ўвасоблена ў вершы “Запавет”. Яна разумее, што жыве толькі адзін раз, што ніколі не вернецца ў гэты сусвет “ні матыльком, ні снегам, ні вясёлкай, ні агнём, не незнаёмкай у дыліжансе, ні нотай у фартэпіянным вальсе, ні хрызантэмай у бакале, ні свечкай у бальнай зале, ні на світанні калыханкай, і ні шыпшынаю ля ганку, ні лістападам, і ні ручаём, і ні касцельным вітражом, ні дымным верасам у лясах, і ні дзяўчынкай з лялькаю ў руках”. Але яна ўдзячная ўсім у гэтым свеце за шчырасць і любоў, і ўпэўнена, што ўсё, што не дапісала, дапіша ўнучка:

***Жанчына засумуе ля вакна...***
***Дзяўчынка ціха засмяецца...***

А нам у сваю чаргу хочацца выказаць вялікую падзяку газеце “Сіверщина”, яе рэдактару Пятру Антоненку, усім, хто спрычыніўся да выхаду гэтай кнігі, і адкрыў імя новай таленавітай паэткі, якая здолела пасланць вестку не толькі сваім бацькам, але і ўсім аматарам прыгожага беларускага слова, якіх становіцца ўсё болей і па-за межамі краю.

**Іван ШТЭЙНЕР**

ПАМЯЦЬ

## Адзначылі юбілей

У Мар’інай Горцы добра памятаюць паэта-сатырыка, руплівага прапагандыста беларускай мовы Захара Біралу. Як сведчанне — і нядаўняе святкаванне 95-годдзя з дня яго нараджэння. На ўрачыстасць у Мар’інагорскую гарадскую бібліятэку завіталі бібліятэкары раёна, школьнікі Мар’інай Горкі, члены літаратурнага аб’яднання, якое працуе пры раённай газеце “Пухавіцкія навіны”.

Пра Захара Біралу расказвалі ўсе, хто яго ведаў асабіста, найперш — родныя паэта.

Між іншым, па ініцыятыве аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама і пры падтрымцы мінскага выдавецтва “Пейто” збіраецца кніга памяці Захара Біралы, куды ўвойдуць лепшыя яго творы, успаміны пра час зняволення ў сталінскім лагеры, а таксама ўспаміны пра самога паэта. Сярод аўтараў мяркуемай да выдання кнігі — паэты Паўлюк Прануза, Вольга Савасцюк, Леанід Дубоўскі, настаўнік, літаратурны крытык Браніслаў Зубкоўскі.

**Алесь ГЛУШКА**

## У Віцебску ўшаноўваюць Міколу Каспяровіча

Нарадзіўся славуты краязнаўца Мікола Каспяровіч (1900—1937) на Пухаўшчыне — у вёсцы Ізабалёва. А працяглы адрэзак жыцця руплівца беларушчыны быў звязаны з Віцебскам. У 1924 годзе М. Каспяровіч прыняў удзел у стварэнні Віцебскай філіі “Маладняка”. У лютым 1925 года маладога чалавека абралі старшынёй праўлення віцебскага акруговага таварыства краязнаўства. У 1925 годзе ў Віцебску пабачылі свет кнігі М. Каспяровіча “Беларуская архітэктура” і “Беларуска-расійскі слоўнічак”.

Летась, як вядома, адзначалі ў краіне 100 год з дня нараджэння М. Каспяровіча. Асноўныя мерапрыемствы прайшлі ў Мінску і на Пухавіцкай зямлі. А зараз — 22 лютага — краязнаўчы клуб “Сустрэчы”, які працуе на базе Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. Леніна, ладзіць спецыяльнае пасяджэнне “Беларускі краязнаўца Мікалай Каспяровіч”. Мяркуецца, што з выступленнем на тэму “Мікалай Каспяровіч: вытокі стагодняга юбілею” да віцяблян завітае кандыдат гістарычных навук з Мінска Віталь Скалабан. Кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Лісаў прачытае даклад “Мікалай Каспяровіч і Віцебшчына”. Пляменнік М. Каспяровіча А. Каспяровіч выступіць з паведамленнем “Сям’я Каспяровіча”.

У рамках пасяджэння клуба пройдзе прэзентацыя толькі што выдадзенай у Віцебску кнігі А. Лісава і А. Падліпскага “Краязнавец Мікалай Каспяровіч”.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

## "Незвычайная карыда"

І сёння ў жыцці самыя розныя нечаканасці адбываюцца. А што ўжо казаць пра выпадкі, якія надараліся некалькі гадоў назад. Асабліва, калі гэта было звязана са звышпільнасцю некаторых грамадзян. Тады чалавек, у нечым западозраны, мог трапіць у сітуацыю, з якой не так проста выкарабкацца. Як, для прыкладу, нядаўні сяржант Іван Дзікун. Адслужыўшы ў войску тры гады, а тады прытрымліваліся менавіта такога тэрміну, ён не падаўся ў родныя мясціны на Гомельшчыну, а вырашыў паблукаць па свеце, каб




зарабіць грошай. Акрамя таго, Іван захапляўся шахматамі і аднойчы захацелася яму пагуляць у гэтую старажытную гульню па перапісцы. А таму, завітаўшы на пошту, вырашыў пасладь свайму саперніку тэлеграму, каб той хутчэй даведаўся, які чарговы ход зрабіў Дзікун. Для гэтага і напісаў на тэлеграмным бланку кароценькую фразу: "Лh4:h8". Маладая ж паштарка, якая добра засвоіла, што неабходна праяўляць пільнасць, паведаміла куды трэба, што ў аддзяленні знаходзіцца шпіён.

Што адбылося далей, можна даведацца з апавядання Уладзіміра Шулякоўскага "Грузчык-шахматыст", што разам з апавяданнем "Тапограф", склала як бы невялікую дылогію "Шпіёны". Творы напісаны праўдзіва, а месцамі і з гумарам.

"Шпіёнамі" адкрываецца кніга У. Шулякоўскага "Незвычайная карыда", што стала лістападаўскім зборнікам "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за мінулы год. У. Шулякоўскі — чалавек немалады: нарадзіўся ў 1940 годзе ў Смілавічах Чэрвеньскага раёна. Скончыў Мінскі палітэхнікум і Беларускі політэхнічны інстытут. Папрацаваць давялося шмат дзе: быў токарам на Мінскім аўтамабільным заводзе, інжынерам, галоўным спецыялістам у Рэспубліканскім цэнтры "Меліярацыя". Працаваў і ў Мінскім абласным камітэце па экалогіі, цяпер — у Міністэрстве ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Упершыню выступіў у друку яшчэ ў 1961 годзе, калі ў чэрвеньскай раённай газеце "Уперад" быў надрукаваны яго верш на рускай мове, а ў 70—80-ыя гады У. Шулякоўскі публікаваўся ў навукова-тэхнічных выданнях Беларусі і Савецкага Саюза. Апошнім часам захапіўся прозай. Апавяданні, навелы У. Шулякоўскага, за рэдкім выключэннем, пабудаваны на дакументальнай аснове. Гэта відаць і па тым, што аўтар дакладна называе месца дзеяння, а ў асобных творах — імёны і прозвішчы рэальных людзей. З гэтага шэргу і апавяданне, а хутчэй за ўсё нарыс "Два маршалы", у якіх расказваецца пра двух выдатных людзей — Маршалаў Савецкага Саюза С. Архамеева і Д. Усцінава. Гаворку пра іх У. Шулякоўскі вядзе не па чутках, калі нешта ў вуха заляцела. Ён прызнаецца: "У аснове — расказы шваґра, брата маёй жонкі Валянціна Канстанцінавіча Мароза, які быў зяцем С. Ф. Ахрамеева, а таксама майго айчыма Пятра Іванавіча Філіповіча — у час вайны авіямеханіка асабістага самалёта наркома ўзбраення Д. Ф. Усцінава, распаведы іншых людзей, якія асабіста ведалі маршалаў". Звесткі, якія прыводзіць аўтар кнігі, асабліва ў дачыненні да С. Ахрамеева, на якога сёння ёсць нямала ахвочых выліваць патокі бруду, цікавыя. Яны дазваляюць даведацца праўду пра тых, хто любіў Радзіму і ў меру магчымасці служыў ёй, не здраджваючы сваім ідэалам.

Паведамляючы пра незвычайныя выпадкі, У. Шулякоўскі нагадвае, што ў жыцці магчыма нават тое, што не можа нарадзіць нават самая шчодрая фантазія. Хоць бы такое, пра што гаворыцца ў навеле "Сустрэча з... нябожчыцай". Як сведчыць У. Шулякоўскі, "у 1977 годзе Тамара Тарасава (вядомы беларускі журналіст. — М. Г.) знаходзілася ў камандзіроўцы ў Кіеве. Удыхаючы пах каштанаў, ідзе па вуліцы, а насустрач — таксі. Побач з вадзіцелем сядзіць... Еўдакія Лось. Машына спыняецца ля Тамары. Еўдакія Якаўлеўна нешта гаворыць сваёй былой падначаленай: губы яе шавеляцца, але слоў не разабраць. Здзіўленая Тамара спрабуе адчыніць дзверцы машыны, але яна чамусьці рэзка зрываецца з месца і рухаецца далей". Уражаная гэтым, Тарасава вяртаецца ў гасцініцу, звоніць у Мінск і даведваецца, што Лось памерла некалькі гадзін назад...

Убачыце кнігу "Незвычайная карыда" — прачытайце. Не пашкадуеце.

**Міхась ГЕНЬКА**

ПАЭЗІЯ

Павел ВЕРАБ'ЁЎ



# І яшчэ далёка кропка...

•

*Люблю ваўкоў. За позірк іх прамы,*
*Бескампрамісны шлях здабычы ежы,*
*За вольны дух. Яго не знаем мы.*
*Хоць толькі людзям волю знаць належыць.*

*Люблю ваўкоў. Ніколі за харчы*
*Яны не адракуцца быць ваўкамі.*
*Наканаванне іх не прамаўчыць,*
*Што часта па жыцці бывае з намі.*

*Люблю ваўкоў. Ніхто ад важака*
*Смачнейшага кавалка не чакае.*
*У нас размеркавальная рука*
*З людзей увачавідкі робіць зграю.*

*Абкураная праўда спіць на варце.*
*Імкнуцца чалавецтва на абрыў...*
*Воўк часта забівае ад азарту —*
*Ад прагнасці ніколі не забіў.*

•

*У маім старэнькім доме*
*Ёсць віно і хлебны квас.*
*Буду спаць я на саломе,*
*Толькі тут не будзе вас.*

*Вас, што пахнуць Амстэрдамам*
*І гадзюкай у лаўжы.*
*У мяне жывая мама —*
*Гэта ёй не пераджыць.*

*Ціха сплочвае даніну*
*Пакалечаным гадам.*
*У яе была краіна,*
*Сёння ж — вы і Амстэрдам.*

*Эх, жыццё! Гуляй-маліна,*
*Я ж не лыс, і я не рыж.*
*Плача мне мая краіна, —*
*Пакуры пакуль, Парыж.*

*У Парыжы дзеўкі рыжы,*
*Не ў пашане хлебны квас.*
*І не трэба мне Парыжа,*
*А найперш — не трэба вас.*

•

*Сэрцам я ачарнеў,*
*як азяблая майская квецень,*
*Не спатоліць ніхто, не ўратуе ні цар,*
*ні святар.*
*Знаю ўсё, і няхай мне пакуль*
*што нічога не свеціць,*
*Я, сасляплы, не стану ляцець*
*на прывабны ліхтар.*

*Мне дарогі няма на прыступкі,*
*дзе знатныя людзі*
*Змізарнела стаяць у чарзе*
*па чароўны кілім.*
*Але іх там ніколі, ніколі, ніколі не будзе,*
*Гэта дадзена мне, гэта дадзена мне,*
*а не ім.*

*Гэта дадзена мне па начных*
*вандраваць лабірынтах,*
*Гэта дадзена мне уссадзіць*
*галаву на паркан.*
*Бачыш, стужка дасвецця*
*скрываўленым сцелецца бінтам,*
*Нібы рэзка сарваная з ледзьве*
*загоеных ран.*

•

*Не магу разглядзець, хто ты,*
*І які ў цябе працяг, —*
*Скамянелая пяшчота*
*На скрываўленых губах...*

•

*Хоць танцуй, а хоць пішы,*
*Хоць карчуй, цягай глыжы,*
*Ці пяклуйся на крыжы,*
*Ці на лёс вастры нажы —*
*Праўду-матку беражы.*

*Можна ўсё: танцуй, пішы,*
*Ці карчуй, цягай глыжы,*
*Ці пяклуйся на крыжы,*
*Ці на лёс вастры нажы,*
*Толькі, Божа, беражы,*
*Каб не есці хлеб чужы.*

•

*Лагодны, чысты, светлы дом,*
*Размеркавана ўсё, па плане,*
*Увесь струменіцца святлом,*
*Каб бачны лепш былі заганы.*

*Не на гасціны, а на ўрок,*
*Узняты са стыхіі змроку,*
*Вярнуся ў непралазны змрок*
*І вылезе святло мне бокам...*

•

*Адзванілі ўсе званкі,*
*Ды не выправіў памылак.*
*Толькі стогнуць пазванкі*
*І ад стомы ныюць жылы.*

*Толькі думкі па начах*
*Неўтаймоўна карагодзяць.*
*І калышацца ў вачах:*
*Годзе, хлопец, ці не годзе?*

*Не званкі ўжо, а званы*
*Б'юць наўзрыд перасцярогу.*
*Векавыя курганы*
*Не пужаюцца дарогі.*

*Адзванілі ўсе званкі*
*І званы гудуць таропка.*
*Страшна. Стогнуць пазванкі.*
*І яшчэ далёка кропка.*

•

*Гэтак пышна зацвілі чарэшні,*
*Так шыкоўна вішні зацвілі.*
*Я не знаю, хто з нас болей грэшны*
*Перад болем мамы і зямлі?*

*Вераб'і вярнуліся ў падстрэшша,*
*Уздыхнулі весялей сады.*
*Як разважыць, перад кім хто грэшны:*
*Я — перад табой, ці, можа, ты?*

*Нам ужо не высвеціць супольна,*
*Не вярнуць адчэплены вагон.*
*Вольны ты, а я цяпер — нявольнік,*
*Да каго прыйсці мне на паклон?*

*Хто разважыць шчыра і бясспрэчна*
*Спрэчку, што спазнілася на лёс?*
*Бачыць мне балюча-недарэчна*
*Першацвет, што вынішчыў мароз...*

*Пачарнелі вішні і чарэшні.*
*Не ўбярог кастроў ласкавы дым.*
*Я яшчэ, напэўна, буду грэшным.*
*Ты не будзеш.*
*Спынімся на тым.*

•

*Час бязлітасна надзеі зжаў.*
*Менш дарог, а больш і больш абочын.*

*Помніцца, я калісь пагражаў,*
*Што з'яўлюся вам між чорнай ночы?*

*Праз пятнаццаць год ад ста пагроз*
*Спраўдзіў я адзіную пагрозу.*
*Чорнай ноччу*
*Чорт мяне прынёс,*
*І ніхто мае не ўгледзеў слёзы.*

*Ад цяпла з-пад вашае страхі*
*Пацішэла ў сумным сэрцы сцюжа.*
*Мір вам, мір вам,*
*А мае грахі*
*Паспрабую неяк сам я здужаць.*

*А не я, тады мяне яны*
*Зноў пагоняць, нібы ліст, па свеце.*
*Чуеш, стопудовыя званы*
*Разгайдаў над лёсам сцюжны вецер.*

*Выбачайце, любыя, ізноў*
*Вас не патрывожу,*
*Дарагія...*
*Між начы, пужаючы ваўкоў,*
*Светлая душа па-воўчы вые.*

•

*Я чуйна прыпадаю да зямлі,*
*Я слухаю яе дыханне.*
*Дажджынкі ціха шэпчуцца ў галлі*
*І расчышчае змрок душы світанне.*

*Я слухаю зямлі світальны сон,*
*Нібы пільную сон свайго дзіцяці.*
*У гэты міг, у гэтай простай хаце*
*Увесь сусвет пастаўлены на кон.*

•

*На беласнежнай выстылай журбе*
*Расціснутыя кропелькі каліны.*
*Пагавары са мною. Што табе*
*Украдзеная ў вечнасці хвіліна?!*

*І што табе на гурбах снегіры,*
*Калі не бачыла ты нават гурбаў?!*
*І што табе маё "пагавары"*
*І сіверам патрэсканыя губы?!*

*Сваёй жалезнай лапай лёс зграбе,*
*І заімгліцца матчына хаціна,*
*А на застыглых гурбах і журбе —*
*Расціснутыя кропелькі каліны.*

•

*Закальцаваны ў круг звярыны,*
*Спатолішся на ланцугу*
*І спаліш на кусце каліны*
*Сваю звярыную тугу.*

*Адзіных слоў знайсці не зможаш,*
*Што ні скажы — усё падман.*
*Да хрусту ў пальцах сціснеш ножык*
*І моўчкі сыдзеш у туман.*

•

*Сёння дзесьці згублена ў мінулым.*
*І нічога нельга перайграць.*
*Сіла Боская мяне пачула...*
*Я нічога не пасмеў сказаць.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*



ЧАСАПІС

# *Ад плаката да сімвала*



**У Светлагорск старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускага саюза мастакоў Анатоль Отчык наведваецца даволі часта: удзельнічаў у адкрыцці выстаў у мясцовай карціннай галерэі, рабіў спагадлівыя агляды творчасці маладых мастакоў. І вось новая нагода прывяла яго зноў у наш горад. Менавіта тут Анатоль Отчык паказвае сваю персанальную выставу з 24 твораў.**

**Адразу ж адчуваецца, што Анатоль Уладзіміравіч пачынаў як мастак-плакаціст, шукаў неспрошчанае ўвасабленне нават самай актуальнай тэмы, узнімаў яе да сімвала, да філасофскага абагульнення.**

**На выставе ў Светлагорску мы пабачылі мастака, якому школа плакатнага майстэрства паспрыяла лаканічнасці, актуальнасці, выразнасці аўтарскай пазіцыі ў творах *пейзажных, жанравых.* Вельмі многія з іх глядзяцца так, нібы яны самі сталі мастацкімі сімваламі.**

**Дэкаратыўнасць, фрагментарнасць, светлая, святочная палітра фарбаў надаюць экспазіцыі ўзнёсла-радасны настрой.**

**І гэта прытым, што Анатоль Отчык глыбока паэтычны і па-філасофску заглыблены ў сваіх задумах. Сведчанне таму назвы карцін: "Маўклівыя камяні і лодкі", "Мелодыя Тураўскіх храмаў", "Подых мінуўшчыны", "Успаміны праз стагоддзі" і інш. Пагадзіцеся, што напісаць карціну, якая называецца "Пад коўдраю аблокаў" або "Па рацэ часу", вельмі і вельмі няпроста, бо гэтыя творы павінны быць асабліва пераканаўчымі, жывапіснымі. Зрэшты, мастак і тут застаецца верны сваёй лаканічнасці.**

**Калісьці ў самым пачатку творчага шляху ён наведваў студыю, якою кіраваў у Мазыры П. Захараў. Потым займаўся ў Пензенскім мастацкім вучылішчы, у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Многае значыла і падсвядомая арыентацыя на творчасць сусветна вядомых мастакоў Пікасо, Кандзінскага, Малевіча, Шагала. Усё гэта дало не толькі веды, але і майстэрства.**

**Урачыстае адкрыццё выставы было падзеяй не толькі ў культурным жыцці светлагорцаў, але і шматлікіх гасцей з англійскай акругі Мэндзіп, з нямецкага горада Хельмштэдта. Некаторыя з іх (кіраўнік выканаўчай улады Мэндзіпа спадар Грэм Джэфс і старшыня таварыства партнёрскіх сувязяў паміж Хельмштэдтам і Светлагорскам спадар Юрген Эгештайн) падзяліліся з прысутнымі сваімі ўражаннямі ад гэтай выставы. Вельмі хораша гаварылі пра свайго маладзейшага сябра заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Мікалай Казакевіч, мастак і мастацтвазнаўца Роберт Ландарскі. На іх думку, выстава атрымалася. Яна дае поўнае ўяўленне аб адным з лепшых мастакоў Гомельшчыны, вернага сучасным арыенцірам у выяўленчым мастацтве.**

**— Мне вельмі прыемна, — зазначыў Анатоль Отчык, — што ў гэтым юным горадзе я змог не толькі паказаць прыхільнікам выяўленчага мастацтва сваю выставу, але і дамовіцца з мясцовым кіраўніцтвам аб правядзенні сёлета тут рэспубліканскага пленэру, які, спадзяюся, папоўніць мастацкі фонд карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава новымі таленавітымі творамі.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку злева направа: Роберт Ландарскі, Мікалай Казакевіч, Таццяна і Анатоль Отчык.*

*Фота В. СТРЫБУКА*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца"

## У РУСКІМ ТЭАТРЫ АДБЫЛАСЯ ПРЭМ'ЕРА СПЕКТАКЛЯ Барыса ЛУЦЭНКІ

За творчасцю рэжысёра Барыса Луцэнкі назіраеш заўсёды з цікавасцю: кожны новы яго спектакль смялейшы па думцы за папярэдні. Пакуль Луцэнка рыхтуе прэм'еру, праўда пра нашае жыццё нібыта знікае з падмосткаў. І толькі з выхадам новага спектакля зноў становіцца бачнай для ўсіх...

І "Гісторыя пра прынца Дацкага" Шэкспіра, і "Баляванне падчас чумы і..." паводле твораў Пушкіна, і "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца" М. Эрдмана — усе гэтыя спектаклі грунтуюцца на цікавых сцэнічных метафарах. Напрыклад, у "Гамлеце" забойца Клаўдзій, параўнаны рэжысёрам з Рычардам III, *нечакана сыходзіць у залу і знікае* сярод гледачоў. Ён жыве сярод нас! Маладыя ўдзельнікі жудаснага "Балявання падчас чумы" крычаць у залу "Няхай жыве чума!", а народ у адказ толькі "маўчыць" (*другая частка пастаноўкі складаецца з монаспектакля паводле "Барыса Гадунова"*). А галоўны герой "Самазабойцы" губляе жыццё ў той момант, калі пагаджаецца жыць, як жывуць усе. Сваю творчую пазіцыю Б. Луцэнка тлумачыць у праграмцы новага спектакля. Ён упэўнены, што ў п'есах М. Эрдмана, як ніколі актуальных і запатрабаваных, бы ў люстэрку, можна пазнаць саміх сябе. "А нечакана люстэрка будзе ясным... І вы ўбачыце..." І прыкладную фразу, якую мусіць вымавіць гледачам Луцэнка, можна знайсці ў п'есе Эрдмана "Мандат". Там герой кажа: "Тамарачка, адсунь фіраначку, паглядзі ў акенца, ці не скончылася савецкая ўлада?" Ці не выціснуў кожны з сябе апошнюю кроплю раба?

Гэта незвычайнае люстэрка Б. Луцэнка стварае ў кожным спектаклі. Тады на авансцэне ўзнікае своеасаблівая "лінія" з акцёраў, якія ўважліва глядзяць у залу. У гэты момант яны ўвасабляюць адлюстраванне публікі. Гледачы павінны ўглядзецца ў відовішча, каб глыбей зразумець саміх сябе, уласнае жыццё, стасункі з часам. Наогул спіной да залы акцёры паварочваюцца зрэдку. Гэта здараецца толькі з пэўнай мэтай: напрыклад, у адной са сцэн спектакля "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца" спіна аднаго з герояў агаляецца толькі для таго, каб гледачы ўбачылі на ёй вялізны след ад бота. З папулярнаю цяпер думкаю, што ў нас любяць таптацца па скароных спінах, ты неўзабаве робішся часткай тэатральнай дзеі, нібыта сам выходзіш на сцэну. "Мы — гэта вы, а вы — гэта мы", — спрадвечная формула акцёрска-глядацкіх узаемаадносін. І драматургічны твор Эрдмана цудоўна падыходзіць для яе ўвасаблення на сцэне.

Наогул пастаноўка "Самазабойцы" мроілася Б. Луцэнку доўгія гады. "Гэтую вострую сатырычную п'есу пра бунт асобы супраць безнадзейнага, сумна-шэрага жыцця савецкіх абывацеляў", забароненую ўладамі "за паклёп на савецкую рэчаіснасць" рэжысёр некалі чытаў на кухні, у вузкім коле сяброў (у Мінск п'есу прывёз мастацкі кіраўнік Купалаўскага тэатра В. Раеўскі). У 90-я гады, падчас тэатральнага бума на Эрдмана, наш рэжысёр усё яшчэ чакаў лепшага, самага патрэбнага для пастаноўкі імгнення. (Доўгачаканая прэм'ера "Самазабойцы" ў Рускім нечакана супала са стогадовым юбілеем з дня нараджэння М. Эрдмана). І вось гледзячы спектакль "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца", адчуваеш як далучаешся да чагосьці дарагога, любімага, вынашанага гадамі (працу над спектаклем рэжысёр пачаў трыццаць гадоў таму). На гэты раз Б. Луцэнка стварыў вельмі прыгожы, вытанчаны, нават шыкоўны спектакль (і не *хацелася, каб гэтая "сцэнічная кампазіцыя"* ўваходзіла ў рэпертуар тэатра, а жыла толькі ў пэўным прамежку часу). Больш за дзве гадзіны спектакль рухаецца ў сатворчасці з гледачамі, бударажыць фантазію, выклікае незвычайныя асацыяцыі. Прынамсі, да цікавых рэжысёрскіх знаходак мушу аднесці з'яўленне на сцэне маўклівага міма (У. Сцяпура), апранутага ў чорнае адзенне П'еро. Ён — гэта нябачная сувязь з мінулым, здань былых "мімаў", пакалечаных савецкай уладай. Як вядома, спявак Аляксандр Вярцінскі, песні якога на працягу спектакля спяваюць акцёры ("я сёння смяюся над самім сабой"), выходзіў на сцэну ў белым касцюме П'еро. Таксама і рэжысёр У. Мейерхольд, які паставіў "Самазабойцу" напрыканцы 20-х гадоў (пасля асабістага ўмяшання Сталіна, спектакль быў забаронены спецыяльным загадам ЦК) некалі бліскуча сыграў П'еро ў "Балаганчыку" Блока. Зусім невыпадкова Луцэнка апранае свайго клоуна-міма ў чорны касцюм. У адным з эпізодаў спектакля П'еро з'яўляецца за кратамі вялізнага акна ў заднiку сцэны. Ён трымае ў руцэ надзьмуты аранжавы шар — сімвал сонца, жыцця, надзеі. Укол у гумавую мякаць і — сонца гасне, жыццё цьмянее, надзеі паміраюць. Луцэнка расказвае нам пра паядынак чалавека са Смерцю, даводзіць пра гібель Душы, якая прыходзіць разам з абыякавасцю, маральным самнамбулізмам. І ўслед за задумай рэжысёра, сумны П'еро павольна крочыць па зале, уважліва зазіраючы ў твары...

У Б. Луцэнкі спектакль разыгрываюць акцёры псіхіятрычнай бальніцы горада N. У цемры на шурпатых, патрэсканых сценах старой лякарні ўзнікаюць дзідападобныя цені санітараў, хворых людзей. Грукаюць па падлозе жалезныя колцы бальнічных ложкаў, якія падчас дзеяння ператвараюцца ў сталы альбо магільную агароджу (сцэнаграфія В. Маршака). Аднак жанр спектакля вызначаны як трагічная **камедыя**. (У свой час, калі Эрдман чытаў артыстам МХАТа "Самазабойцу", К. Станіслаўскі неадночы прасіў аўтара прыпыніць чытанне: ад рогату ў яго балела сэрца.). У Луцэнкі эрдманаўскія персанажы разважаюць пра набалелыя для грамадства праблемы, спавітыя ў суцяшальныя кашулі. Душэўная хвароба робіць усіх *іх напалеонамі*. І публіка надрывае жываты з рогату, калі адзін такі "напалеон" тэлефануе ў Крэмль, каб пасласць усіх... далёка-далёка. Праўда, як у любой "псіхушцы", тут прысутнічаюць розныя "слаі грамадства: прадстаўнікі інтэлігенцыі, гандлю, мастацтва, журналістыкі, нават рухаў за духоўную ці цялесную любоў. Відавочна, што адзін з самых любімых аўтарам персанажаў — гэта аблезлы інтэлігент Арыстарх Гранд-Скубік, *прыналежнасць якога да гэтага "варожага"* ва ўсе часы класа вызначаецца па прыемнай картавасці ды пенснэ. Цудоўная акцёрская работа А. Корчыкава! Непадражальныя вобразы "душэўнахворых" ствараюць таксама акцёры І. Мацкевіч (Пугачоў), А. Душачкін (Віктар Віктаравіч), Т. Баўкалава (Клеапатра Максімаўна), Т. Гаркуша (Раіса Філіпаўна), В. Гудзіновіч (Ягор Цімафеевіч), В. Саладзілаў (Е. Ялпідзій), Я. Нікіцін (Калабушкін), А. Пастрэвіч (Перасветава), С. Кузьміна (Серафіма Ільінічна). Луцэнку ўдаецца данесці няўлоўную атмасферу сатырычных літаратурных твораў 20-х гадоў (спектакль вытрыманы толькі ў чорна-белых колерах).

*...Аднойчы нехта таварыш Сямён Падсякальнікаў (А. Шадзько) паспрачаўся з жонкай (Э. Пранскутэ) з-за лівернай каўбасы (у гэтай сцэны муж і жонка ляжаць на двух бальнічных ложках, якія месціцца на авансцэне — для "страхоўкі" Луцэнка ўвесь час будзе падкрэсліваць ненармальнасць таго, што адбываецца). Нечакана Падсякальнікаў пачынае ўсведамляць, што ён бескарысны, нікчэмны чалавек, які жыве за кошт іншых людзей. Узрушаны герой бяз штаноў (хутчэй — душэўна аголены) уцякае з дому. На першы погляд камічная недарэчнасць — беспрацоўны муж захацеў з'есці каўбасу, якую купіла на свае грошы жонка, — насамрэч выяўляе глыбокую трагедыю **абывацеля** Падсякальнікава. Трагедыю амёбнасці, безасабовасці існавання, калі чалавек не задумваецца як жыве. Спачатку Падсякальнікаў імкнецца навучыцца іграць на трубе, уяўляючы сябе музыкантам, які будзе зарабляць шмат грошай. Але да музычнага інструмента, узятага з вялікімі цяжкасцямі напракат, прыкладаюцца бязглуздыя інструкцыі: каб навучыцца іграць на трубе, трэба набыць пяніна! Неверагодна-бязглуздыя, выдуманыя правілы напісаны на ўсе выпадкі жыцця! І з гэтага моманту Падсякальнікаў цвёрда вырашае зрабіць хоць адзін сапраўдны учынак — застрэліцца. Аднак шлях да самазабойства становіцца для героя шляхам да самога сябе. Запускаецца дзіўны механізм пошуку чалавекам ісціны. Падсякальнікаў пачынае глядзець углыб жыцця, углыб чалавека.

Праблема каштоўнасці чалавечай асобы ўзвышаецца ў тых эпізодах спектакля, калі астатнія пацыенты "псіхушкі" просяць "самазабойцу" Падсякальнікава памерці за іх высакародныя ідэі. Многія рэчы ў жыцці здаюцца грамадству важнымі. Людзі ўслаўляюць Каханне, Розум, Натхненне, Чалаве-

# Аляксандр Ткачонак выцягвае "самазабойцу" з пятлі

Ёсць п'есы поліфанічныя. У іх некалькі раўназначных галоўных герояў, некалькі асобных сюжэтных ліній, якія па-свойму раскрываюць задачу п'есы. "Самазабойца" Мікалая Эрдмана (новы спектакль у Рускім тэатры называецца "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца") — твор іншага складу. Ён *нагадвае сольнае выкананне пад акампанемент сімфанічнага аркестра.*

Саліруе Аляксандр Ткачонак (галоўную ролю ў іншым акцёрскім складзе выконвае Аляксей Шадзько). Роля Сямёна Падсякальнікава ўзвышаецца над астатнімі, як ветразь над караблём. Яна прыводзіць у рух усе падзеі п'есы, вядзе спектакль праз рыфы абставін.

Рэжысёр спектакля Барыс Луцэнка і мастак Веніямін Маршак перанеслі герояў апальнай п'есы з маскоўскай кватэры ў... псіхіятрычную лякарню. Калі б семдзесят гадоў таму ў тэатры Меерхольда, у Тэатры імя Вахтангава і ў МХАТе, дзе спрабавалі паставіць "Самазабойцу", зрабілі б тое ж самае, — хто ведае, можа, улада й не забараніла б спектакль. Сапраўды, што возьмеш з шалёных? Ці мала чаго яны там, за высокім плотам, нагавораць? Спектакль Луцэнкі пачынаецца з таго, як на двух бальнічных ложках Падсякальнікаў і яго жонка Марыя (Эмілія Пранскутэ) вядуць прынцыповую начную размову. Пра ліверную каўбасу...

... Падсякальнікаў скідае з сябе коўдру, кладзе нагу на нагу, рабром далоні б'е сябе пад калена. "Бачыла?" — "Што гэта, Сеня?" — "Нервовы сімптом"... Трывіяльны выраз *"аголены нерв"* як нельга лепш характарызуе той эмацыянальны фон, на якім рэжысёр пачынае маляваць характары герояў. Гэты тон адразу падхоплiваюць акцёры. Нездарма параўноўваюць "Самазабойцу" з "Горам ад розуму" Грыбаедава. У абедзвюх п'есах сюжэт закручаны вакол асобы галоўнага героя, які знаходзіцца ў стане эмацыянальнага надрыву. Праўда, у "Самазабойцы" ўзбуджанасць сапраўды даходзіць да межаў паталогіі, калі можна весці гаворку аб псіхіятрычнай лякарні. Але якімі ж яшчэ фарбамі можна было намаляваць "*героя нашага часу" Расіі 20-х гадоў?*

Рэдкі дар: кожная думка, кожнае слова не проста вымаўляюцца, а нараджаюцца. Нараджаюцца нечакана, здзяйсняюцца, нават для самога акцёра. Верыш, што Сямён Падсякальнікаў *не выбучаў ролю свайго жыцця, свайго лёсу,* а наадварот, кожную хвіліну, кожную гадзіну адкрываў яе для сябе. Вось, аказваецца, *які* я! Вось, аказваецца, *што* адбываецца вакол мяне! Маска "пятрушкі", смешнага і заўсёды *здзіўленага чалавека, бадай, як нельга лепей* падыходзіць для трагікамічнага персанажа п'есы. Разумееш, што без "дурыкаў", без гіпербалізаванага гумару ў тыя часы пражыць было немагчыма. Гратэск стаў не толькі "праўдай жыцця", але й неабходнасцю.

Як драпежныя птушкі, якія згледзелі патэнцыяльную ахвяру, прыляцелі да Падсякальнікава ўсе, хто мог выкарыстаць яго самагубства ў асабістых мэтах. Уладарнік стралковага ціра Калабушкін (Яўген Нікіцін), гаспадыня





ка. Гэты выпадковы Месія-Падсякальнікаў павінен памерці абавязкова за штосьці вялікае: за інтэлігенцыю, каб у рэшце рэшт ёю перастаў пагарджаць пралетарыят (публіка ў зале будзе заўсёды суправаджаць апладысментамі бліскучы маналог Гранд-Скубіка на гэтую тэму); за бескарыслівую духоўную любоў, якой увесь час ставіць палкі ў колы бессаромная любоў цялесная; за вялікую літаратуру... Аднак галоўная мэта Сямёна Падсякальнікава, якога Луцэнка параўноўвае з Месіяй, — сцэна развітання з "самазабойцам" кампазіцыйна будуецца як "Тайная вячэра" Л. да Вінчы — выратаванне, узнясенне Душы. Ён публічна абвяшчае пра сваю Асобу. Нядаўні абывацель Падсякальнікаў цяпер шмат разважае. "А калі душы няма? Што тады? Як тады?" Абуджэнне самасвядомасці вымушае яго думаць. "Ёсць тагасветнае жыццё ці няма? Я ў вас пытаюся?.." Акцёр А. Шадзько ўвасабляе чулівага, крыху наіўнага чалавека. Падсякальнікаў-Шадзько шчыра дэкламуе нам унутраны дзённік сваіх думак. І герой высунуты рэжысёрам наперад, бо, нягледзячы на ўсю гэтую мітусню вакол яго, сочыш менавіта за дзіваком "самазабойцам". За яго ціхімі словамі (Шадзько іграе, як дыхае), уздыхамі, сумнымі позіркамі. Не, нездарма Луцэнка пераносіць дзеянне п'есы з кватэры ў псіхіятрычную лякарню. Вялікія ідэі, за якія просяць памерці Сямёна, — гэта сапраўднае трызненне душэўнахворых. Каштоўнасць можа быць толькі адна — асоба чалавека, самабытная, непаўторная асоба. І Падсякальнікаў толькі імітуе, што памірае за ідэйнасць (якая падтэкставая аплявуха Саветам!). Нечакана для ўсіх "самазабойца" ўжо ў труне адкрывае вочы. Не змог. Не захацеў. Бо — навошта? На сцэне ў гэты момант — трыумф разняволенай, свабоднай асобы. Нараджэнне **індывіда** Падсякальнікава. Праўда, жанр п'есы вызначаны як **трагічная** камедыя. Незразуметы "ідэйнымі" Сямён Падсякальнікаў насамрэч канчае жыццё самагубствам у той момант, калі вырашае зноў жыць, як усе. Казаць пра што думаеш шэптам, бяздумна жаваць ліверную каўбасу...

...Некалі Б. Луцэнка прызнаваўся, што любіць працаваць над класікай, якая дазваляе яму выказацца на поўны голас і літаральна пра ўсё. Не цяжка заўважыць, што ў спектаклі "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца" прысутнічаюць тэмы і вобразы "Гамлета". Прынамсі, маналог Падсякальнікава падчас стрэлу, у якім "цік" — гэта быць, а "так" — гэта не быць, вельмі падобны на "Быць альбо не быць?" А дзве дзіўныя бабулькі з рыдлёўкамі (А. Шах-Парон, З. Асмалоўская), якія суправаджаюць Падсякальнікава, нагадваюць двух далакопаў. Такім чынам, пасля кожнай сцэны Луцэнка ставіць шматкроп'е, пакідаючы месца для фантазіі гледача. І таму спасцігнуць адразу спектакль цяжка, як цяжка сапраўды прачытаць "па дыяганалі" таленавітую кнігу.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*На здымках: сцэна са спектакля; Падсякальнікаў — А. Шадзько.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА, М. ПРУПАСА*

УРАЖАННЕ

# "Чытай, вывучай Лучанка..."

## ЭКСПРОМТ ДЛЯ ДВУХ ГАЛАСОЎ

*— Віншаваць Уладзіміра Ліпскага з новай кнігай ці прамаўчаць дыпламатычна?*

— Віншаваць, вядома! І дзякаваць. Ужо за тое, што ён першы напісаў і выдаў папулярны дакументальны аповед пра сучаснага беларускага кампазітара. І за тое, што гэтак паслядоўна, добрасумленна, карэньчык да карэньчыка, галінка да галінкі, узнавіў радаводнае дрэва Ігара Лучанка. За тое, што прыслухаўся да свайго ўнутранага голасу і ўзяўся скласці з прыгожых, узнёслых, узрушаных слоў песню — пра таленавітага і слыннага музыку, беларускага песенніка-самародка, пра "сонечнага хлопчыка", народжанага пад знакам Ільва, пра чалавека, хаця і стомленага жыццём, а ўсё яшчэ апанаванага імкненнем ахапіць неабдымнае, паспець паўсюль і да ўсіх, "басанож па зорках" адольваючы наканаваны яму шлях творцы-лідэра...

*— Адразу адчуваецца: вы — пад уражаннем ад аповеду Уладзіміра Ліпскага. Кніжка, названая пісьменнікам "Басанож па зорках. Пра вядомага і невядомага Ігара Лучанка", толькі-толькі пабачыла свет, дзякуючы выдавецтву "Беларусь", і адразу прыцягнула ўвагу бібліяфілаў. Прывабная вонкава, кідка складзеная і аформленая, насычаная жывой інфармацыяй, выказваннямі многіх вядомых людзей, сяброў, родзічаў Ігара Лучанка, цікавымі, часам нечаканымі фотакадрамі. Пісьменніку, безумоўна, спатрэбіліся і адвага, і шчырасць, і адданасць свайму куміру, і неверагодная ўседлівасць, і цярплівасць, і няўрымслівая мабільнасць, каб агарацць архіўныя матэрыялы і той хатні скарб з розных папер, газетных выняткаў, кніжак, дакументаў, здымкаў, азнаёміцца з якімі прапанаваў герой свайму біёграфу: "На, чытай, вывучай Лучанка дзень і ноч..." (стар. 7).*

— Мне здаецца, кніга "Басанож па зорках" каштоўная найперш тым, што, дзякуючы яе працавітаму аўтару, дае чытачам вось такую магчымасць — "вывучаць Лучанка". Яго далёкіх самавітых продкаў. Яго нешараговых, таленавітых бацькоў. Яго вірлівае і складзенае з мноства падзей, нібыта шматколерная рухавая мазаіка, — яго парадаксальнае жыццё, у якім — гады вайны, свае "універсітэты", сваё "трывожнае шчасце", камсамольская рамантыка, грамадскія пасады, дзяржаўныя клопаты, вандроўкі па розных краінах і кантынентах, сябры, новыя знаёмцы, і песні, песні...

*— Пагаджаюся цалкам! Вось толькі мне падалося, што часам аўтар аповеду трапляе ў палон да, як цяпер кажуць, харызматычнай асобы героя і за ім следам імкнецца ахапіць неабдымнае, "перабдытаць дзень і ноч", "спыніць імгненне", каб выказаць самае шчырае захапленне творчым геніем Лучанка.*

— Але ж у гэтым — адметнасць аўтарскага стылю пісьменніка, праява яго ладу мыслення і ўласнага літаратурнага густу, які можа не супадаць з нечымі мастацкімі крытэрыямі!

*— Так, так. І ўсё ж, мне здаецца, строгі рэдактар мог бы параіць аўтару больш ашчадліва карыстацца метафарамі, не выклікаць на сябе крытычны агонь з боку тых заўсёды незадаволеных чытачоў, якія толькі й чакаюць, каб выхапіць з тэксту нейкую фразу ці проста "прычапіцца да слова"...*

— І што, на вашу думку, магло б зрабіцца аб'ектам крытычных стрэлаў у новай кнізе?

*— На маю думку... Ці не толькі на маю... Большай карэктнасці хацелася б ва ўжыванні музычнай тэрміналогіі. Уверцюра чамусьці папярэднічае... актавам, у актавах чамусьці не восем, а сем гукаў (за выключэннем апошняй "актавы"-раздзела аповеду). У актавах чамусьці змешчаны прэлюдыя, кантата, сюіта, рэквіем, араторыя і г. д.*

*Строгі рэдактар наўрад ці абмінуў бы мясціны ў тэксце кшталту апісання песні "Жураўлі на Палессе ляцяць". Цытую: "...Некалькі тонкіх дотыкаў да клавішаў ствараюць музыку вельмі ж падобную на курлыканне жураўлёў. Вось яны (...) вяртаюцца з поўдня, дзе было цёпла і хораша, ляцяць у балоцістае Палессе, у сваю адвечную дамоўку. Тут яны гадуюць буслянят і цешацца прыгажосцю прыроды" (стар. 114).*

*Яшчэ цытаты. "Вобраз гэтага дзеяча рэвалюцыі кампазітар запусціў у сваю душу пасля наведання дома-музея..." (стар. 138). "...Навучыць семсот студэнтаў асэнсоўваць і ўспрымаць уроравень з класікай і сучасную музыку, народны фальклор" (стар. 154). "...У летнім амфітэатры Віцебска прайшоў першы Міжнародны музычны фестываль славянскай песні. Над горадам нібыта лунаў дух самога Марка Шагала" (стар. 162). "Голас прыціх. Словы скончыліся. Але кампазітар уздымае апошнія акорды ўверх. Туды, дзе свеціць сонца, дзе спачывае сам Бог" (стар. 168).*

*Зрэшты, хопіць. Я чалавек незласлівы, ад іранічных каментараў устрымаюся. А мае добрыя словы ўжо былі сказаныя...*




— Чытачы, напэўна, таксама скажуць свае добрыя словы аўтару кнігі і яе герою, вобраз якога атрымаўся шматгранны і неадназначны, супярэчлівы і абаяльны. У кнізе, паўтару, багата фотаілюстрацый, з якіх утвараецца нібыта паралельны, красамоўны і яскравы, аповед: Лучанок з сямейнікамі; з маладымі кампазітарамі; з касманаўтамі; з "Песнярамі"; з Машэравым; з Карваланам; з Сабчаком; з Махмудам Эсамбаевым; з Дзінам Рыдам; з Аляксандрай Пахмутавай; з беларускімі паэтамі; з навучэнцамі роднай Мар'інагорскай школы... А яшчэ ёсць старонкі з некалькімі лепшымі Лучанковымі песнямі.

Тыраж у кнігі Уладзіміра Ліпскага — 2000 асобнікаў. Малавата? Бяруся сцвярджаць, што чытачоў будзе больш. "Вывучаць Лучанка", мажліва, захочуць не толькі яго суайчыннікі, але і прыхільнікі ды сябры кампазітара, якіх багата за межамі Беларусі. Новаму выданню наканавана шырокая чытацкая цікавасць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ,**
**спрычыненая да экспромта**

рэстарана Перасветава (Алена Пастрэвіч), інтэлігент Гранд-Скубік (Алег Корчыкаў), Клеапатра і Раіса, дзве незамужнія жанчыны (Таццяна Баўкалава і Людміла Былінская), кур'ер Ягорушка (Віктар Гудзіновіч), мяснік (Іван Мацкевіч), пісьменнік (Андрэй Душачкін) і пан Ялпідый (Вячаслаў Саладзілаў) — гэта не поўны пералік, хто хацеў бы сказаць: "Падсякальнікаў застрэліўся з-за мяне!" Паўгалодны беспрацоўны, амаль жабрак, раптам ператвараецца ў куміра!

Падбародак падымаецца ўгору, рухі робяцца больш раскаванымі, размашыстымі, голас набывае ўладарнае адценне — такі Падсякальнікаў у другой частцы спектакля. Пыхлівасць узнесла яго над шэрым, атручаным няўдачамі натоўпам, і ён "паплыў". А калі чалавек пачынае мроіць толькі пра сябе, думка аб смерці робіцца для яго далёкай.

Але вось настае гадзіна "ікс". Падсякальнікаў — у труне. Яго жонка лье слёзы. Цешча (Святлана Кузьміна) жалобна галосіць. Аднак "кумір інтэлігенцыі" не памёр. Ён прыкінуўся мёртвым, каб... выжыць. Перад намі **іншы** Падсякальнікаў! Акцёр іграе чалавека, які ззяе ўнутраным святлом. Чалавека, які здзейсніў маральны выбар. Ён перамог насланнё, пераадолеў ідэю самагубства. Выказваючыся медыцынскай мовай, ён пераадолеў душэўную хваробу. Самазабойца пачаў адважна змагацца за жыццё. Хіба гэта не цуд? Хіба гэта не тэма для даследавання і мастацкай творчасці?

П'есу "Самазабойца" цяжка назваць антысавецкай. Яна вельмі саркастычная "літаральна". (Чаго варты словы: "У смерці прашу не абвінавачваць нікога, акрамя нашай любімай савецкай улады").Але па духу яна не рэвалюцыйная. Усе персанажы — камічныя. Падсякальнікаў усіх падмануў. Нездарма на "антысавецкім" Захадзе п'есу ўпершыню паставілі толькі ў 1969 годзе ў Швецыі, праз 40 гадоў пасля яе напісання. Эрдман меў незалежныя палітычныя погляды,але як мастака яго ў першую чаргу цікавілі агульначалавечыя, маральныя праблемы. Яскравыя характары, "разгорнутыя канфлікты" — бадай, дзякуючы гэтым якасцям твор пасняхова адолеў дзесяцігоддзі. І акцёры прытрымліваюцца "эрдманаўскай" формулы поспеху: не надта націскаюць на шматзначнасць, не спяшаюцца правадзіць аналогіі з сучаснасцю, а пражываюць тое, што ў п'есе напісана.

Вядома, сцэнічная кампазіцыя, як і рэжысура, і ігра акцёраў у новым спектаклі не бездакорныя. Дарэчы, асобныя павярхоўныя ці грубаватыя моманты ёсць і ў аўтарскім тэксце. Бо гэта ўсяго толькі другая (і апошняя) п'еса Эрдмана. Гэты твор ён напісаў ва ўзросце 29-ці гадоў (у 30 яго ўжо саслалі). Аднак канструктыўны сэнс у спектаклі ёсць. І даносіць яго акцёр, які іграе ролю Сямёна Падсякальнікава, Аляксандр Ткачонак "выцягвае" самазабойцу з пятлі і заклікае нас рабіць у жыцці тое ж самае.

**Андрэй АХМЕТШЫН**

# "Апраўдаць сваё існаванне..."

У мінскім кінатэатры "Масква" адбыўся прэм'ерны паказ новага фільма вядомага польскага кінарэжысёра Кшыштафа Занусі "Жыццё як смяротная хвароба, якая перадаецца палавым шляхам", і сустрэча з самім кінарэжысёрам, наладжаныя пры дапамозе Польскага інстытута ў Мінску, тэлепраграмы А. Лукашэвіча "Новая калекцыя" Першага нацыянальнага тэлеканала, Міністэрства культуры Беларусі і іншых устаноў.

Не многім мінскім гледачам, думаецца, удалося паглядзець праграму міжнароднага кінафестывалю, што адбыўся ў 2000 г. у Маскве, дзе фільм Занусі атрымаў Гран-пры. Да ўсяго, як лепшы польскі фільм на фестывалі ў Гдыні ён вылучаны намінантам на прэмію Амерыканскай кінаакадэміі "Оскар" ад Польшчы. З 70-х гадоў Занусі стаў для Польшчы адным з самых актыўных і вядомых рэжысёраў, які выпускае адну-дзве кіна- ці тэлекарціны ў год. Многія з іх былі адзначаны прызамі МКФ у Чыкага, Венецыі, Сан-Рэма. Кожны яго фільм — філасофскае разважанне, "пошук прыгажосці і дабрыні". Дарэчы, Кшыштаф Занусі цікавы не толькі як творца, але і як чалавек, адкрыты ў адказах і развагах, шчодры на жарт.

Фільм "Жыццё, як смяротная хвароба, якая перадаецца палавым шляхам" неадназначны. Сама тэма, вобраз чалавека, які на вачах гледачоў памірае ад рака, ідучы ад адчаю да веры, выклікае і развагі, і эмоцыі, і пытанні. "Тэмы ў мастацтве заўжды аднолькавыя, нічым не адрозніваецца мастацтва сучаснае ад старажытнагрэчаскага. Усе займаюцца толькі дзвюма тэмамі: любові і смерці... Там, дзе я магу выказацца словамі, я пішу артыкулы, я езджу на кангрэсы, чытаю лекцыі. Да пытанняў жыцця, шчасця, любві і смерці я здымаю фільм".

На прэс-канферэнцыі Занусі распавёў, што назву для фільма "падгледзеў" на адной варшаўскай сцяне, якую моладзь і размалявала "графіці". Але здаецца, якраз назва і падкрэслівае складанасць разваг самога рэжысёра. "Нібыта жарт, але на самай справе гэта сур'ёзна. Страшна, што мы нараджаемся, каб памерці". Сам фільм пакідае незакрытым пытанне апраўдання эўтаназіі, прыход да веры і прабачэння за грахі.

Цікава, што шэсцьдзесят працэнтаў білетаў, прададзеных у польскіх кінатэатрах за апошнія некалькі год, прададзены на польскія карціны. У гэтым вялікая заслуга і Кшыштафа Занусі. "Мая апошняя карціна, — адзначыў рэжысёр, — ужо мае сто тысяч гледачоў. І гэта ўжо яе апраўдвае з боку эканомікі. Я задаволены, што сярод маіх гледачоў — дзевяноста працэнтаў моладзі. Праўда, многія з іх гавораць, што ўпершыню пазнаёміліся з маімі карцінамі. З аднаго боку, мне шкада: столькі год здымаў, а яны ніводнай не бачылі. А з другога боку, я радуюся, што так я заўжды адчуваю сябе маладым..."

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**





## Чэрвень мае сваю "памяць"

Напрыканцы мінулага года дачакаліся сваёй кнігі "Памяць" і жыхары Чэрвеня і Чэрвеньскага раёна.

Кнігу прыемна трымаць у руках, нетаропка перагортваючы. На першых старонках сустракаюць чытачоў фотаздымкі маляўнічых мясцін Чэрвеньшчыны (старажытнай Ігуменшчыны) і пералік найбольш значных падзей з яе гісторыі. Вось звесткі пра першы напамінак аб Ігумене ў пісьмовых крыніцах — 1387 год... А вось узгадваецца 1-я чвэрць 15 стагоддзя — час, калі Ігумен стаў цэнтрам валасці... Паведамленне пра тое, што ў 1708 годзе ў час Паўночнай вайны шведскі кароль Карл 12 знаходзіўся з войскам у Ігумене... А 205 гадоў таму, 22 студзеня 1796 г., горад атрымаў уласны герб: у блакітным полі срэбны куст кветак, які атачаюць пяць залатых пчол... Падзей шмат. І радасных, і сумных...

Сярод дакументаў звяртае на сябе ўвагу "Грамата цара Аляксея Міхайлавіча баярыну Шарамецьеву пра адпраўленне атрада шляхты ў Ігумен, каб не пусціць у горад казакаў", датаваная 27 чэрвеня 1657 года. І "Сакрэтнае данясенне мінскаму ваеннаму губернатару Забалоцкаму аб тэрміновай адпраўцы ў г. Ігумен ката" ад 12 лістапада 1863 года. Даведацца пра тое, чым даўней займаліся жыхары горада і павета, можна са "Звестак пра развіццё саматужных промыслаў", складзеных у 1889 г. А яшчэ можна пазнаёміцца з гісторыяй асветы, станам медыцынскага абслугоўвання ў Ігуменскім павеце, уявіць Ігуменшчыну па апісаннях П. Шпілеўскага, пазнаёміцца са знакамітымі людзьмі, што нарадзіліся на нашай зямлі ў той час...

Наступны раздзел ахоплівае падзеі з 1917 па 1941 год. У ім распавядаецца пра ўстанаўленне савецкай улады на Ігуменшчыне, вайну з Польшчай, называюцца актыўныя ўдзельнікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, прыгадваецца гісторыя ўтварэння Чэрвеньскага раёна. З успамінаў Генадзя Сакалова, тагачаснага жыхара горада, паўстае перад намі Ігумен 20-х гадоў, а асобныя старонкі раённай газеты "Калектывіст" (цяпер яна носіць назву "Раённы веснік") распавядаюць пра падзеі ў 1934—1940 гадах... Асобны ўнёсак у справу вяртання імёнаў робяць старонкі кнігі, якія апавядаюць пра ахвяры беспадстаўных палітычных рэпрэсій 1920—1940-х гадоў. Папоўніліся жалобныя спісы новымі прозвішчамі, выклікаючы шкадаванне і спачуванне...

І ў працяг тэмы — адзін з самых вялікіх раздзелаў, які ахоплівае перыяд з 1941 па 1945 гады. Вялікая Айчынная вайна...

Апошні раздзел — яшчэ незакончаны, недапісаны перыяд гісторыі, які спрабуе ахапіць час з 1945 года да нашых дзён. І зноў факты, лічбы, успаміны, але больш радасныя, аптымістычныя. Старонкі раённай газеты "Калектывіст" апавядаюць пра падзеі 1945—1969 гг., з фотаздымкаў глядзяць знакамітыя землякі. Апавядаецца пра фальклорныя набыткі Чэрвеньшчыны і сучаснае культурнае жыццё горада і раёна. Гэта выпуск літаратурных альманахаў "Мая Ігуменшчына" і "Мая Ігуменшчына-2", праца літаратурна-паэтычнага клуба "Ветразь", які створаны пры цэнтральнай раённай бібліятэцы, і клуба аматараў паэзіі і музыкі "Ліра", што існуе пры Смілавіцкай гарпасялковай бібліятэцы, дзейнасць Чэрвеньскага краязнаўчага музея і музея Станіслава Манюшкі, бібліятэк і народных калектываў (Смілавіцкага народнага хору, народнага вакальнага ансамбля "Вербніца", Натальеўскага народнага хору, устаноў адукацыі, культуры і г. д.).

Ганарымся мы і сваімі людзьмі, нашымі знакамітасцямі, ураджэнцамі гэтых мясцін: Станіславам Манюшкам (беларускім і польскім кампазітарам) і Хаімам Суціным (парыжскім мастаком са Смілавіч), Марыляй Мякотай (маці Максіма Багдановіча) і Міхаілам Рымінскім (прыгонным танцоўшчыкам А. Тызенгаўза), вучонымі Давыдам Голубам (акадэмікам АН Беларусі) і Аляксеем Каўкам (доктарам філалагічных навук, сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў), братамі Сікорскімі і Скаловымі, кампазітарамі Міколам Равенскім і Кімам Цесаковым, пісьменнікам Міхасём Пянкратам, алімпійскім чэмпіёнам-штангістам Валерыем Шарыем і Ганаровым грамадзянінам Чэрвеня Сямёнам Стальмашонкам...

Святлана АДАМОВІЧ,
навуковы супрацоўнік Чэрвеньскага раённага краязнаўчага музея

## "ЛіМ"-ФОТА

*Ото ж галовы!..*



Рыгор Барадулін, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Караткевіч.

## ПАЭЗІЯ

Паўлюк ПРАНУЗА

### Настрой юначы ў мяне

*Настрой лагодзіць мне ручай —*
*Празрыстая крыніца.*
*Да сэрца гора і адчай*
*Баяцца падступіцца.*

*Каго ж салоўка не кране,*
*Што заспяваў так рана?*
*Настрой юначы ў мяне,*
*Нібы я — закаханы.*

### Вецер веку

*Вецер веку — рэзкі і калючы —*
*Асвяжыў нашы справы і дні,*
*Ён змятае з жыццёвае кручы*
*Займшэлую нарасць хлусні.*

### Здаецца...

*Калі я пачую ўспаміны удоў,*
*Што памяць сваю гартаюць,*
*Здаецца — асколкі з далёкіх гадоў*
*Да сэрца майго далятаюць.*

### Я веру ў шчасце...

*Пагаслі зоркі. Зніклі цені.*
*А ночы — як і не было.*
*Прад сонцам стаў я на калені —*
*За ласку, цеплыню, святло.*

*Яму, свяцілу, я малюся,*
*Бо веру ў шчасце, дабрыню*
*Матулі роднай — Беларусі,*
*Яе пагодліваму дню.*

### Мая святыня

*Аклікаюць мяне часта — дзед,*
*Для Радзімы ж застаўся я сынам.*
*Я пакінуў салдацкі свой след*
*Ля Арла, ля Варшавы, Берліна.*

*Чую пошум зялёных бароў*
*І калосся паспелага жыта.*
*Як шкада, што ўжо мала сяброў,*
*З кім нягоды, баі перажыты.*

*Тут я сеяў і тут я касіў...*
*Мая памяць аб іх — не астыла.*
*Родны кут, ты — надзея мая, дзівасіл,*
*І мая дарагая святыня...*

Ніяна ЗАГАРЭЎСКАЯ

### Зіма пачынаецца з верша...

●

Ты вырваў душу маю
з бяздоння пякельнага
**з псальма Давіда**

*Там, дзе смутку былога адбітак,*
*сэрца поўніцца радасцю зноў:*
*Хто быў мною доўга забыты,*
*ў існасць вернуты з зімніх сноў.*
*І чаруюся я спакоем,*
*цешыць воля істоту спаўна,*
*І маленне гучыць такое:*
*не пакінь, не змагу жыць адна.*
*І мне сцюжа зімой — не сцюжа,*
*І не страшны самоты цень.*
*Ты памог цемру пекла адужаць,*
*Ты й падорыш свой Новы Дзень.*

●

*Ад былога ўцякаць не варта —*
*што было — ты яго не знішчыш,*
*толькі горыч сцвярджае ўпарта:*
*як усе ты такая — на днішчы.*

*А мінулае ценем ляжа,*
*ці тугою ў душу праврецца.*
*"Там і ты, — на бадзяг пакажа —*
*разгубіла пачуцці сэрца".*

*Прад вачамі паўстане бездань —*
*там знікаю, бясследна гіну...*
*І на радасць нячыстым бедам*
*ледзянею ад напаміну.*

*І пад наступ ліхой часіны*
*погляд свой на Хрыста ўздымаю:*
*дзякуй Збаўцу — Нябёсаў Сыну,*
*за спакой, што сягоння маю.*

*Кінастужка былога сведчыць:*
*ёсць змяненні — з самога днішча*
*падымае Любоў і лечыць,*
*а нянавісць ганьбуе й нішчыць.*

●

*На далоні злятае снег,*
*растае. Ён знікае — першы.*
*І здаецца чамусьці мне,*
*што зіма пачынаецца з верша.*
*Першы снег — натхнёнасць душы,*
*І яго чысціня — адзнака,*
*на далоні мае церушыў,*
*сустракаўся з цяплом і плакаў.*
*Белізной простар асвятліў*
*І святлом на душу павеяў,*
*стала хораша на зямлі —*
*ажывіў першы снег надзеі.*

Уладзімір КІВАТЫЦКІ

●

Міколу ТРУХАНУ,
светлай памяці

*Ва ўсім ёсць сэнс і боскі знак,*
*І плацім за ганебнасць болем...*
*За ўсё адказвае мастак —*
*Такая мастакова доля.*

*Сярод насмешак і маны*
*Нялёгка захаваць сумленне,*
*Будзіць высокія званы*
*І ў адказ — неразуменне.*

*Ёсць час спакус і адкрыцця...*
*Мастак павінен*
*праз боль мукі*
*Ўздымаць над хібамі жыцця*
*У неба ўкленчаныя рукі.*

●

ЛІЛІ, з удзячнасцю

*Пяцідзесятыя гады,*
*Як шум вясенняе вады.*
*Пасля вайны —*
*зімы суровай*
*Зноў прыляцелі журавы,*
*Прымералі палі абновы*
*Зялёнай, радаснай травы.*
*Як сонейка праз халады,*
*Пяцідзесятыя гады.*

*Яшчэ не бачны лёсу вечар.*
*Сінеюць далі, на працяг*
*Імгненне дыхае спрадвечным*
*І марыцца*
*пад Шляхам Млечным*
*Аб неўміручасці жыцця.*
*Як Караткевіч маладыя,*
*Шасцідзесятыя гады.*

*Надыдзе дзень —*
*пагасне ранне,*
*Шырэйшым стане далягляд.*
*Сяброў не блытаюць з каханнем,*
*Ды прарастае прадчуванне*
*Няўмольных,*
*беззваротных страт.*
*Дакорам ціхім назаўжды —*
*Сямідзесятыя гады.*

*Даўгі юнацтва плаціць сталасць.*
*Хмель не цвіце між збажыны.*
*Сярод турбот драбнее радасць,*
*Душу выпростае адказнасць —*
*Быць годным сцягу дзяўпіны.*
*Як прадчуванне злой бяды,*
*Васьмідзесятыя гады.*

*А сэрца горыччу баліць:*
*Дзірван выходзіць на палі.*
*Пустэчу атуляем дротам,*
*Надзею цешым, што, калі*
*Палоць асот сярод асоту,*
*Пшаніца ўзыдзе на зямлі.*
*Той пах нішчымнай лебяды —*
*Дзевяностыя гады.*

●

ПРОДКАМ, з нізкім паклонам

*Вякоў сярэдніх*
*прывідныя жахі.*
*Сутарэнні. Змрочныя манахі.*
*Зямля крывёю чорнаю паліта.*
*Вытаптана жыта.*

*Бяроз спрадвечных сцяты карані,*
*Душа ў сірочым*
*крыку развітання*
*І вечарам не ведаеш ані,*
*Ці ўзыдзе ранне.*

*Праклён, адчай і плач —*
*не суцяшэнне.*
*Даўно, даўно ўжо чакае поле.*
*Як сеяць, божа, прэлае насенне...*
*О, доля!*

*Няма, няма у свеце паратунку.*
*Саха сатлела, саржавела дзіда.*
*Дарог зашмат,*
*ідзі у любым кірунку —*
*Вытаптана жыта.*

# "...Рытмы ў душы абудзіць"

Невыпадкова, мусіць, Рыгор Лынькоў абраў псеўданім Рыгор Суніца. Ступіў ён на літаратурную сцежку, калі яго родны брат Міхась ужо друкаваў газетныя матэрыялы, вершы і прозу пад уласным прозвішчам.

16-гадовы Рыгор Суніца выступіў з вершамі ў сярэдзіне 20-х гг. на старонках бабруйскай акруговай газеты "Камуніст". Дэбютаваў ён і сцвярджаў сябе ў літаратуры дзякуючы падтрымцы і творчай апецы старэйшага брата, які, між іншым, быў супрацоўнікам "Камуніста" (вырас да рэдактара газеты), кіраваў дзейнасцю бабруйскай філіі "Маладняка". У той жа час Міхась Лынькоў шчыра спрыяў росквіту талентаў Барыса Мікуліча, Алеся Жаўрука, Хвядоса Шынклера, Васіля Віткі і іншых маладых хлопцаў. Відаць, Р. Лынькоў, шануючы брата і кіруючыся разам з ім на літаратурны бальшак, абраў вельмі паэтычнае імя — Суніца. Праўда, выказвалася і такая думка: маўляў, у тыя гады было модна мець псеўданім. У такім разе, ці не Янка Купала ды Якуб Колас былі заканадаўцамі гэтай літаратурнай моды? Абсалютную большасць мастацкіх тэкстаў аўтар падпісаў сваім улюбёным псеўданімам. І толькі пераклады ды нешматлікія артыкулы ён змяшчаў пад сапраўдным прозвішчам і крыптанімамі Р. Л., Л-коў і некаторымі іншымі. Свае старонкі для публікацый, апрача "Камуніста", яму аддавалі "Вясна", літаратурны дадатак да гэтай газеты, а таксама іншыя тагачасныя выданні — газеты "Камунар Магілёўшчыны", "Палеская праўда", "Чырвоная змена", "Літаратура і мастацтва", часопіс "Полымя рэвалюцыі". Аднак Р. Суніца так і не прычакаў шчаслівай пары выхаду зборніка свaix вершаў і перакладаў. Нямала твораў загінула ў рукапісах у ваенны час, які падкараціў і без таго невялікую спадчыну гэтага пісьменніка.

Рыгор Суніца (Рыгор Ціханавіч Лынькоў) нарадзіўся вясною (у красавіку ці маі) 1909 г. у чыгуначнай будцы каля в. Старое Сяло Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. З 1923 па 1925 г. ён жыў у в. Свержань на Рагачоўшчыне, куды яго, а яшчэ малодшага брата і сястру, забраў старэйшы брат Міхась пасля таго, як трагічна загінула іхняя маці. Рыгор вучыўся ў мясцовай сямігодцы, у якой настаўнічаў брат. Увесну 1925 г. М. Лынькова запрасілі працаваць адказным сакратаром газеты "Камуніст". Тут, у Бабруйску, Рыгор працягваў вучобу ў сярэдняй школе. Школьныя гады падаравалі сяброўства з Барысам Мікулічам і Аляксеем Зарыцкім, якія таксама былі творчымі натурамі.

З 1928 г. Рыгор працаваў загадчыкам хаты-чытальні ў в. Ахвоцічы Бабруйскага раёна. Прыблізна ўвосень 1929 г. уладкаваўся працаваць у газету "Камуніст". Адначасова займаўся на курсах марзістаў пры гарадскім ваенкамаце, бо, нягледзячы на дрэнны зрок, вельмі хацеў патрапіць на вайсковую службу. Жаданне хлопца спраўдзілася — ён трапіў у армію, зведаў салдацкі хлеб. Пасля дэмабілізацыі Р. Суніца вярнуўся на працу ў рэдакцыю "Камуніста". Аднак у сярэдзіне 30-х гг. ён быў вымушаны пераехаць у Мінск, паколькі абставіны складваліся для яго неспрыяльна (толькі ў 1935—1936 гг. было арыштавана больш за 70 беларускіх літаратараў). Дапамагаў ратавацца ад сталінскай пасткі брат Міхась, які ўжо быў галоўным рэдактарам часопіса "Полымя рэвалюцыі", а ў 1938 г. узначаліў тагачасны Саюз пісьменнікаў. З 1936 па 1941 г. Р. Суніца працаваў адказным сакратаром газеты "Літаратура і мастацтва".

У самы першы дзень вайны браты Лыньковы падаліся ў вайсковыя часці, да якіх былі прыпісаны. Не паспелі развітацца са сваімі роднымі, сем'і загінулі ў віхуры ваеннага ліха. На фронце ў 1941 г. склаў сваё маладое жыццё 32-гадовы паэт Рыгор Суніца. Прапаў без дакладных вестак, заўчасная смерць, магчыма, напаткала паэта ў раёне ракі Бярэзіны, дзе падчас пераправы яго бачылі бы бачылі апошні раз... знаёмыя.

Творчасць Р. Суніцы неаднародная па сваіх ідэйна-эстэтычных вартасцях. Свае асноўныя паэтычныя творы ён надрукаваў у 20-я гг., а, дакладней, пачынаючы з 1926 і да 1930 г. Самай першай прыкметнай яго публікацыяй была падборка вершаў у альманаху "Уздым" (1926), які выдала бабруйская філія літаб'яднання "Маладняк". Выяўляў ён сябе, як і многія аднагодкі-маладнякоўцы: з бадзёрасцю і ўзнёсласцю інтанацый, з устаноўкай на паэтыку агульнага і абстрактнага, каб раскрыць радасна-ўрачыстае адчуванне новага жыцця, яго незвычайна светлую і велічную перспектыву. Юнак, лірычны герой паэта, паўстае як апантаны жыццялюб і аптыміст, які славіць маладосць і "думкі золатазвонныя":

*Эх вы, думкі золатазвонныя,*
*Эх ды стромені бяздонныя,*
*Век крынічыць у вас маладасць*
*Неўміручая, разгонная.*
**"Эх вы, думкі..."**

Аўтар паэтызуе моц і размах маладога імпэту, нястрымнасць душэўных памкненняў. Ён піша з рамантычнай акрыленасцю пачуццяў, з экспрэсіўнай "бурапеннасцю" мовы. Сэрца паэта насцеж расчынена ў будучыню:

*Па-над сумам стаіць крыж пахілы,*
*А у будучым — столькі надзей...*
*Сэрца з радасці рвецца з грудзей,*
*Затрымаць, закілзаць — няма сілы!*
**"З уласнага"**

Вобразнасць і структура падобных вершаў бачыцца, безумоўна, другаснай і перайманальнай, уключанай у агульную стылёва-выяўленчую плынь таго часу. Юнацкая шчырасць, захопленасць і разняволенасць пачуцця — усё яскрава гаворыць пра тыповае творчае станаўленне маладога паэта 20-х гг.

Інфантылізм у творчасці Р. Суніцы, аднак, не зацягнуўся, не перарос у зацяжную прыкрую хваробу. Ён не задаволіўся маладнякоўскай рамантыкай і агульшчынай вобразнага мыслення. Паэт стаў больш давяраць уласнаму "я", пачаў гаварыць з натуральнасцю інтанацый, роздумна, абапіраючыся на традыцыю псіхалагізму ў беларускай літаратуры. Р. Суніца быў вельмі патрабавальны да сябе, уласнай творчасці, пра што, дарэчы, добра пісаў В. Вітка: "Юнак з незвычайна чулай душой і суровай ашчаднасцю да кожнага слова, ён адразу ж вылучыўся сярод нас маштабнасцю вобразаў, значнасцю думкі". Паэт звярнуўся да аналізу душэўнага свету чалавека ў вершы "Дзяўчынцы з юндому". Ён усхвалявана апавядае пра цяжкі лёс дзяўчынкі, якую беспрытульніцтва і гора прывялі ў дзіцячы дом. Калі яна вырасла, то сэрца яе не зрабілася чэрствым і абыякавым, хоць у вачах часам блукае "маленькі сум і маленькая, таемная задума". У творы набывае інтымнае гучанне матыў кахання. Юнак сарамліва-далікатна і даверліва раскрывае пачуццё закаханасці ў "тую дзяўчыну, што працуе ў швейнай".

*Сам я,*
*вам прызнацца,*
*вельмі малады,*
*а вачам блакітным*
*не складаў шчэ песень.*

Пра патэнцыял паэтычнага таленту Р. Суніцы асабліва красамоўна сведчыць верш "На сконе дзён", які быў надрукаваны ў часопісе "Вясна" за 1930 г. Гэты твор паказвае, што Р. Суніца быў у нашай паэзіі наватарам, вынаходлівым вершатворцам і смелай творчай асобай. Яму ўласцівы паглыблены погляд на чалавека і рэчаіснасць, уменне прарочна прадчуваць падзеі і само жыццё. Верш "На сконе дзён" — арыгінальны па форме, з'яўляецца першай беларускай лірычнай секстынай. Страфічная яе арганізацыя своеасаблівая: кожны чарговы радок першай страфы пачынае і заканчвае ўсе наступныя пяць строф. Верш гэты ўяўляе сабой той выпадак, калі форма і змест арганічна паяднаны між сабой. Паўтор радкоў экспрэсіўна ўзмацняе гучанне твора, паглыбляе яго псіхалагічную змястоўнасць.

Верш мае падзагаловак "Лірычная эпітафія", які пры перакладзе на рускую мову ў зборніку "Кровью сердца" (1985) быў апушчаны. Але гэты падзагаловак нясе важную характарыстычную нагрузку. У творы паэт паказвае ўнутраную драму селяніна падчас "вялікага пералому", які прынесла сталінская калектывізацыя. Стары чалавек баіцца заўтрашняга дня, яго сэрца прыгнечваюць цяжар і трывога:

*І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы,*
*Дзе няма ні месяца, ні зораў,*
*І не відна, у які бок крочыць,*
*Бо старыя вочы ўжо не хочуць*
*Пазіраць у новыя прасторы, —*
*І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы.*

Твор гэты — эпітафія беларускаму сялянству. Паэт гэтак, як і К. Чорны ў аповесці "Лявон Бушмар", М. Зарэцкі ў раманах "Сцежкі-дарожкі" і "Вязьмо", Я. Купала ў вершы "Сыходзіш, вёска, з яснай явы...", прадбачыў трагізм лёсу сялянскай Беларусі, успрымаў селяніна і ацэньваў падзеі, ідучы ад рэальнай праўды і канфліктаў тагачаснага жыцця. У секстыне паэт дэманструе вобразную глыбіню думкі і адшліфаванасць радка.

У 30-я гг. Р. Суніца выступаў у друку выключна як перакладчык і крытык. Большасць сваіх паэтычных перакладаў змясціў на старонках газеты "Літаратура і мастацтва". Эпізадычна звяртаўся да перастварэння на беларускую мову празаічных тэкстаў рускіх і яўрэйскіх пісьменнікаў. Пераклаў п'есу Міхаіла Святлова "Казка", якую ў 1941 г. паставіў Беларускі тэатр юнага гледача.

У поле зроку паэта-перакладчыка трапілі творы А. Міцкевіча, А. Пушкіна, М. Някрасава, А. Блока, І. Чаўчавадзе, Э. Вайнерта, М. Бенавідэса і інш. Класічныя рэчы вымагалі адпаведна строгага падыходу і адказнай працы з арыгіналамі. У лепшых перакладах ён здолеў прадэманстраваць цудоўныя выяўленчыя магчымасці беларускага паэтычнага слова. Асабліва шмат ён перакладаў У. Маякоўскага, актыўна ўдзельнічаў у выданні "Выбраных твораў" гэтага аўтара (аднатомнік выйшаў у 1940 г.). Яго паэзія захапляла беларускага аўтара неардынарнасцю вобразнага мыслення, сваёй раскаванай асацыятыўнасцю, страснасцю прамаўлення і яркасцю стылю. Аднак не толькі гучныя ідэйна-пафасныя творы савецкага часу ён пераклаў, але і тыя, што вызначаюцца гуманістычным зместам. Пераклады Р. Суніцы сведчаць пра пранікліваe аўтарскае адчуванне творчай індывідуальнасці таго ці іншага паэта, сутнасці яго мастацкай вобразнасці і стылю пісьма.

Сёння мы шырэй знаёмім з творчасцю Р. Суніцы, прапануючы вашай увазе яго вершы, апублікаваныя ў тагачаснай перыёдыцы. Асаблівая падзяка гісторыку В. Вяроўкіну-Шэлюту, які дапамог у росшуках тэксту лірычнай секстыны.

**Алесь БЕЛЬСКІ**



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

Рыгор СУНІЦА

## Эх вы, думкі...

*Эх вы, думкі золатазвонныя,*
*Эх ды стромені бяздонныя,*
*Век крынічыць у вас маладасць*
*Неўміручая, разгонная.*

*Вы, бы шыр-палі бязмежныя,*
*Нібы моры безбярэжныя;*
*У вас сіла — сіла волата,*
*Усё у свеце вам падлежнае.*

*Вы й гарача — сонцавейныя,*
*І віхурыста — завейныя,*
*Б'еце вы па часу молатам, —*
*Іскры ў свет лятуць надзейныя.*
1926 г.

## Раніца

*Рана, рана*
*Шчэ не ўзыйдзе сонца,*
*Сцежкай знанай*
*Полем іду ў бор.*

*Свет далёкі*
*Расчыніў вaконцы;*
*Душа рвецца*
*На прастор.*

•

*Па нізінах*
*Спяць яшчэ туманы,*
*На раслінах*
*Зіхаціць раса.*

*Вабіць даллю*
*Свет нязнаны;*
*Золак багровы —*
*Краса!*

•

*Каля рэчкі*
*Не шумяць чароты,*
*І над грэчкай*
*Пчолы не гудуць.*

*Дыша ранне*
*Пахам сотаў,*
*Захад смокча*
*Шэрань-муць.*

•

*Сонейка праменнем*
*Глянула з-за гаю,*
*Усім стварэнням*
*Кліч падала: — жыць!*

*Эх, зямелька,*
*Родны краю,*
*Як вас*
*Не любіць?!*
1926 г.

## На сконе дзён

ЛІРЫЧНАЯ ЭПІТАФІЯ

*Сёння ты задумаўся глыбока...*
*З-пад імха брывей не відна вочаў:*
*Знаць, спаткалі думы-звадыёкі,*
*Пахіснулі сэрца твайго крокі,*
*І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы.*
*Сёння ты задумаўся глыбока...*

*З-пад імха брывей не відна вочаў.*
*Ну, бяда? — вятры камені точуць,*
*Дык няхай і па-над сэрцам крочуць!*
*Ветрам сёння тваё сэрца — камень.*
*З-пад імха брывей не відна вочаў...*

*Знаць, спаткалі думы-звадыёкі*
*Не пяшчыннік крохкі сярод поля:*
*Зваяваць няцяжка яснавокіх,*
*Для якіх пад сонцам свет шырокі.*
*А цябе вось цяжка, мой сакол,*
*Знаць, спаткалі думы-звадыёкі...*

*Пахіснулі сэрца твайго крокі*
*Не табою ўспешчаныя вады,*
*А прыйшлі што госцьмі з таго боку,*
*Скуль і жорсткі вецер, аднабокі.*
*Незнаёмых госцяў шумы-рады*
*Пахіснулі сэрца твайго крокі...*

*І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы,*
*Дзе няма ні месяца, ні зораў,*
*І не відна, у які бок крочыць,*
*Бо старыя вочы ўжо не хочуць*
*Пазіраць у новыя прасторы, —*
*І зблудзіла сэрца ў цёмнай ночы...*

*Сёння ты задумаўся глыбока:*
*Калі долу хіліцца ўжо плечы, —*
*Апынуцца цяжка адзінокім,*
*З акаленым сэрцам і бязвокім.*
*На канцы дарогі чалавечай*
*Сёння ты задумаўся глыбока...*
1930 г.



**ЧАСАПІС**

## Песні і вершы ад Алена




**Вось і адбылася доўгачаканая падзея для аматараў беларускай поп-музыкі — нарэшце з'явіўся першы сольны дыск "Толькі сон" уладальніка Гран-пры фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне навапалачаніна Сержука Хамякова, які вядомы пад артыстычным псеўданімам Ален.**

**Ды не толькі новым дыскам можа парадаваць сваіх прыхільнікаў спявак, але і толькі што аддрукаваным дыхтоўным зборнікам яго вершаў і песняў на беларускай мове. Прадмову да кнігі Алена "Крок зь цемры" напісаў яшчэ адзін знакаміты навапалачанін — пісьменнік Уладзімір Арлоў. У зборніку змешчаны тэксты песень з магнітаальбомаў, вершы, якія адлюстроўваюць розныя этапы творчасці паэта, кампазітара і спевака.**

**Трэба адзначыць, што спонсарамі гэтага фанаграфічна-бібліяграфічнага праекта стала адукацыйна-культурніцкая фундацыя Орса-Рамана, якая аб'ядноўвае прыхільнікаў беларускай культуры і мовы ў ЗША.**

**Менавіта фундацыя Орса-Рамана вырашыла падтрымаць таленавітага выканаўцу з Беларусі, які аддае перавагу мяккім аранжыроўкам сваіх песень, запамінальным мелодыям, што маюць трывалыя карані ў беларускім фальклоры...**

**Асноўны матыў новага дыска — настальгічны ўспамін пра Беларусь падчас свайго падарожжа па Амерыцы ("Вецер — мой брат") і, наадварот, памяць пра амерыканскія рэаліі, з якімі яму цяжка развітвацца, ад'язджаючы на Радзіму ("Сьнежань у N. Y."). Ёсць месца на дыску і лірычным мініяцюрам ("Не рабі так"), танцавальным, рытмічным кампазіцыям ("Халодны дождж").**

**Увогуле ж, дыск будзе вельмі дарэчы ў далёкім падарожжы па аўтастрадзе, калі супрацьпаказаны рытмы, якія выклікаюць прыліў у кроў адрэналіну, калі дарэчы будуць мяккасць, меладычнасць, самарэфлексія...**

**На заканчэнне зазначым, што распаўсюджвае альбом Алена "Толькі сон" і зборнік яго вершаў і песень "Крок зь цемры" Беларуская музычная альтэрнатыва. Яе ж структуры прадстаўляюць інтарэсы спевака па ўсёй краіне. Сачыце за афішамі!**

**А. МІТРАНОВІЧ**

## "Акадэмія" абнаўляецца

**Сёмы год запар сабралася лютаўскімі днямі ў Гомелі Пеўчая акадэмія. Арганізуе гэтую традыцыйную імпрэзу Міністэрства культуры, Беларуская акадэмія музыкі, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама, абласная філармонія і — галоўны ініцыятар, Гомельскі каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага на чале з яго дырэктарам Эдуардам Кірыленкам.**

**16 лютага — заключны дзень гэтай сур'ёзнай музычнай акцыі, таму рабіць высновы пакуль ранавата. Але нават пагартаўшы праграму "Акадэміі", можна меркаваць пра абнаўленне яе творчага зместу.**

**"Музычная культура Беларусі на мяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў" — такі агульны напрамак праграмы. У межах навуковай канферэнцыі замоўлены даклады на актуальныя тэмы: "Аб праблемах музычнага стылю ў харавым мастацтве", "Фальклорныя і сакральныя напрамкі ў харавой музыцы сучасных беларускіх кампазітараў", "Фуга ў творчасці сучасных беларускіх кампазітараў" ды інш.**

**Адмысловым канцэртам была прадстаўлена творчасць Акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы пад кіраўніцтвам Людмілы Яфімавай, чый першы майстарклас у Гомельскім каледжы мастацтваў прысвячаўся ролі творчай індывідуальнасці дырыжора ў працы з прафесійным харавым калектывам.**

**Пашырыўся ўдзел у Пеўчай акадэміі спецыялістаў і харавых калектываў Гомеля: А. Сабалеўская; Г. Крэс і ўзорны дзіцячы хор "Звонкія галасы"; А. Сакалова і Камерны хор абласной філармоніі; А. Баруценка і народны хор каледжа мастацтваў ды інш.**

**Упершыню, і акурат сёння, мае адбыцца прэзентацыя нотных выданняў творчага аб'яднання "Беларуская Капэла" з удзелам яго мастацкага кіраўніка Віктара Скорабагатава ды канцэртмайстра Ганны Каржанеўскай.**

**На заканчэнне імпрэзы абвешчана выступленне гасцей — Чарнігаўскага ўкраінскага народнага хору (мастацкі кіраўнік Сяргей Воўк, музычны кіраўнік Леанід Басовіч), чый канцэрт мае адбыцца сёння ўвечары.**

**С. ВЕТКА**

# Назіранні за белымі воблакамі

З ЛІТАРАТУРНЫХ НАТАТНІКАЎ

●

Юнацтва і маладосць мне памятаюцца дзіўнавата — зімовымі, найперш, прыездамі ў родную вёску, дадому, у шэрань і снежныя гурбы да стрэх, у водар дымоў і ўспамінаў. Спачатку сам сабе, а потым і ўголас выдыхаў: "О мой Божа, як прыгожа!" І за час пабыўкі амаль не пісаў. Апраца гэтай сакраментальнай фразы, у галаве і ў сэрцы круцілася коласаўскае:

*О край родны, край прыгожы,*
*Мілы кут маіх бацькоў!*
*Што мілей на свеце Божым*
*Гэтых светлых берагоў...*

Даўно ўсё мінула. Бясснежнымі, голымі сталі зімы, прытупіліся памяць і пачуцці. Дома цяпер мала пішацца не з-за празмерных эмоцый, а з-за катастрафічнай іх недастатковасці.

●

Шарль Бадлер — адна з самых багатых, а з таго і такіх складаных творчых натур. Ці ведалі б мы пра гэта, калі б паэт не быў да канца, да дна душы шчырым — у сваіх супярэчнасцях, сумненнях, зрывах і заганах? Багацце душы і шчырасць — калі і не ўвесь яшчэ талент, дык, мусіць, аснова, грунт яго. Астатняе — эрудыцыя, вопыт, майстэрства — "надбудова".

●

Геній належыць усяму чалавецтву — аксіёма. Але не менш бясспрэчная ісціна тое, што ў кожнага генія ёсць айчына. Нездарма да сваіх "Крымскіх санетаў" Адам Міцкевіч узяў за эпіграф крылатыя радкі другога генія, Гётэ:

"Хто хоча зразумець паэта, той мусіць наведаць паэтаву радзіму". І сапраўды, нельга глыбінна спасцігнуць "Дзядоў", "Конрада Валенрода", многія іншыя творы Міцкевіча без ведання гісторыі і культуры (звычаяў, традыцый, фальклору і нават мовы) Літвы-Беларусі. У такім кантэксце Міцкевіч — **наш** (айчынны).

●

Апавяданне "Жоўты пясочак" Васіля Быкава і "Рассказ о семи повешенных" Леаніда Андрэева блізкія паміж сабою. Найперш не тэмаю ды сюжэтнымі лініямі — гэта, як кажуць, на паверхні, а псіхалагічнай дакладнасцю ў адлюстраванні стану і паводзін герояў, глыбокім пранікненнем аўтараў у сутнасць чалавечую і антычалавечую, адназначнай гуманістычнай скіраванасцю твораў. І — надзвычайна моцным уздзеяннем на чытача. Як некалі, чытаючы "Рассказ...", я ад жаху пачуваўся адным з семярых, асуджаных на шыбеніцу, гэтак цяпер, акунуты ў быкаўскае апавяданне, быў сярод тых, каго вязуць і ўкладваюць — распраўляюцца без аніякага спачування і з таго больш крывава, чым у Андрэева, — пад "жоўты пясочак"... Карацей кажучы, пісьменніцкімі талентамі, увасобленымі ў іх, блізкія гэтыя творы.

●

Корпаўся ў сваім кніжным запасніку, каб узяць у дарогу што-небудзь спадручнае, і спыніўся на стосе паэтычных буклетаў, выдадзеных у Маскве напярэдадні XI з'езда пісьменнікаў СССР, у 1992-м. Сярод іншых — зборнічак Станіслава Золатцава "Прощенное воскресенье" з надпісам: "...на дружбу!" Сяброўства не мела працягу, і міжволі думаеш, што прычына ў выніках таго апошняга з'езда. Слова "дружба" неадноўчы тады злятала з вуснаў расійскіх пісьменнікаў. Яны ўсё яшчэ спадзяваліся захаваць агульны СП і ўскладвалі немалую надзею на дэлегацыю ад Беларусі. Дзіўна атрымлівалася: СССР ужо распаўся, а яго спрабавалі звязаць-сцягнуць літаратураю. Спроба праваліліся, і яскрая пазіцыя беларускай сябрыны — няхай сабе традыцыйна памяркоўная, але дастатковая: устрымліваемся! — схіліла вагі галасавання на карысць самастойнасці нацыянальных пісьменніцкіх саюзаў. "Здраднікі!" — там і сям выгуквалі з залы...

●

Чую ўжо не ад аднаго з маладзейшых: як ты лічыш, ці не прэстыжней перайсці на рускую мову, каб пашырыць кола чытачоў? Звычайна адказваю: перайдзіце на ангельскую, гэта яшчэ больш прэстыжна, чытаць будзе ўвесь свет.

●

Украінец. Жыве ў Беларусі. Піша парускy. Дакладней, пісаў: ужо два гады як перайшоў на родную, украінскую, мову. Моцна пакутуе і ад кепскага ведання мовы, і ад свайго позняга "прасвятлення" — яму ж пад восемдзесят. Калі сустракаю яго, нязменна згадваю нейкі адмысловы трохжыльны кабель, які быў паказаны па тэлебачанні ў гады галоснасці: адзін провад рабіўся ў адной саюзнай рэспубліцы, другі — у другой, трэці — у трэцяй... А ўсё роўна "плакунам" па зніклай краіне цяжка даказваць, што менавіта штучнае яе ўтварэнне ды паказная еднасць, а не натуральны і непазбежны распад — сапраўдная прычына трагедыі многіх шчырых людзей, у тым ліку творцаў.

●

У першы дзень верасня, ціхі і сонечны, 1996-га адкрывалі мемарыяльную дошку ў Брэсце на доме, дзе жыў Уладзімір Андрэевіч Калеснік. Казалі шмат удзячных слоў свайму настаўніку, чыталі вершы, уважліва слухалі высокіх чыноў, а паўнаты ўрачыстага моманту не адчувалі: вуліца, дзе стаіць дом, так і засталася Чапаеўская, нягледзячы на захады Янкі Брыля, Васіля Зуёнка, Віктара Каваленкі ды нас, берасцейцаў. А яшчэ ж гады два перад тым аналагічныя захады мелі поспех: вуліца Пралетарская ў Ганцавічах была перайменавана ў вуліцу Праскурава (Васіля Фёдаравіча). Аднак тады былі іншыя часы, адраджэнскія...

●

На жаль, не быў на святкаванні "паўсоткавага" юбілею Віктара Гардзея ў яго ных Малых Круговічах, на нашай Ганцаўшчыне. Але, спрычынены да падрыхтоўкі ягонай сустрэчы з земляками, не сумняваўся, што ўсё там пройдзе хораша. Яно так і было, адзіная, дый тая прыемная, нечаканасць — вуліца, названая аднавяскоўцамі ў гонар юбіляра. Намер гэты да апошняга дня трымаўся ў сакрэце, і мне ўявілася прытоена-памяркоўная Віктарава ўсмешка. А падумаць, дык усё натуральна: любяць земляки ягоныя творы, пазнаюць у героях ягонай прозы сябе. Вось і аддзячылі, не чакаючы (цьфу-цьфу-цьфу) "ушанавання памяці", як гэта ў нас вядзецца.

●

Так і хочацца сказаць некаторым шматпішучым: не ўсё, што напісалі, нясіце ў друк. Нешта пакіньце і для нашчадкаў. Няхай і яны памучаюцца, чытаючы.

●

"У мяне ўчора нарадзіўся верш..." — падзяліўся навіною паэт і прачытаў надта паў" у часопісе "Крыніца" за 1996 год, а раней ці то не прачытаў, ці то не звярнуў належнай увагі:

*Два дрэвы злучылі свае галасы*
*І скрыпкаю сталі абое.*
*Скрозь і паўсюды, ва ўсе часы*
*Людзі іх песню завуць любоўю.*

*Сэрца адное*
*У клёна, яліны.*
*Разам яны да апошняй хвіліны.*

*Змоўкне яліна, клён не зайграе,*
*Дзынкне струною —*
*І памірае.*

Зрэшты, твор можа падацца некаму занадта "мазгавым", робленым. Гэтаму адчуванню не падпадзе той, хто (як цяпер я) перанасыціўся лірыкай кахання сентыментальнай, кваліцстай, без філасофскай напоўненасці, важкасці, навізны. Такой па зборніках ды часопісах рассыпана вой колькі!

●

Бадай, ніхто так не пранікае ў верш, не "абмацвае" яго да костачкі (да коскі), як перакладчык: ні сам аўтар, які працуе ў натхненні і не заўсёды да канца асэнсоўвае створанае ім інтуітыўна; ні тым болей чытач, які ўспрымае паэзію найперш эмацыйна; ні крытык, які рэдка калі аналізуе верш асобна ўзяты, а найчасцей — у кантэксце зборніка, некалькіх зборнікаў і г. д. Аднак жа і перакладчык не абсалютны знаўца дадзенага верша, для гэтага трэба дасканала, да нюансаў, ведаць мову арыгінала і быць адразу ў трох іпастасях — і чытачом, і крытыкам, і аўтарам (сааўтарам). Наіўна было б думаць, што ўсе, хто бярэцца за пераклады, імкнуцца да гэтага ідэалу.

●

Несумненна, літаратура, мастацтва не прызнаюць і не цярпяць мяжы дазволенага. Яны не толькі маюць права, а і пакліканы паказваць самы ніз (ці бездань) душы, псіхікі. Ды паказваць як? "Падняць чалавечы дух — гэта правіла для ўсіх нас, — пісаў У. Фолкнер, — для тых, хто стараецца пісаць проста забаўныя гісторыі, для тых, хто піша, каб узрушыць і напалохаць". Гаворка найперш — пра гуманізм.

●

Эколагі і медыкі ўсё з большаю трывогаю кажуць і пішуць пра небачлівыя эксперыменты з генетычнымі зьмяненнямі ў раслінным і жывёльным свеце. Гвалт, што пераходзіць ледзь не ў спартыўны азарт, шкодзіць і прыродзе, і самому чалавеку. Памідор можна "апладніць" нават генамі рыбы, а якія будуць наступствы? Гэты невясёлы жарт навукоўцаў лёгка перанесці на... сучаснае мастацтва, паэзію ў прыватнасці. Цэлае нашэсце выкрунтасных і вычварных "гібрыдаў", а на-

*...А быть может,*
*нынче лучше помолчать,*
*в горло вбив себе молчания печать:*
*разве знаешь ты, в какие времена*
*завтра вступит*
*наша дивная страна?*
*Может, завтра*
*ты ответишь головой*
*за сегодняшний горячий голос твой.*
*Может быть...*
*Но нет страшнее ничего,*
*чем удушье от молчанья своего.*

Што ж, беларусы не прамаўчалі. І, здаецца, не раскайваюцца. А кніжку Ст. Золатцава я ў дарогу прыхапіў і з задавальненнем перачытаў: цікавы, неардынарны паэт.

●

Патэлефанаваў з Баранавічаў малады "геній": пішу, разумееш, пра ўваскрэсенне Заратустры; так, нешта ёсць ад Ніцшэ, але, ведаеш, нашмат лепш... Вось так!

сыры яшчэ твор у залу. Потым апраўдваўся: незадаволены, маўляў, хацеў апрабаваць новае на рэакцыі слухачоў. Ці варта было, калі гэтае новае не жарт, не экспромт? Як і дзіця, верш мала **нарадзіць**, яго яшчэ трэба **выхаваць** і толькі тады **выводзіць у людзі.**

●

Кахае безнадзейна, ды аніяк не развядзецца з жанчынаю, якая яму здраджвае. Гэтак жа не парывае з музаю графамана.

●

Задумалі з Нінаю Мацяш скласці больш-менш грунтоўны — калі "пацягнем", дык анталагічны — зборнік беларускіх вершаў пра каханне. Нават не ўяўляў, якая гэта карпатлівая праца і колькі часу яна забірае. Але не шкадую, што ўзяўся. Хаця б з-за вершаў накшталт "Яліны і клёна" Васіля Віткі. Яго "адка-

Алесь КАСКО

туральнай, здаровай паэзіі ўсё менш. І ці можа хто, сапраўды, прадбачыць наступствы?..

●

Замусолілі да непрыстойнасці: мастацтва, як і ўсё наша жыццё, ёсць гульня. Юнакоў, ледзь апераных творцаў, яшчэ разумею, аднак досыць часта чую тое самае і ад ссівелых дзядзькоў-паэтаў, да таго ж дактароў тэорыі літаратуры. Яны паўстаюць перада мною гэткімі камп'ютэрнымі "чалавекамі-скрынкамі" (выраз Коба Абэ), ад якіх чагосьці жывога, цеплакроўнага не дачакацца. Гэта ўжо не проста гульцы... Для іх сэнсам жыцця паэзія ніколі не была і ўжо не стане. Яны расчараваліся ў ёй, і цяпер вось мусоляць ходкі і зручны афарызм. Авангардысты з прыстаўкаю "псеўда".

●

Як у юнацтве, на пачатку творчасці, не стае майстэрства, так у сталасці — натхнення, якое Марына Цвятаева акрэсліла як "лёгкий огнь, над кудрями пляшущий". З гадамі таго агню, як і кучарак, усё менш, і ўсё ж у сталага майстра ёсць мноства магчымасцей не ператварыцца ў халоднага рамесніка. Адну з іх я назваў бы "спірытычнай", яна ва ўласцівасцях жывой памяці і дакліва́й душы сягаць у тыя глыбіні, дзе дух натхнення нязменны і адкуль ён лёгка "выклікаецца".

●

Згадваю, як ці то студэнтам, ці то яшчэ школьнікам апынуўся ў неадольным "магнітным полі" аднаго патрыятычнага верша з часопіса "Маладосць". І напісаў вершык свой, куды слабейшы і ледзь не плагіятарскі. Пра што мне шчыра, па-мужчынску сказаў Віктар Гардзей, тадышні кіраўнік ганцавіцкага райлітаб'яднання. Было сорамна.

Аналогіі ў паэзіі, якія часам знаходжу, не ўсцешваюць. Не так даўно, адбіраючы інтымную лірыку, напаткаў верш Антона Бялевіча "Ласіны паядынак" (кн. "А ў бары, бары", Мн., 1974). Не магу, каб не параўнаць яго з "Паядынкам аленяў" Міхася Рудкоўскага — вершам, напісаным, бясспрэчна, раней (зб. "Сінія Брады", Мн., 1967). Той жа матыў, тая ж ідэя, тыя ж, па сутнасці, вобразы. Аднак у А. Бялевіча ўсё гэта настолькі агрубленае, што асобныя радкі і нават строфы ўспрымаюцца як парадыйныя:

*— Сыдзі, блазнюк, з мае дарогі!*
*— З дарогі прэч, гарбыль стары!*
*Яны сышліся. Рогі — ў рогі...*

У М. Рудкоўскага пра тое ж — нашмат паэтычней:

*І сыходзяцца строгім шагам,*
*з горда ўскінутай галавой.*
*І звіняць рогі іх, бы шпагі...*

Можна параўнаць яшчэ: "Рашучы бой! Ласіха з ельнічку цікуе: і той — герой, і той — герой!" (А. Б.) — "...а з-за той, што вачамі сінімі пазірае на іх з-за кустоў, што застыла ў маўчанні трывожным" (М. Р.). Творчае саперніцтва? Бадай, не. Магію чужога верша ўсё ж трэба ўмець пераадольваць. Гэта я кажу і сабе, таму самаму ці то школьніку, ці то ўжо студэнту.

●

З іранічна-сумнаю ўсмешкаю пазіраю на адзін з апошніх сваіх вершаў у сшыткучарнавіку. Пачатак: "Вось і восень мая..." Слова "вось" перапраўлена на "гэта" ("гэта восень мая"), а пасля "гэта" заменена на "хутка". Цяпер карціць яшчэ якое слова падабраць... І праўда, ліха яго ведае, што пісаць, калі табе без года пяцьдзесят. Не было б так сумна, парагатаў бы з сябе...

●

Непрыдуманы анекдот. Аўтар да літкансультанта, незадаволена: "Вы не ўлічылі, што вершы гэтыя мне прадыктаваў голас з Космасу, а я проста запісаў іх..." — "Магчыма. Але вам не здаецца, што прадыктаванае вы не расчулі як след і з таго так дрэнна запісалі?"

●

Калі раман — дык эпахальны, калі зборнік вершаў — дык упоравень з боскімі азарэннямі, калі дасledаванне — дык глабальна-вычарпальнае, усё роўна як паводле Гегеля, які сцвярджаў, што пасля яго філосафам няма больш чаго ні адкрываць, ні вытлумачваць. Такая або, калі не ўтрыраваць, амаль такая **рэкламнасць** сёння ў кніжных анатацыях, прадмовах ды пасляслоўях. А чытач яшчэ не настолькі дасведчаны і разборлівы, каб не падманунцца гэткімі "нажыўкамі". Што ж, няхай вучыцца?

# Дзядзька Масей

ЭСЭ

Прайшло ўжо шмат гадоў з таго радаснага і светлага дня, калі мы з ім пазнаёміліся. Цяпер я магу з лёгкасцю, абсалютна ўпэўнена сказаць: так, я любіла і люблю гэтага чалавека. Настолькі, што многія мае знаёмыя, нават родныя, часта адчуваюць уколы рэўнасці, бачачы, як загараюцца ў мяне вочы і як мяняецца голас, калі я гавару пра яго. А найбольш рэўнасці, відаць, выклікае наша з ім сяброўства ў вялікіх краінах-маці, якія клапоцяцца пра нас, — у Беларусі і Злучаных Штатах Амерыкі (краіна — гэта перш за ўсё людзі; думаю, разумееце, што я маю на ўвазе). Кіпіць-хвалюецца акіян, гледзячы знізу ўверх на самалёт, што вязе лісты з кантынента на кантынент: ад старой Еўропы — маладой Амерыцы, ад маладой Святланы — стараму ўжо дзядзьку Масею. Дружба была, ёсць і застанецца, яе ніхто, ніколі і нідзе не парушыць. Ні зламыснікі, ні ворагі, ні шпіёны і разведчыкі, ні вайна, ні рэвалюцыя, ні стыхійнае бедства. Гэтаксама як ні галеча і ні хвароба. Чаму? А таму, што моцная аснова гэтай дружбы, гэтага сяброўства: духоўнае адзінства, блізкасць і падабенства дзвюх родnасных душ, — як пішаце Вы, Масей Іларыёнавіч, у адным з Вашых апошніх лістоў, "капрызлівых і кволых". Гэтая роднаснасць душ нябачнымі флюідамі звязала нас на векі вечныя і ніколі не разлучыць, нават перад аблічам жахлівай і няўмольнай смерці.

"Дарагі Масей Іларыёнавіч!" — гэтак у думках і ў лістах я звяртаюся да Вас. Вы і сапраўды дарагі мне, гэтак жа як і вялізная акіянская ракавіна, знойдзеная некалі ў час нашай з Вамі прагулянкі па ўзбярэжжы Атлантыкі. Я гляджу на гэтую ракавіну, успамінаю Вас, і мне здаецца: мае грудзі паступова напаўняюцца гаючым і свежым паветрам свабоды. І дыхаецца, і думаецца лягчэй, калі ўсведамляеш, што ўжо ніхто не сочыць за табою, ніхто не загадвае табе, што рабіць, не вучыць, як жыць і як правільна хадзіць — галадранцамі, але дружным строем. Я — адна, на самоце, вакол — толькі акіян, пясок і чайкі. Амерыканскія чайкі. І адчуваю: мне робіцца больш зразумелай паэзія эмігранта Масея Сяднёва, наскрозь прасякнутая атмасферай духоўнай і творчай свабоды. Пачынаю разумець каштоўнасць не падуладнай нікому, незалежнай чалавечай думкі. Амерыка ўжо блізкая мне і я ўжо ніколі не здолею яе зненавідзець (як належыць гэта быдлу, загнанаму ўладамі цягам дзесяцігоддзяў у стойла). Не, я — вольны чалавек! Ніхто не мае права зняважаць мяне толькі на той падставе, што стаіць вышэй за мяне...

Нашы сустрэчы з Масеем Сяднёвым бяруць свой пачатак у 1990-х гадах — тады, калі беларусам у Беларусі раптоўна падалося, што і яны могуць быць вольнымі і жыць па-чалавечы. Але, як высветлілася потым, гэта нам толькі падалося... Мы адкрывалі новыя і даўно забытыя імёны, вярталі ў літаратурны абыходак творы рэпрэсаваных пісьменнікаў, дзяліліся ўражаннямі ад пачутага, убачанага, надрукаванага, не баючыся нікога і нічога. Мы верылі, што і для нас надышла новая эра, у якой няма месца залежнасці і страху. Але, Божа мой, на самай справе якімі мы былі нясмелымі, слабымі, бездапаможнымі! Такімі, што неўзабаве нас узялі голай рукой, зацiснулі і растапталі. Праўда, некаторым удалося збегчы, пакінуўшы астатніх, як кажуць, паміж Сцылай і Харыбдай, між молатам і кавадлам. І гэты страх... Ён пранізаў тут усё, ён атруціў нам жыццё, прымушаючы весці змаганне літаральна на роўным месцы, дзе табе ўсё роўна ўвесь лад быцця не дазволіць жыць нармальна (канечне, па буржуазных мерках). Ах, мае авакада, спаржа і артышокі, мае марскія заплывы, мае здаровыя зубы і лёгкія, мае чыстыя ад чарнобыльскага пылу валасы! А якія ў мяне будуць дзеці? Усё магло б быць інакш... Але, безумоўна, не тут. Дарэчы, у нас мала цэняць гумар. Можа, з гэтага і вынікаюць усялякія праблемы?..

Добра памятаю першую сустрэчу з Масеем Іларыёнавічам. Маладжавы пажылы мужчына ў светлым касцюме ўразіў маё ўяўленне сваёй поўнай для мяне нязвыкласцю. Ён сумяшчаў у сабе мноства процілеглaсцей: быў жорсткі і — лагодны, мужны і — баязлівы, шчыры і — таямнічы адначасова. Гэта быў і беларус, і ў той жа час — амерыканец. А галоўнае, ён быў патрабавальны і прынцыповы. Тое, што ён казаў, спачатку здавалася дзікім, але пасля кароткага одуму аказвалася правільным, справядлівым. Напрыклад, тое, што савецкія людзі — эмацыянальна бедныя, ведаюць у асноўным дзве эмоцыі: плач і крык. Назіраючы за нашымі маргіламі, ну хто ж цяпер скажа, што гэта — няпраўда?.. У дзядзьку Масею здзіўлялі незвычайныя жывасць і жвавасць. Да ўсяго яму ёсць справа, усім ён цікавіцца, усё яго хвалюе, займае: цэны і чэргі ў крамах, колькасць і якасць прадуктаў, тавараў у іх, мова і змест тэлеі радыёперадач, палітычныя пытанні, гісторыя, мастацтва, інтэр'ер і г. д. Зразумела, само сабой напрошваецца параўнанне: ці так жывуць людзі ў Беларусі, як у краінах Еўропы, у ЗША, дзе спадар Сяднёў за гады жыцця там многае пабачыў і ўведаў? Нейкае падабенства павінна быць, безумоўна. Але ж не поўнае...

Вось з такіх размоў-параўнанняў і пачыналася наша сяброўства з дзядзькам Масеем. Паводзіў ён сябе заўсёды, як кавалер і джэнтльмен: быў ветлівы, абыходлівы, нават, можна сказаць, галантны. Для кожнага ў яго знаходзіліся ласкавыя выразы прыязнасці, падтрымкі, добразычлівасці. Асабліва падабаўся (і падабаецца) ён нашым беларускім жанчынам. Айчынныя кабеты даўно ўжо адвыклі ад кампліментаў, увагі з боку мужчын. А тут — глядзі ты! Такі надзвычайна пяшчотны паэт-летуценнік!.. І не адна ўжо на Радзіме сустракае і праводзіць яго замілавана-закаханым позіркам. Да таго ж, ён цікавы апавядальнік, ён шмат падарожнічаў па розных краінах свету, у многіх з іх працяглы час жыў і працаваў. Ён ведае, чым "дыхаюць" немцы, італьянцы, англічане і іншыя народы. Таму глыбей разумее душу беларуса: тое, чаго ёй не хапае. І вось ён ужо выхоўвае, вучыць, раіць... А які ён назіральны! Заўважае і такое, што некаторыя хацелі б утаіць, схаваць, і можа сказаць у твар і нешта непрыемнае. Наогул, ён любіць пагаварыць, паразважаць, пафіласофстваваць. Яшчэ ён прыгожа, артыстычна чытае ўслых свае і не толькі свае вершы: яго цікавіць рэакцыя на іх аўдыторыі. Сваім лепшым крытыкам ён лічыць жонку Вольгу Піліпаўну. Сапраўды, гэта і яе разумныя парады ўзгадавалі ў ім паэта, якога калісьці нават вылучалі на атрыманне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. (Чамусьці зараз успомнілася, як у час свайго побыту ў Мінску, едучы ў аўтобусе, Масей Іларыёнавіч, немалады ўжо чалавек, не мог глядзець на тое, што стаіць жанчына, і саступіў ёй сваё месца).

Але ён — цалкам у творчасці, у слове, цалкам адданы ім. Таму — рамантычны і непрактычны. Прыгадваю наш з маці прылёт у Нью-Йорк, у госці да Сяднёвых. Невялікага росту стары, у дублёнцы (якая вельмі нагадвае звычайны сялянскі кажух) і ў шапцы-аблавушцы з апушчанымі вушамі, узрушана паведамляе нам аб тым, што дужа змерз, ловячы таксі, што ўрэшце знайшоў нейкага таксіста, які пагадзіўся адвезці нас з Нью-Йорка ў цяпер ужо родны яму, Масею Сяднёву, Глен Коў. (Паэт тады моцна прастудзіўся і хварэў, мы дапамагалі жонцы яго лячыць). Праз некалькі гадоў пасля гэтага ён трапіў у аўтамабільную аварыю, але ўсё абышлося. (У той дзень у Мінску ні з таго ні з сяго ў мяне раптам, проста ў руках, разляцелася на кавалкі шклянка. Гэтая містыка вельмі мяне напалохала. А тут прыходзіць ліст ад дзядзькі Масея, напісаны чамусьці чырвоным стрыжнем, а не сінім, як звычайна, — з паведамленнем аб аварыі). Было, што ён блудзіў па Нью-Йорку на машыне, — адзнака высокай эмацыянальнасці і вялікага таленту. Паэт ёсць паэт. Ён — як верабейка, якому трэба цепліня, увага, клопат пра яго. Тады ён будзе вясёлы, жыццярадасны, будзе радаваць усіх сваім шчабятаннем. Важна, каб побач з ім быў чалавек з супрацьлеглымі якасцямі — разважлівы, спакойны, цвярозага розуму. Такім рацыянальным сябрам і дарадцам для Масея Сяднёва з'яўляецца Вольга Піліпаўна, адзінае яго каханне. Некалькі гадоў таму яна цяжка хварэла (рак мозгу), перанесла складаную аперацыю. Выжыла, выздаравела. У тыя цяжкія для сям'і месяцы Масей Іларыёнавіч асабліва выразна адчуў, як жа ён любіць сваю жонку. Зноў настала чароўная пара "залатой восені" для Сяднёвых...

Аднак Масей Сяднёў — складаная асоба. Для мяне ён часта недасягальны, не зусім зразумелы. У гэтым пераканалася, працуючы над кандыдацкай па мове яго творчасці. Здаецца, простыя словы, звычайныя канструкцыі, але колькі ў гэтым загадкавага, нязвыклага! Правапіс стары, дарэформенны, вобразнасць — метафарычная, сінтаксіс — абрывісты, экспрэсіўны... У выніку таямніца мовы твораў Масея Сяднёва так і засталася не разгаданай мной. Можа быць, тут вінавата розніца пакаленняў, з-за якой я не магу зразумець дзядзьку Масея? Яго і сапраўды цяжка зразумець. Складаны жыццёвы шлях, эміграцыя праблемы, горкая, пакутная адзінота на чужыне, сум па Бацькаўшчыне... Усё адлюстравалася ў яго творчасці, усё адбілася на яго таленце. Ён шкадуе маладых адораных людзей, якія абмежаваны ў сваіх магчымасцях спазнаць свет, вымушаны дбаць аб кавалку хлеба, а не аб духоўным развіцці. Дабрыня, чалавечнасць Масея Іларыёнавіча — і ў той жа час яго біблейскі, місіянерскі пачатак (бо ён Маісей) утвараюць у яго душы цэласнае адзінства, змушаючы думаць аб выратаванні моладзі (і не толькі беларускай). Ён сам заўсёды малады, нягледзячы на свой салідны ўзрост. Таму з ім можна знайсці агульную мову і весці цікавыя гутаркі. Аб гэтым сведчаць і нашыя лісты, напісаныя адно аднаму. Іх аб'ядноўвае настрой, які некалі Масей Іларыёнавіч назваў "сумам па духоўным Пантэоне".

Тут нам не хапае матэрыяльных даброт, там — не стае Радзімы. Ёсць людзі, якім неспакойна ўсюды, бо іх стыхійнай, настраёвай натуры цесна ў рамках любога грамадства. Да ліку такіх належым і мы з дзядзькам Масеем. Супакоіць, суняць нервовыя парыванні такіх людзей можа толькі эстэтычнае, прыгожае. Асабліва ўзрушваюць, хвалююць краса прыроды, выяўленчага мастацтва, архітэктуры. Музыка — дык гэта наогул родная сястра паэзіі. Таму больш натуральна, арганічна (асабіста для мяне) асоба Масея Сяднёва асацыіруецца з восеньскім Гленкоўскім паркам. Там ён адчувае сябе цалкам вызваленым ад навязаных яму каштоўнасцей і ўмоўнасцей. Там, на беразе заліва, дзе дрэвы з ціхім шоргатам губляюць залацістую лістоту, дзе забываешся на індустрыяльную моц звышдзяржавы, у якой усё гэта адбываецца, — дзейнічаюць законы прыроды і космасу, паводле якіх павінна жыць, існаваць найперш цудоўнае, выключнае, выдатнае. У гэтым парку паэт напісаў мноства вершаў (і якіх!). Здаецца, там заўсёды сонца, увесь час — яснае і цёплае надвор'е. Нішто не трывожыць, не гняце змучаную ўспамінамі душу. І яна ляціць увысь, да аблокаў, чыстых і белых, як сумленне тых, хто не прадаў, не выракся, не адцураўся...

Нават жывучы ў Амерыцы, можна на сняданак есці аўсянку, піць каву без кафеіну, а замест выстаўкі, тэатра або рэстарана ў вольны час сядзець у хаце. Тое ж можна рабіць і тут, у Беларусі. Але ў чалавека павінен быць выбар. За гэта ўсё сваё свядомае жыццё змагаўся Масей Сяднёў. І хаця яго маладосць прайшла на Калыме, затое старасць аказалася спакойнай, забяспечанай і шчаслівай. Так што яго дзеці і ўнукі-"амерыканцы" ну проста аніяк не могуць уцяміць, як гэта людзі могуць не любіць свабоды і дэмакратыі. Яны ставяцца да яго як да гаротнага выгнанца-ўцекача, што ў пэўную эпоху (Божа, які абсурд!) стаў непатрэбным сваёй Радзіме, зняважанай і апляванай. Цяпер надышлі іншыя часы, што злучылі нас і зрабілі сябрамі. І праз столькі гадоў нашага знаёмства мне стала відавочнае адна звычайная, простая ісціна: без Масея зямля для мяне апусцее...

**Святлана ЯВАР**

**Ад рэдакцыі.** *Гэтае эсэ аўтарка прапанавала рэдакцыі яшчэ пры жыцці паэта. Ды, на жаль, сталася гэтак, што друкуем яго, нічога ў ім не мяняючы, цяпер, калі прайшло дзевяць дзён пасля смерці дзядзькі Масея, калі для тых, хто любіў і шанаваў яго, зямля сапраўды апусцела...*

**Калектыў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы музея СЕРЖАНОВІЧ Ірыне Віктараўне ў сувязі з вялікім горам — смерцю маці.**

# Прагнозы спраўджваюцца!

***Перад "Рок-каранацыяй-2000" шмат выказвалася меркаванняў наконт мэтазгоднасці гэтай імпрэзы ўвогуле, яе выніковасці ды карысці для айчыннай рок-музыкі.***

***Упэўнены, што пасля сёлетняга яе паспяховага правядзення, скептыкаў "Рок-каранацыі" паменшыцца, бо імпрэза (арганізатары — выдавецкая фірма "Каўчэг" і яе кіраўнік Юры Цыбін) становіцца патрэбнай і слухачам, і выканаўцам, а значыць — апраўдвае свае наканаванне.***

Сцэнар працэдуры ганаравання лепшых айчынных рок-музыкаў уключаў выступы "рок-каралей" мінулых гадоў. Таму "Рок-каранацыю-2000" распачалі першыя "рок-каралі" — гурт "Крама" і яе легендарны лідэр Ігар Варашкевіч. Зала з захапленнем спявала разам з імі "крамаўскія" хіты "Светлы анёл", "Хворы на рок-н-рол", "Бяжы, хлопец". Забягаючы наперад, зазначым, што "Крама" стала ўладальнікам адмысловай прэміі за бескампрамісную творчую пазіцыю — атрымала права запісу свайго чарговага альбома на студыі "X-Noise Factori", пра што і абвесціў кіраўнік студыі Генадзь Сыракваш. Акрамя "Крамы", мінскіх слухачоў віталі рок-гурты розных кірункаў: "Gods Tower", "Нейро-Дюбель", "Ляпис Трубецкой"...

"Адкрыццём года" быў абвешчаны малады, але ўжо вядомы ў Еўропы гурт "Без білета". Хлопцы "заводзілі" залу сваімі імправізацыямі, жартамі і любімай многімі маладымі песняй "Мая краіна Беларусь!" Будзем спадзявацца, што гэты год стане для "безбілетнікаў" дэбютным у фанаграфіі. Іх альбом "На неба" рыхтуе і будзе выдаваць творчая суполка БМА-груп. "Без білета" сталі ўладальнікамі навюткай гітары "фендэр-стратакастэр", якую па-сяброўску прыпаднеслі ім у дар музыкі гурта "Ляпис Трубецкой".

Дарэчы, гітарная тэма на "Рок-каранацыі" была адной з дамінуючых: спачатку сваё майстэрства прадэманстраваў настаўнік многіх мінскіх рок-музыкаў, гітарыст Леанід Вярэніч, які нагадаў маладым слухачам, што такое блюз, рытм-энд-блюз, джазрок... Спецыяльным прызам быў адзначаны мінскі гітарны майстар Уладзімір Мілун, чыімі выдатнымі інструментамі карыстаюцца і беларускія рок-каралі і, маладыя выканаўцы.

У намінацыі "Традыцыі і сучаснасць" упэўнена перамог этна-рок-гурт "Ur'ia" пад кіраўніцтвам Юрыя Выдронка. Музыкі прапанавалі слухачам свае новыя апрацоўкі, якія ўвойдуць у новы альбом "Ur'ia". Сярод лепшых твораў тут дарэчы ўспомніць эмацыянальны і поліфанічны "фолк-н-рол". Дынаміка развіцця гэтага гурта за мінулы год высунула "Ur'ia" ў лідэры фолк-мадэрна Беларусі, і гэта ўжо адчулі беларускія слухачы, якія горача віталі эксперыменты Ю. Выдронка і яго сяброў.

"Падзеяй года" ў другі раз запар быў названы праект Алеся Сушы — цяпер дыск-фотаальбом "Я нарадзіўся тут". Разгляд і аналіз некаторых асаблівасцяў гэтай працы яшчэ наперадзе, але ўжо цяпер трэба адзначыць плён фундатарскай дзейнасці А. Сушы, якога можна назваць прыкладам для сучасных беларускіх Сапегаў, Радзівілаў, Вайніловічаў...

Ну, а сенсацыяй, як яно і прагназавалася, стала выступленне зоркі беларускага рок-гурта "NRM". Для стварэння незабыўнага іміджу, святочнага настрою ўдзельнікі гурта выкарысталі напрацоўкі такой незвычайнай мастацкай галіны, як бодзі-арт. Гітарыст Піт Паўлаў прадстаў у якасці жывога пергаменту з іерогліфамі і сімволікай "інь" і "ян" — пачаткаў чалавечай натуры.

І хоць куміры беларускай рок-публікі выканалі ўсяго чатыры свае хіты: "Партызанскую", "Паветраны шар", "Песню пра каханне" і "Тры чарапахі", але адчуванне музычнай і візуальнай насычанасці шоу было як у час поўнафарматнага канцэрта.

Ды адкінем эмоцыі і падвядзём рысу. Гурт "NRM" у другі раз за сваю гісторыю стаў уладальнікам "Рок-кароны" як лепшы беларускі гурт, прызнаны выдатным у намінацыі "Лепшая песня" ("Тры чарапахі"), "Лепшы альбом" ("Тры чарапахі"), "Лепшыя тэксты" (Л. Вольскі і А. Дземідовіч), "Лепшы відэакліп" ("Чыстая-светлая" — рэжысёр А. Вечар), Лявон Вольскі да таго ж прызнаны "Музыкантам года!"

Але слухачы, музычныя крытыкі і арганізатары нагадалі, што вытокі культавасці "NRM" таксама ў творчых напрацоўках папярэднікаў — ансамбля "Песняры" да яго кіраўніка народнага артыста СССР У. Мулявіна, які на "Рок-каранацыі-2000" быў названы імі лепшым "Музыкантам стагоддзя".

Прызнанне андэграўндам і яго лідэрамі за свайго натхніцеля творцы так бы мовіць "афіцыйнага" — з'ява унікальная для беларускай культуры ўвогуле. Напэўна, у ёй адзнака нашага няпростага часу!

Ну а прагнозы "ЛіМа" адносна лаўрэатаў "Рок-каранацыі-2000" спраўдзіліся на 99,9 адсоткаў: у мінулым годзе на нашай рок-сцэне дамінавалі беларускамоўныя выканаўцы, якія і былі вылучаны і крытыкай, і слухачамі.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

**Тэатр балета**

*16 лютага* — "Жар-птушка" і "Вясна свяшчэнная"
*18 лютага* — "Рамэа і Джульета"
*21 лютага* — "Стварэнне свету"
*23 лютага* — "Спартак"
*25 лютага* — "Чыпаліна"
*28 лютага* — "Страсці (Рагнеда)"

**Тэатр оперы**

*15 лютага* — "Рыгалета"
*17 лютага* — "Барыс Гадуноў"
*18 лютага* — "Чароўная музыка"
*22 лютага* — "Тоска"
*24 лютага* — "Пікавая пані"
*25 лютага* — "Лючыя дэ Ламермур"
*27 лютага* — "Князь Ігар"

**Купалаўскі тэатр**

*16 лютага* — "Парфён і Аляксандра"
*17 лютага* — "Вечны Фама"
*19 лютага* — "Лес"
*23, 24 і 25 лютага* — "Князь Вітаўт"
*28 лютага* — "Ромул Вялікі"

**Малая сцэна Купалаўскага**

*16 лютага* — "Трыстан і Ізольда"
*17 лютага* — "Крывавая Мэры"
*19 і 26 лютага* — "Восеньская саната"
*21 і 22 лютага* — "Каварства і каханне"
*24 лютага* — "Дагарэла свечачка"

**Горкаўскі тэатр**

*16 і 23 лютага* — "Вольны шлюб"
*17 і 18 лютага* — "Гамлет"
*20 лютага* — "Ад'ютант-Ша ягамосці"
*21 і 22 лютага* — "Тата, тата, бедны тата..."
*24 лютага* — "Прыцемкам"
*25 лютага* — "Раскіданае гняздо"
*27 лютага* — "Тэрмінова патрубецца "самазабойца"
*28 лютага* — "Ваўкі і авечкі"

**Музычны тэатр**

*15 лютага* — "Прынцэса цырка"
*16 лютага* — "Цыганскі барон"
*18 лютага* — "Ноч у Венецыі"
*22 лютага* — "Вясёлая ўдава"
*23 лютага* — "Севастопальскі вальс"
*24 лютага* — "Дон Кіхот"
*25 лютага* — "Даратэя"
*28 лютага* — "Цалуй мяне, Кэт!"

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

*16, 17, 18 і 20 лютага* — "Выспа нашага кахання і надзеі"
*24 і 25 лютага* — "Поле бітвы"
*27 і 28 лютага* — "Астатняя жанчына сеньёра Хуана"

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Смяшок з вяршок

### *Слушная парада*

*— Дзе талія твая? —*
*скрывіўся Бегемот*
*І жонцы даў параду:*
*— Альбо ўцягні жывот,*
*Альбо раздайся ззаду.*

### *Калі здаецца...*

*Упёрся,*
*біў хвастом Тунец,*
*Аж вуда*
*напіналася.*
*Здавалася яму:*
*Ка-анец!*
*Ды аказалася,*
*што не здавалася.*

### *Прывід законнасці*

*Прасіла Мыш,*
*як Кот зубамі кратаў:*
*— Дазволь спярша*
*звязацца з адвакатам.*

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Мармуровыя ступені, па якіх у непагоду ні спусцішся, ні падняцца. Ці не па такіх ступенях год за годам вялі нас у "светлае царства працы".

●

Недзе ў Казахстане моладзь унесла прапанову перайменаваць вуліцу Леніна ў вуліцу Ленана. Любіць моладзь свайго музыку. Па прапанове канчаткова не прынятая пастанова, але цікавая сама прапанова.

●

Ён першы сказаў А? Ну і што? Ёсць ужо, кажуць, алфавіты, якія пачынаюцца з Б.

●

"Савецкае" не гучыць як "ідэйнае" болей, скарэй як амаль што пераадоленае. Тады і страшнае "антысавецкае" не здаецца ўжо такім крамольным. Падумаць толькі!

●

Нябожчыка не любіў, а пайшоў на набажэнства — усё ж "мерапрыемства".



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ



Запрашае кінатэатр "Змена"

**20 лютага а 18 гадзіне** ў кінатэатры адбудзецца сустрэча з пісьменнікам, сцэнарыстам Алесем Петрашкевічам і рэжысёрам-дакументалістам Станіславам Гайдуком. Можна будзе паглядзець дакументальны фільм студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм" "Францыск — сын Скарыны".



ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**

прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 15.2.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 960

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12